# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ

9

1938



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДЗЕВЯТАЯ*






МЕНСК — 1938

## ДРУГАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

У жніўні адбылася Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР. Соцыялістычны парламент краіны Советаў разглядзеў рад пытанняў, якія маюць велізарнае дзяржаўнае значэнне, і прыняў адпаведныя законы.

Абраннікі народа, дэпутаты Вярхоўнага Совета абмеркавалі і зацвердзілі дзяржаўны бюджэт СССР на 1938 г. Даклад наркома фінансаў СССР тав. Зверэва аб бюджэце соцыялістычнай дзяржавы, выступленні дэпутатаў—яскрава адлюстравалі магутны рост і росквіт дабрабыту нашай радзімы, яе гаспадаркі і культуры, адлюстравалі найвялікшыя перамогі, якіх дамогся совецкі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ў будаўніцтве соцыялізма.

За годы сталінскіх пяцігодак бюджэт СССР узрос у 13 разоў, даходы павялічыліся амаль у 15 разоў. У 1938 годзе з агульнай сумы выдаткаў у 131,137,993 тысяч рублёў бюджэт вызначае 47,2 мільярда рублёў на фінансаванне народнай гаспадаркі. 31,4 мільярда на соцыяльна-культурныя мерапрыемствы. Лічбы гэтыя паказваюць грандыёзнасць творчай працы ў нашай краіне. Гэту працу мы вядзем у акружэнні капіталістычных краін, сусветны фашызм вострыць зубы на бацькаўшчыну працоўных усяго свету, японскі фашызм паспрабаваў ашчэрыць свае зубы і ў дні, калі збіраліся на Сесію дэпутаты—прадстаўнікі сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Але воўчыя зубы японскіх самураяў былі скрышаны магутным ударам Чырвонай Арміі ў баях ля возера Хасан. Яны будуць скрышаны і абломаны ў любы момант і ўсюды, дзе толькі вораг памкнецца на нашы свяшчэнныя граніцы.

Увесь народ памятае словы свайго бацькі і настаўніка, вялікага Сталіна: „...Было-б смешна і неразумна закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія ворагі, напрыклад фашысты, не паспрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваенны напад. Так могуць думаць толькі сляпыя бахвалы або зquestionsаханыя ворагі, якія жадаюць усыпіць народ“. „...трэба ўсямерна узмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая „выпадковасць“ і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...“ І таму з такім уздымам, з такім гарачым выяўленнем пачуццяў совецкага патрыятызма сустрэла Сесія прапанову аб павелічэнні выдаткаў на абарону краіны да 27 мільярдаў рублёў супроць 17,5 мільярдаў у мінулым годзе. Сесія, выяўляючы волю ўсяго совецкага народа, аднадушна

зацвердзіла гэта асігнаванне,—наша мірная творчая праца будзе мець магутную абарону, нашы граніцы на моцным замку, і ніхто не перашкодзіць совецкім народам здзяйсняць вялікія задачы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, далейшага ўздыму матэрыяльнага дабрабыту працоўных.

Бюджэт СССР з'яўляецца адначасова паказчыкам бліскучага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Велізарныя сродкі аддае Совецкі Саюз на развіццё эканомікі і культуры нацыянальных рэспублік, народы якіх былі раней прыгнечаны царызмам. Бюджэты саюзных рэспублік растуць разам з ростам бюджэта ўсяго СССР.

У сваіх выступленнях на Сесіі дэпутаты Н. Я. Наталевіч і М. В. Кулагін прывялі рад яркіх лічбаў, якія сведчаць аб магутным уздыме творчых сіл у былой царскай калоніі, цяпер ордэнаноснай Совецкай Беларусі. Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці на тэрыторыі Беларусі ў 1913 годзе (у цэнах 1927 года) складала 89 мільёнаў рублёў, у 1937 годзе—2,1 мільярда. За годы двух сталінскіх пяцігодак на пабудову новых прадпрыемстваў і рэканструкцыю старых у БССР укладзена 140 мільёнаў рублёў, у 1938 годзе на развіццё прамысловасці будзе ўкладзена 66 мільёнаў рублёў, што яшчэ больш узніме яе рост. Да Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі ў Беларусі было 838.400 аднаасобных сялянскіх гаспадарак, асновай „тэхнічнага аснашчэння“ якіх была драўляная саха і барана; цяпер наша рэспубліка мае 9964 калгасы, якія засяваюць 96,4 процанта ўсёй пасеўнай плошчы, яна мае 215 МТС з 8140 трактарамі, 1000 камбайнамі, 3800 малацілкамі, 1200 ільнацерабілкамі, 3416 аўтамашынамі. Далейшае развіццё сельскай гаспадаркі БССР і яе тэхнічнае аснашчэнне забяспечана водпускам 36.465 тысяч рублёў па бюджэту 1938 года. Да рэволюцыі 75 процантаў насельніцтва Беларусі было непісьменным, жанчын непісьменных было 90 процантаў, на асвету выдаткоўвалася 60 капеек на чалавека. Царскі ўрад сеяў цемру і галечу, бяспраўе і мракабессе,—на тэрыторыі Беларусі было 3000 цэркваў, 704 сінагогі, 113 касцёлаў, 5000 манаполек, 6 000 папоў, равінаў і ксяндзоў, але не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Квітнеючая Совецкая Беларусь выдаткоўвае на асвету больш як 100 рублёў на чалавека, яна мае 7069 школ, у якіх навучаецца 1068 тысяч дзяцей працоўных, яна мае 98 тэхнікумаў і 23 ВНУ з 47602 студэнтамі. Наша рэспубліка—краіна суцэльнай пісьменнасці. На соцыяльна-культурныя мерапрыемствы, замест 685 мільёнаў рублёў у 1937 годзе, БССР у 1938 годзе выдаткоўвае 830 мільёнаў,—рост на 21,2 процанта.

З году ў год расце добрабыт, расце нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу культура БССР, гэтак-жа, як і ў іншых нацыянальных рэспубліках, стварыўшых сваю дзяржаўнасць і шчасліва жыццё пры дапамозе вялікага рускага народа і пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Другім пунктам парадку дня Сесія абмеркавала даклад наркома юстыцыі СССР тав. Рычкова—праект „Палажэння аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік“. 14 год мінула з

часу зацвярджэння дзейнічаўшых у краіне „Асноў судаўстройства СССР і саюзных рэспублік“. За гэты час ва ўсіх галінах жыцця і будаўніцтва Совецкага Саюза адбыліся найвялікшыя зрухі, совецкія народы атрымалі Вялікую Сталінскую Канстытуцыю, якая адлюстравала ў сабе і замацавала перамогі социялізма, значна пашырыла і ўмацавала дэмакратычныя асновы ўсёй нашай дзяржаўнай сістэмы, у тым ліку і совецкага суда, паставіўшы перад ім задачу далейшага ўмацавання соцыялістычнай законнасці, рэзкага паляпшэння якасці работы судовых органаў. Закон аб судаўстройстве, прыняты Сесіяй, цалкам адпавядае патрабаванням Сталінскай Канстытуцыі, гістарычным асаблівасцям вялікай сталінскай эпохі і дакладна вызначае задачы суда, яго правы і форму арганізацыі.

Царскае „правасуддзе“ было паслухмянай і вернай зброяй сваявольства, дэспатызма і гнёту, царскі суд быў дагодлівым паслугачом буржуазіі і памешчыкаў. Як ні хаваў ён сваю мярзотную сутнасць за пышныя дэкларацыі аб судзе „правом, скором и милостивом“, народ добра ведаў яго сапраўдную існасць, ён спазнаў увесь яго здзек і знявагу і ў трапнай байцы закляймі̇ў назвай „Шэмякінава суда“. Выконваючы волю сваіх гаспадароў, царскае „правасуддзе“ гняло працоўных, яно няшчадна карала змагароў за лепшае будучае народа, праследвала найвялікшых правадыроў працоўнага чалавецтва Леніна і Сталіна, гнаіла ў казематах лепшых, перадавых прадстаўнікоў прагрэсіўнай мыслі, літаратуры,— яно скалечыла жыццё Чэрнышэўскага, пазбавіла радзімы Герцэна, кідала ў турмы Горкага.

Наш совецкі суд—суд сапраўды народны, суд сапраўды дэмакратычны. У нашым судзе—выбарным, нікім не назначаным— „суддзі незалежны і падначальваюцца толькі закону“. Ахоўваючы заваёвы соцыялістычнай рэволюцыі, абараняючы правы і інтарэсы совецкіх грамадзян, наш суд не толькі карае злачынцаў, ён праводзіць і вялікую выхаваўчую работу, ён вядзе барацьбу з перажыткамі капіталізма ў свядомасці людзей, „усёй сваёй дзейнасцю суд выхоўвае грамадзян СССР у духу адданасці радзіме і справе соцыялізма, у духу дакладнага і няўхільнага выканання совецкіх законаў, беражлівых адносін да соцыялістычнай уласнасці, дысцыпліны працы, чэсных адносін да дзяржаўнага і грамадскага абавязку, павагі да правілаў соцыялістычнага агульнажыцця“.

Уручаючы судовым органам пачэсны меч правасуддзя, совецкі народ даручыў ім па ўсёй суровасці закона караць здраднікаў радзімы, шкоднікаў, расхішчальнікаў соцыялістычнай уласнасці. І хай памятаюць подлыя трацкісцка-бухарынскія дыверсанты і нацыяналфашысцкія бандыты: меч совецкага правасуддзя няўхільна падзе на галаву кожнага, хто толькі адважыцца памкнуцца на заваёвы працоўных вялікага Совецкага Саюза, на наша шчаслівае жыццё, на нашу квітнеючую зямлю.

Зацвердзіўшы закон аб судаўстройстве і абраўшы Вярхоўны Суд СССР, Сесія перайшла да абмеркавання праекта закона „Аб грамадзянстве СССР“. Ва ўсхваляваных прамовах дэпутаты Вярхоўнага Совета гаварылі аб гонары і пачэснасці высокага звання совецкага грамадзяніна, правы якога забяспечаны і ахоўваюцца

Сталінскай Канстытуцыяй. Нязмерна вялікія правы савецкага грамадзяніна! Савецкі грамадзянін мае права на адпачынак, на працу, на асвету, на матэрыяльную забяспечанасць у старасці. Ён мае права на свабоду слова, друку, вулічных дэманстрацый. Ён мае права на шчаслівае, вольнае жыццё.

Не меў гэтых правоў працоўны ў былой царскай Расіі. Ён не быў грамадзянінам, ён быў бяспраўным „падданым" цара. Яшчэ на большае бяспраўе асуджаны былі нацыянальныя меншасці Расіі—сапраўднай турмы народаў. Ім забаранялася нават карыстацца сваёй роднай мовай у грамадскім жыцці, а для яўрэяў царскі ўрад устанавіў „черту оседлости" забараніў ім займацца сельскай гаспадаркай, ствараючы жудаснае жыццё „чалавека паветра".

Нацыянальная палітыка царскага урада, як і ўся яго дзяржаўная палітыка, была накіравана выключна на абарону інтарэсаў эксплаатататараў—буржуазіі і памешчыкаў. Збіраючы зграі раз'юшаных чорнасоценцаў, арганізуючы яўрэйскія пагромы, рэзню „инородцев", царызм імкнуўся адцягнуць увагу прыгнечаных і эксплатуемых мас ад класавай барацьбы.

Жахлівае бяспраўе і здзек з чалавечай годнасці мінулі як чорны сон. Кастрычніцкая рэвалюцыя змяла лад уціску і прыгнёту, вялікі рускі пролетарыят працягнуў руку братняй дапамогі ўсім народам былой царскай Расіі і на ўсіх абшарах яе запанавала магутная і непарушная сталінская дружба народаў—свабодных і шчаслівых грамадзян магутнага Савецкага Саюза.

Чалавек—гэта гучыць горда!—сказаў вялікі чалавекалюбца А. М. Горкі. Як ніколі горда гучыць слова чалавек у краіне, выпеставанай чулым і клапатлівым бацькам народаў—вялікім Сталіным, у краіне, асветленай промнямі рубінавых крэмлёўскіх зор. Няма ў гэтай краіне падданых, няма няпоўнапраўных. Незалежна ад нацыі, незалежна ад колеру скуры—кожны чалавек у нашай краіне—роўнапраўны грамадзянін. Перад ім расчынены шырокія далягляды, перад ім усе магчымасці ўдасканалення, авалодання вышынямі навукі і тэхнікі, захапляючай творчай працы на радасць, шчасце і гонар усяго народа. Ён бязмежна любіць сваю радзімумаці, для яе ён гатовы на гераічныя ўчынкі, ён і творыць іх у славу сваёй бацькаўшчыны.

Легендарныя папанінцы, слаўныя сталінскія сокалы—пераможцы паветраных прастораў, героі Савецкага Саюза—вось дужыя, адважныя грамадзяне краіны Саветаў; яны ва ўсеўзбраенні ведаў і магутнай тэхнікі рухаюць наперад прагрэс і культуру. Аляксей Стаханаў, Пётр Крыванос, Дуся Вінаградава—гэта савецкія грамадзяне, якія ўздымаюць сацыялістычную прамысловасць на новыя вышыні, робяць сапраўдны пераварот у адносінах да тэхнікі, да яе асваення. Народныя артысты, народныя паэты, маладыя таленавітыя музыканты, спартсмены—пераможцы міжнародных конкурсаў—гэта ўсё савецкія грамадзяне, якім радзіма дала ўсе магчымасці для выяўлення сваіх талентаў, для плённай працы на справу яшчэ большага росквіту сацыялістычнай культуры і мастацтва. Скромны і мужны чырвонаармеец Баранаў, закатаваны і знявечаны подлымі самураямі, не вымавіў ні аднаго слова ў здраду краіны, грамадзянінам

якой ён быў. Сотні і тысячы герояў баёў ля возера Хасан, пераможцаў японскіх захватчыкаў—гэта совецкія грамадзяне, патрыёты сваёй радзімы. Наша шчаслівая моладзь, якая з вялікай радасцю і гонарам ідзе ў рады неперможнай Чырвонай Арміі—гэта маладыя совецкія грамадзяне, што сваімі грудзямі, як маналітнай сцяной, гатовы абараняць нашы межы ад нападу фашызма.

Кожны грамадзянін Совецкага Саюза, на якім участку ён ні працаваў-бы,—кожны імкнецца ўзняць вышэй імя і годнасць грамадзяніна совецкай краіны. Пазбаўленне гэтай годнасці—найцяжэйшая кара. Яна пасцігне кожнага, хто здрадзіць інтарэсам сваёй радзімы. Яго, здрадніка, совецкія грамадзяне рашуча і бязлітасна вышвырнуць са сваіх радоў.

Поўныя разумення вялікіх правоў і абавязкаў совецкага грамадзяніна, прынялі дэпутаты Вярхоўнага Совета закон „Аб грамадзянстве СССР“, які ўстанаўляе адзінае саюзнае грамадзянства для грамадзян усіх саюзных рэспублік, а таксама парадак прыёму ў грамадзянства СССР і выхаду з яго.

Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР разглядзела таксама рад пытанняў, унесеных камісіямі Вярхоўнага Совета. Сесія зацвердзіла „Закон аб парадку ратыфікацыі і дэнансацыі міжнародных дагавораў СССР“, падкрэсліўшы яшчэ раз непарушнасць дагавароў, заключаных нашай краінай. Сесія прыняла „Закон аб дзяржаўным падатку на коней аднаасобных гаспадарак“, які ўмацуе дысцыпліну сярод аднаасобных гаспадарак па выкананню дзяржаўных абавязацельстваў і будзе садзейнічаць уцягненню ўсіх чэсных аднаасобнікаў у калгасы. Па прапанове групы дэпутатаў УССР, Сесія прыняла „Закон аб усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, які вызначае шляхі найлепшай яе арганізацыі і пераносіць адкрыццё выстаўкі на 1 жніўня 1939 года. Сесія зацвердзіла таксама рад указаў Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, прынятых у перыяд паміж Першай і Другой Сесіямі.

Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР правяла вялікую дзяржаўную работу, якая накіравана на далейшае, яшчэ большае ўмацаванне нашай соцыялістычнай радзімы. Аднадушнасць дэпутатаў—прадстаўнікоў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных была яскравым выяўленнем аднадушнасці і згуртаванасці ўсяго совецкага народа вакол комуністычнай партыі, вакол правадыра ўсіх народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Яго—мудрага і вялікага—горача віталі дэпутаты, з яго імем на вуснах увесь наш народ вядзе і будзе весці вялікае будаўніцтва соцыялізма, змятаючы са свайго шляху ўсіх ворагаў справы Леніна—Сталіна, да канца выкрываючы і бязлітасна знішчаючы подлую банду трацкісцка-бухарынскіх здраднікаў радзімы і нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў.

Разам з усім совецкім народам атрад работнікаў літаратуры і мастацтва будзе мацаваць совецкую дэмакратыю, якая прынесла сапраўдную свабоду для мастацтва, атуліла вялікай увагай пісьменнікаў, актораў, мастакоў, музыкантаў.

Совецкі народ горача любіць сваё соцыялістычнае мастацтва, сваю літаратуру. Гэта выразна паказала і Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР. Прамоўцы—дэпутаты карысталіся вобразам,

з мастацкіх твораў, што адлюстроўваюць сапраўдную праўду жыцця. Дэпутат О. Ф. Леонава, гаворачы аб класавай сутнасці царскага суда, яго двудушнасці, прывяла яркія старонкі з рамана Л. Талстога „Воскресение“. Бяспраўнасць працоўных у часы царызма яна ілюстравала выразнымі радкамі з твору спевака суму народнага Некрасава. Радкі народнага паэта-сатырыка Азербайджана Сабіра прыгадаў дэпутат М. І. Аліеў, гаворачы пра няшчадны гнёт эксплаататацыі азербайджанскага народа царызмам. Строфамі паэмы Джамбула паказаў І. К. Каракулаў жудаснае мінулае казахскага народа, яго шчаслівае сёння; натхнёнымі радкамі Джамбула славіў ён Сталінскую Канстытуцыю і яе тварца. Мары народа аб волатах працы, якіх нарадзіў ён сёння, пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, пераказаў дэпутат А. Е. Карнейчук вершам украінскага паэта Тычыны. Бурнай авацыяй сустрэла Сесія чаканныя радкі „Вершаў пра совецкі пашпарт“ В. Маякоўскага, якія гэтак свежа і пафасна прагучалі з трыбуны Сесіі ў прамове пажылага, але юнага сэрцам прафесара-ордэнаносца дэпутата В. Н. Образцова.

Дэпутаты Вярхоўнага Совета цытавалі ўсе гэтыя творы таму, што ў іх мастацка паказана праўда жыцця. Якая пачэсная задача стаіць перад совецкімі пісьменнікамі—паказаць захапляючае хараство вялікай праўды нашага жыцця, гістарычных спраў сталінскай эпохі,—паказаць так, каб творы іх захаплялі чытача, хвалявалі яго, выхоўвалі пачуцці глыбокага совецкага патрыятызма, любові і адданасці сваёй радзіме. Якая вялікая і шматгранная тэма совецкага грамадзянства! Колькі сюжэтаў, колькі вобразаў дае совецкім пісьменнікам наша цудоўная сапраўднасць. Служыць народу мастацкім словам, яму аддаць свой талент, сваё творчае гарэнне,—што можа быць больш пачэснага для совецкага пісьменніка—грамадзяніна самай перадавой і самай дэмакратычнай краіны ў свеце!

Упарта працаваць на справу далейшага росквіту совецкай літаратуры, працаваць так, каб творы былі варты нашага гераічнага народа—ганаровы абавязак совецкага пісьменніка.

---

*Пятрусь Броўка*

# КАЦЯРЫНА *)

Паэма

Як ачуняла, вясёлы
Погляд любага спаткаў.
На руках з дачкой Мікола
Кацярыну цалаваў.

І пашлі сям'ёю шчаснай
На ускраіну сяла ...
Гэты дзень быў самым ясным
У хаціне бабыля.

На спатканні маладыя
Наглядзецца не маглі...
Парабчанкі хутарскія
Пацікавіцца прышлі,

Ці зьмяніўся твар, ці голас,
Што на сьвеце сустракаў—
На таварыша Міколу
Хутарскога парабка,

На Міколу—камандзіра,
Што такім уважным быў,
Што прыветна, гэтак шчыра
Пра усё ім гаварыў.

— Шмат паблукаў я зямлёю
Бачыў сёлы, гарады...
Як пайшоў адсюль зімою,
Хутка будзе два гады.

І як сёння добра помню
Оршу, горад над Дняпром,
Там у Гвардыі Чырвонай
Я пачаў служыць байцом.

Быў малодшым я у роце,
Але рана зведаў бой—
Біўся з немцамі на фронце
Пад Ушачай, пад Дзісной.

Быў аднойчы цёплы вечар,
Гэта летась па вясне,
Дзесьці блізка пад Унечай
Цяжка ранілі мяне.

Так мяне пачаставалі,
Ледзьве з болю ачуняў.
І тры месяцы ў шпіталі
Я да восені ляжаў.

Як з хваробы я ачнуўся,
Дзе ляжаць? Адказны год!
У Маскву мяне, на курсы,
Камандзірам і на фронт.

І цяпер палякаў гонім,
Толькі след іх па расе...
Вось і стрэліся сягоньня
Мы здаровыя усе!

Паглядаюць парабчанкі
На таварыша сваіго—
Зорка чырванню заранкі
На грудзях гарыць яго.

Не нацешыцца, цалуе
То у вочкі, то ў шчаку—
Да сябе зусім малую
Прыхінае ён дачку.

---

*) Канец, пачатак у № 7—8.

— Чуеш, краска! Кулі звоняць,
Пан з падпавкамі бяжыць...
Хутка ворага прагонім,
І шчасліва будзем жыць.

Чуеш, кулі загудзелі,
Будзе нашаю зямля...
Аж да пеўняў прасядзелі
У хаціне бабыля.

Ноч у ліпені каротка...
Ён чуць золак устае,
Едзе ў хутар, па заробкі
Кацярыны і свае.

Дзе-ж Кузьма? Куды падзеўся?
Клікнуў солтыса... Няма!
Як відаць, да часу ў лесе
У кустах сядзіць Кузьма.

Дзе ты, злыдзень касавокі?
Хоць-бы хто, як змёў віхор...
Чапяла старая толькі
Крадкам выпаўзла на двор.

— Ах, Міколка!.. сокал-свецік!..
Ты, гаротнай, мне павер—
У падводах сам і дзеці,
Як забралі у чацвер.

Вашы-ж і пагналі ноччу,
Каб здарова я была!..
І жагнаючыся, моўчкі
Ад Міколы адышла.

— Ладна, ведаю, што хлусіш.
А сыны у палякоў.
Пачакай, назад вярнуся...
Мы разлічымся наноў.

Я тады усё прыпомню,
Колькі з вас, за колькі год?..
І у гэты-ж дзень, апоўдні
Ад'язджае ён на фронт.

Па саджоніку ліповым,
Побліз рэчкі, на краю,
Ён каня вядзе за повад
І дачку нясе сваю.

Наусцяж кусты ажыны
Нахіліліся к вадзе...
У трывозе Кацярына
Поплеч любага ідзе.

Колькі месяцаў чакання,
Застаюцца зноў адны.
На дарогах скрыжаваных
Прыпыніліся яны.

Ветры з захаду над імі,
Порах зведаўшы, плылі,
Ёлкі лапамі густымі
Прыпадалі да зямлі.

Недзе грукнуў дзяцел. Змоўчыў,
Мабыць выскачыла рысь...
Пыл кружыў. Сляпіла вочы,
Ападаў зялёны ліст.

Ростань блізкую Мікола
У душы перажываў,
Колькі раз сваё малое
Прыхінуў, пацалаваў.

— Падрастай, мая дзяўчынка,
Маці бедную шануй...
Будзь здарова, Кацярынка,
Я вярнуся, не сумуй!

Вецер бы знарок суняўся,
Каб паслухаць... Цішыня...
А Мікола развітаўся,
Скочыў спрытна на каня.

Шпорамі паддаў у бокі,
Па дарозе паскакаў...
Соснік смольны і высокі
Падарожніка схаваў.

Кацярына на работу
Зноў хадзіла на сяло,
Хоць і цяжка адзінотай,
Але ўсё лягчэй было.

Бо глядзелі ўсе іначай,
Бо ніхто не дакараў,
А рэўком паёк прызначыў
І грашыма пасабляў.

Толькі часам сумавала,
Што не піша. Згінуў мо'?
Цераз тыдзень атрымала
З Ліды першае пісьмо:

— Я пішу табе сягоння,
Першы раз, як мы стаім,
Кожны час праклятых гонім...
Днём і ноччу у баі.

Б'юся добра, мне здаецца,
У штыкі не раз хадзіў,
Вось і ўчора—у разведцы
Я з таварышамі быў.

Цемра. Багнішча навокал.
Лес. Калючыя кусты...
Мы заехалі далёка
Супрацііўніку у тыл.

Бачым—польскія жаўнеры
Мост наводзяць на раку.
Мы цішэй... цішэй наперад...
Прытаіліся ў гайку.

Толькі нехта зварухнуўся.
У наш бок яны глядзяць...
І шапчу я: „Чуюць, мусіць...
Нам адсюль не уцякаць!"

Разбірацца будзем потым,
Хто застанецца ў жывых..."
Ды з ручного кулямёта,
Як ударылі па іх...

У раку палегла многа.
Непрыемным быў ім час!..
Потым з берага другога
Быццам полк сыпнуў на нас.

Калі так, гайда дахаты,
Малаваты наш атрад!
Кінулі са дзве гранаты,
Мост зламалі, ды назад,

Да сваіх, хто сцежкай, бродам,
Хто балотам, хто уплаў...
Нас усіх да нагароды
Камандзір палка падаў.

Ужо вечар у хаціне,
Гасне ў комінку карчак...
Добрай весткай Кацярына
Не нацешыцца ніяк.

Паглядзіць, перагартае,
На нязграбныя радкі...
Колькі раз адны чытае
Сэрцу родныя листкі.

Пазаве дачку, а слёзы
Ад уцехі пабягуць...
А сялом рыпяць абозы,
На заход праз ноч ідуць.

Дзень і ноч дымяць бясконца
Пылам душныя палі.
Тое лета грэла сонца
Як ніколі на зямлі.

Без абутку, без адзення
Плыў дарогамі паход...
Мужнай сілай вызвалення
Быў ахоплены народ.

Кацярына жне, ці косіць,
Паглядае за сяло.
Два пісьмы яшчэ пад восень
З Беластоку ёй прышло.

Быццам з ім пагаварыла,
Быццам бачыла сама,
Колькі радасці насіла...
А пасля—няма й няма,

Не чуваць. Туман садамі
Белым кужалем вісіць.
Ужо лісце пад нагамі
Аж па забарсні шуміць.

Грушы, яблыкі навокал
Парастрэслі падалы,
Журавы ключом высока
Завялі: курлы... курлы...

Заружовіўся брусьнічнік.
Спяць асокі над вадой...
На двары прышоў кастрычнік.
Дзе-ж Мікола, што з табой?

Надышлі вятры, марозы.
Першы снег ужо ляжыць...
Кацярына у трывозе,
Па начах яна не спіць.

Наплываюць здані роем.
Можа дзе папаў ў палон,
Можа дзе забіты ён?
Адыходзяць нашы з боем.

Вось і люты на сыходзе...
Мір, сказалі, надышоў,
Шмат вярнулася дамоў.
А яго няма, ды годзе.

Папытаецца, паплача,
Толькі весткі ніякой...
Можа хто Міколу бачыў,
Ды сказаць не хоча ёй.

Часта гляне, выйдзе з хаты,
Ціха ў полі за ракой...
— Не відно, дачушка, таты,
Нешчаслівыя з табой!

І табе сірочай долі
У жыцці не мінаваць...
Хутка выйдуць людзі ў поле,
Будуць сеяць і араць.

Будзе жыта красавацца,
Пройдуць песні па сялу...
Мы-ж адны у гэтай хаце,
Як сарокі на калу.

Кацярына з вокнаў бачыць—
Ходзяць людзі чарадой,
Поле дзеляць, не іначай,
Адабранае крывёй.

Пройдзе хто кірункам роўным.
Потым сыйдуцца гуртом,
Змераць сажнем самаробным,
І азначаць шнур капцом.

Абуджае дол шырокі,
Заспрачаюцца калі—
Крык хвалюючы, глыбокі,
Крык адвечны па зямлі.

Гэты крык да сэрца блізка
Кацярына прыняла.
Лёс успомніла бабыльскі,
Як на хутары жыла.

Як задарма працавала,
На чужога, сіратой...
Усю ноч зямля стаяла
Неадходна перад ёй.

Мець-бы свой загон. Дагледзіць
Па кавалку засяваць...
Раніцой прышлі суседзі:
— Што-ж на полі не відаць?

Пойдзем разам з намі сёння,
На узгорку, пры гайку,
Пяць гектараў мы адгонім
На цябе і на дачку.

І была тады, у ранку
Так усцешана яна.
Сам адмерыў ёй дзялянку
Сельсовецкі старшыня.

— Абжывайся, Кацярына,
На прыпірышчы сваім,
Мы цябе адну не кінем,
Дапаможам крыху чым.

Кацярына выцірала
Твар свой стомлены, бляды...
Першы раз сябе пазнала
Гаспадыняю тады.

І пашлі кругом клапоты.
Як парадзіць, што зрабіць,
Як зажыцца адзінотай,
Чым-жа рукі зачапіць?

Як зіма на рэкі спала,
Запылалі сонцам дні—
Свой палетак узарала
На папрошаным кані.

Па адной збірала жмені
І пшаніцу і гарох.
Колькі мог яшчэ насеннем
Камітэт ёй дапамог.

За сяўнёй сама хадзіла,
Хоць і ў познія часы...
А, пасеяўшы, прасіла
Шчасця, цёплае расы.

Як-жа коўдраю густою
Зашумела ярына,
Кожны дзень удвох з дачкою
Наглядаць ішла яна.

Прыпадзе да збожжа ніцам,
І расчуліцца да слёз:
— Ты расці, ячмень, пшаніца,
Уздымайся, мой авёс!

Многа беднаму не трэба.
Усяго патрэбны той—
На зіму кавалак хлеба,
Ды сукенка для малой.

Каб вас буры абмінулі,
Хмары з градам абышлі...
Возьме ў рукі і прытуліць
Горсці свежае раллі.

— Паглядзі, дачка, на поле,
Гэты кут нам родным стаў,
Вось за гэту нашу долю
Бацька з панам ваяваў.

Глянь уніз—ручай дыміцца,
Блізка возера, сяло...
Лепшай месціны, як быццам,
І на свеце не было.

— Падрастай-жа, Кацярына,
Можа сілы сабярэм,
І сюды сваю хаціну
Мы пад гай перанясем.

Загадуем сад навокал.
Там зязюля закуе...
Узнімаліся высока
Мары светлыя яе.

Лета. Жнівень нахіліўся
Да сярпоў і да касы,
Жоўтым воскам наліліся
Медзяныя каласы.

Дзень спякотны і вясёлы
З песняй жніўнаю прышоў...
Ледзь раса падзе да-долу,
Поўна поле галасоў.

Кацярына рук не чуе,
Так стараецца яна,
А сваю дачку малую
Пакладзе у таганах.

На хвілінку толькі, можа,
Адхінецца пакарміць,
За жнівом палоскі збожжа
Аж да вечару стаіць.

Так адна усё пажала,
Не пазней за добрых жней.
А па восені сабрала,
Змалаціла у людзей.

Захвала ўсё як трэба,
Што пад лавы, што на печ...
І зіму з уласным хлебам
Не баялася сустрэць.

Па кавалку ашчаджала,
Гаспадарнаю была.
Пад вясну яшчэ прыдбала
Гадавалае цяля.

Аглядзела ўсё наўкола
Ды патроху зажыла...
Толькі ў горы па Міколу
Слёз суцішыць не магла.

А гады ішлі няспынна,
Многа вёсен перайшло...
Уздымалася краіна,
Будавалася сяло.

Шмат каго, амаль палова,
Перабралася даўно
Ў хаты з бёрнаў смольных,
новых...
Хто наладзіў і гумно.

А на гумнах скірты хлеба,
Сена звезена з лугоў...
Ды не ўсе жывуць, як трэба,
Многа ёсць і беднякоў.

Шмат бяды яны сустрэлі,
Кожны на сваім двары...
І дарэмна камянелі
Апусцелыя шнуры.

То няма ў каго мужчыны
І не можа сіл узняць,
То, як наша Кацярына,
І адна, і без каня.

То скалоціць град да звання,
То пажар, то недарод...
Так і мучацца звычайна,
Б'юцца рыбай з году ў год.

Набрыдзе якое ліха,
То яшчэ чаго няма...
А на хутары, пацiху,
Акапаўся зноў Кузьма.

Агародніцтвам заняўся,
Засадзіў вялізны сад.
Новым колерам прыбраўся
З галавы да тоўстых пят.

Заўжды ветлаю усмешкай
Ён суседзяў сустракаў,
Лішкі поля пад абрэзку
Сам пакорліва аддаў.

Парабчанак зноў трымае,
Як раней, усёадно.
Ён загад ахоўны мае
З НКЗ ужо даўно.

Стаў актыўнічаць. І болей—
У бязбожнікі ўступіў,
Дзе, за солтыса ніколі,
Ён клянецца, што не быў.

Увесь час, дзе толькі людзі,
Жыць культурна заклікаў.
Нават два значкі на грудзі
Сам сабе прымайстраваў.

Толькі дарма ён, багаты,
Думаў чмутам абыйсці,
Бо прышоў дваццаць дзевяты
Год узлёту у жыцці.

Зашумелі буйна вёскі,
Загудзеў шырокі дол...
Поля вузкія палоскі
Сабіраліся вакол.

На сяле збіралі коні,
Збрую пачалі складаць,
Неслі сохі і бароны
На адзін вялізны пляц.

І гудзеў узняты часам
Чалавечых сіл прыбой...
Нараджаліся калгасы
Працавітаю сям'ёй.

Па начах і днях, няспынна,
Гаманіў кругом народ.
Помніць добра Кацярына—
Раз паклікалі на сход.

Як прышла ў нардом у залу,
Дзе клубіўся крык і дым,
Як да ночы прастаяла
Познім вечарам адным.

Па кутках усіх кабеты
Не маглі дзяцей суняць...
За сталом ад сельсовета
Сакратар і старшыня.

Побач сельскія мужчыны
Кураць моцны самасад.
Паміж іх адна жанчына—
Гарадская, на пагляд.

І яна гаворыць. Чутна,
Як пытае колькі раз,
Як заве сялян прысутных
Запісацца у калгас.

Вось збыліся вашы мары,
Для усіх цяпер зямля!
Хто тут сэрцам пролетары,
Падыходзьце да стала!

Вышла некалькі дзябёлых
Пад камандаю Кузьмы,
Пакланіліся да долу,
І сказалі:—гэта мы.

Да ўсялякай працы звыклі,
Просім толькі аб'яднаць,
Мы сялу пакажам прыклад,
Як сумесна працаваць.

Хоць у нас нямнога сілы,
Неяк справімся адны...
Ї ўсіх сялян здзівіла,
Што задумалі яны?

Загула трывожна зала,
Усхадзіліся жанкі...
Кацярына адчувала,
Што хітруюць кулакі.

Закрычаць яна хацела,
Каб пачуў увесь народ—
Гэта іх яна сустрэла,
Як ішла сюды на сход.

У завулку каля брамы,
Прытаіўшыся кружком,
Ї Кузьма стаяў з сынамі
Ї даўнейшы аканом.

Поп Андрэй з бычынай шыяй,
Два гугнявыя дзякі,
Дваураднікі былыя
Ї з фальваркаў шляхцюкі.

Самагоншчык—сажань ростам...
Ї шаптаў усім Кузьма:
—Калі што... дык вельмі проста!..
Болей выхаду няма.

Не паспела Кацярына
Думкі выказаць свае,
Як прыезджая жанчына
Кулакам адказ дае:

— Вы смяяцца, не іначай,
Тут прышлі сягоння з нас...
Вас патрэбна раскулачыць,
А зямлю забраць ў калгас.

Паглядзелі косым вокам,
Зажагнаўся поп Андрэй,
Ї усе на колькі крокаў
Падаліся да дзвярэй.

Зашапталіся пацішу...
Хтосьці лаянку загнуў.
А Кузьма сагнуўся крыху,
Тройчы з гора кашлянуў.

Нехта вуліцай галёкнуў
Ї прамчаўся на кані...
Зазвінела шкло на вокнах,
Паляцелі камяні.

Лямпа грукнула са столі.
Цемра. Лямант. Дзікі крык.
Стогны несліся ад болю.
Гулка бахнуў драбавік.

Тупат ботаў несупынны.
Крэслы, зэдлікі трашчаць...
А з падлогі Кацярына
Не магла ніяк устаць.

Затапталі ў гвалце, ў тлуме,
Агарнуў балючы сон,
Толькі раз апошні чула
Крык суровы: „наўздагон“!..

У кутку пустое залы,
Апрытомнеўшы адна
Ледзь адужала, устала,
Так знясілела яна.

Нават хустку, што згубіла,
Не патрапіла знайсці...
Каля сценкі адпачыла
Ї сабралася ісці.

Ды ніяк не знойдзе дзверы,
Быццам хто забіў знарок.
Раптам чуе нехта ў цемры
Застагнаў і потым змоўк.

З галавы да ног па целу
Перабег калючы жах.
Што асіна задрыжэла,
Забалела у грудзях.

Што рабіць яна не знала,
Хто тут гіне уначы?
Моўчкі вобмацкам шукала
На каленях паўзучы.

Ї пазнала Кацярына,
Што у покуце нічком—
Брыгадзір ляжыць, жанчына,
З акрываўленым чалом.

Ледзь кранула. Пагукала...
Не адказвае маўчыць...
Да самой яе прыпала,
Прасвятлела: будзе жыць!

Пра свае забыўшы мукі,
Усхапілася тады,
Кубак трапіўся пад рукі,
Узліла на твар вады.

Прыўзняла, абмыла рану,
Што чарнела над ілбом,
Галаву яе старанна
Абвязала фартухом.

Толькі хворая адкрыла
Вочы. Да сябе прышла.
Світкай зрэбнай атуліла
І панесла, як магла...

. . . . . . . . . . . . . . .

Як прынесла у хаціну,
Узыходзіла зара...
— Гэта я тут, Кацярына,
Гэта я, твая сястра!

Ты мяне усё пытаеш,
Што было ўначы з табой
Не хвалюйся, дарагая,
Вельмі шкодны непакой.

І падружку абняла,
Зеллем, мятай напаіла,
Спаць з малою палажыла
Ды людзей шукаць пашла.

Што рабіць, яна гадала...
Усе пакінулі адну.
Па дарозе напаткала
З сельсовета старшыню.

Бег ён з гумнаў за ракою
Па дарозе крыжавой,
Перабырзганы гразёю,
З падвязанаю рукой.

Усхвалёваны адзіным,
Ён, здалося, ледзьве жыў...
Запытаўся: Кацярына,
Ці не знаеш ты, скажы!

Можа ты у гэтым горы
Можаш мне дапамагчы—
Дзе інструктар, што учора
Выступала уначы?

І, калі пра ўсё старанна
Колькі раз перапытаў,
Кацярыне пра здарэнне
Ён усё апавядаў.

Як бандытаў даганялі,
Як у лесе ў хмызняках
Двух сыноў Кузьмы спаймалі
І вясковага дзяка.

Як яны з абрэзаў білі,
Імкнучыся уцякаць,
Як яму кінжал ўсадзілі
У руку па рукаяць.

А ў хаціну Кацярыны
Сабіралася сяло...
Там да хворае жанчыны
Шмат даведацца прышло.

Перавязывалі раны
Чыстым кужалем наноў
Два чырвоных партызаны,
Парабчанкі з хутароў.

І здаволена жанчына
Што ў бядоце не адна.
Старшыню і Кацярыну
Стрэла з радасцю яна.

І да хворае пад вечар,
Як займалася змяркаць,
Прыскакаў з раёну фэльчар,
Каб у больніцу забраць.

Не схацела. Кажа, потым
Буду я адпачываць.
Дзе хварэць, калі работа
Нас не можа тут чакаць.

Дарма, ён прасіў няспынна,
Не зазваць яе нічым.
Засталася. З Кацярынай
Гаварылі да начы.

Ледзь газніца мігацела
З абымшэлага кутка...
Моўчкі слухала, сядзела
Невялікая дачка:

Ёсць над вуліцамі зоры
З незгасаючым святлом,
Ёсць дзівосны свет, ёсць горад,
Што далёка за сялом.

— Там, дзе гэтулькі багацця,
Мы жылі на пустыры.
Нас было пяцёра ў хаце:
Тры браты і дзве сястры.

Помню год цяжкі, бядацкі,
Як памерлі па вясне—
Маці з голаду, а бацька
Партызанам на вайне.

Хай віхор і той адзіны
Нашы слёзы не знясе,
Як з гнязда, што вецер зрынуў,
Разляцеліся усе.

Ды на фронт. Хто далей, бліжай,
Біць нягоднікаў-паноў—
Дзве сястры з чырвоным крыжам,
Трое коннікаў—братоў.

Як прамчалася па свеце
Дваццаць першая вясна,
Хто прышоў з апошняй сечы?
Я вярнулася адна.

Гэтай ростані, да болю
Мне ніколі не забыць.
Мне за іх паклала доля
Працаваць цяпер і жыць.

Шчасцем гордым надзяліла
За ўсю маю сям'ю...
Свой завод я палюбіла
Быццам моладасць сваю.

Ноч плыла на чорных крыллях,
Месяц распаліў касцёр,
А сяброўкі гаварылі
Нескончона пра жыццё.

Быццам з даўнага знаёмы,
Быццам кроўнымі былі...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Раніцой у сяло з райкома
Два таварышы прышлі.

Падрабязна разузналі
Аб нападзе кулакоў,
Беднату усю сазвалі,
Сход прызначылі ізноў.

І сяброўцы Кацярына
Дарма раіла ляжаць.
Нават хворую жанчыну
Не магла яна стрымаць.

Што не гледзячы на мукі
З Кацярынаю пайшла...
Тая хворую пад рукі
Да нардому давяла.

Там, за доўгімі радамі
Шмат узбуджаных галоў—
Ні Кузьмы з яго сынамі,
І нікога з іх сяброў.

Пахаваліся бандыты.
Іх адкінуў грозны час!
А сям'ёй з'яднанай, злітай
Быў народжаны калгас.

Толькі нехта раз адзіны
Злосна выкрыкнуў з кутка:
— Што такое? Кацярыну?
З горкім дзіцем на руках.

Кацярыну сход прымае,
Багацеяў-жа усіх
Раскулачыць тут рашае
І забраць маёмасць іх.

У Кузьмы, відаць, чакалі,
Мабыць вызнаў ад каго,
Бо таўшчэзныя завалы
Запіралі двор яго.

Доўга грукалі у браму.
Нават гуку не чутно.
Ледзь прайшлі, нарэшце, самі,
Абышоўшы праз гумно.

Па хлявах раўлі каровы.
Выў сабака у сянях...
Што убачылі? У словах
Не пакажаш гэты жах.

Подсцілка крывёй заліта
На вялізным дзянніку.
Многа тут цялят забітых,
Іх галовы у баку.

Уздымаўся пар клубамі,
Апускаўся зноў наніз—
Над застыўшымі вачамі,
Што глядзелі дзіка ўвысь.

Гаспадар, увесь у поце,
Не спыняўся, працаваў—
Ён чырвоныя па локці
Рукі ўгору уздымаў.

Вочы дзікія, што ў звера,
Не выскаківалі ледзь.
І шырокая сякера
Раздавала грозна смерць.

Як адкрыліся вароты
І людзей убачыў ён,
Кінуўся да іх. А потым
Прыдушыў глыбокі стогн.

Стаў і плакаць і смяяцца,
Выцер кроў на рукаве,
І апошняму цяляці
Сякануў па галаве.

Што спытаюць—утрапёна
Ледзь праз вусны прабурчыць,
То забіта, то замкнёна,
То не знае, дзе ключы.

А ў маленькай прыбудове
Быў яго таемны склад—
Там стаяў напагатове
Самагонны апарат.

Між падлог знайшлі адзенне
Розных армій і часоў,
Сёдлаў некалькі ваенных,
Многа збруі і падкоў.

А у свірнах, пад замкамі,
Поўны засекі дабра.
Столь закрыта кумпякамі,
Кублы сала, што гара.

Назапашана багацця,
Толькі ўзяць ды падлічыць,
Што па клунях, што у хаце,
Цэлай вёскай можна жыць.

Кацярына не стрывала:
— Паглядзіце на яго,
Гэты гад забраў нямала
І Міколы і майго.

І Кузьма ў адказ рыдае:
— Божа, воля будзь твая,
Бо за ласку папікае,
Што яе прыглядзіў я.

Мы сям'ёю працавалі
Як усе. І так жылі...
Вы-ж маіх сыноў забралі,
Загубіць мяне прышлі.

Я сваім гарбом зажыўся.
Кіньце вы дарэмны спіс!..
Доўга кляўся і бажыўся
Панскі солтыс, хітры ліс.

Не пасобілі крыўлянні,
Ні гразьба, ні жальба слоў,
Дзень апошні панавання
Кулака Кузьмы прыйшоў.

А на полі пад снягамі
Зашарэліся гаі...
Снежань срэбнымі ключамі
Замыкае ручаі.

Завялі вятры над голлем
Несканчоны, дружны спеў.
Першы санны шлях на полі
Палазамі зарыпеў.

Таварышку ў горад дальні
Кацярына правяла,
Ад прыязнага спаткання
Успамінамі жыла.

Той зімоваю парою
Узмацняўся, рос калгас.
Удваіх з малой дачкою
Працавала першы час.

Хоць людзей было нямала,
Ды для усіх работы шмат—
Даглядала, гадавала
І авечак, і цялят.

Многа першыя часіны
Мела клопату яна,
Ды шчаслівая Кацярына,
Што ўжо болей не адна.

Што не быць ёй голай, босай...
Роўнай з роўнымі жыла.
Нават хата, ёй здалося,
Стала бліжай да сяла.

На душы было вясёла.
Так хацелася спяваць,
Між дзяцей дачку са школы
Як прыемна сустракаць!

Прыбяжыць у захапленні,
Прыхінецца галавой,
Потым сядзе на калені
І чытае доўга ёй,

Чым зямля багата наша,
Як на свеце многа дзіў!..
Падрабязна перакажа,
Што настаўнік гаварыў.

— Трэба ехаць полем, борам,
Можа тыдзень, можа два
У такі вялікі горад,
Як Чырвоная Масква.

У тым горадзе, уночы,
Ад святлейшага святлей—
Пасярод Чырвонай плошчы
Ёсць прыгожы маўзалей.

Ён гранітны і высокі,
Варта перад ім стаіць...
У цішы яго глыбокай
Неўміручы Ленін спіць.

З поўдню, з поўначы, з усходу
Ад сусвету усяго—
Усе плямёны і народы
Там наведваюць яго.

Пры жыцці сваім з панамі
Ён заўсёды ваяваў.
Ты скажы мне, слухай, мама,
Ільіча мой тата знаў?

Кацярына зажурыцца,
Так на сэрцы забаліць...
І пачне сваёй дзяўчынцы
Пра Міколу гаварыць.



Часта у часіну тую
Ўспамінае аж да слёз,
Як на ростані малую
На руках у лесе нёс.

А дачушка прыхінецца,
Шэпча маці, колькі раз:
— Ціха, мама... Мне здаецца,
Тата вернецца да нас.



Ї не кіне больш ніколі,
Ціха, мама, ты са мной...

. . . . . . . . . . . . . . .

Адышла зіма. На полі
Задымілася вясной.

Людзі дружнаю сям'ёю
Вышлі разам працаваць;
Пяць брыгад арэ ярное,
Тры канчаюць будаваць.

Над калгасам гул сасновы
Не спыняўся той парой...
Ї цялятнік вырас новы
На узгорку, над ракой.

Многа там стаяла дробных
З гэтае зімы цялят,
Кожнаму куток асобны
Ї прадуманы дагляд.

Як яны усе рыкалі,
Калі хто пачне гукаць—
Па імю усіх назвала
Кацярыніна дачка.

Ды па слыху іх адразу
Размічала галасы.
Часта з маці гнала разам
Днём на пасту пад лясы.

Там прастору ім багата
З роснай, смачнаю травой.
Луг мурожны. Ходзіць статак
Неўгамоннай чарадой.

Дзве імклівых ручаіны
Напаўняюць звонам дол...
Паглядае Кацярына
На палеткі навакол.

Жыта буйна каласіцца,
Нахіляецца чалом.
Ячмяні, аўсы, пшаніцы
Заняліся кажухом.

А ляны... Як глянуць вокам—
Сінім полымем цвілі...
Як прыгожы і шырокі
Вы, калгасныя палі!

Дружнай працы плён шчаслівы
Наусцяж шуміць сцяной...
— Глянь, дачка, на нашы нівы,
Як багаты мы з табой!..

Гэта ўсё для чалавека,
Што раней бядою жыў.
Наша ўсё—лясы і рэкі...
Так твой бацька гаварыў.

Паглядзі, якія далі,
Як смяецца сонца нам...
Ї яны удзвёх спявалі,
Падпяваючы вятрам,

Што імчаліся па свеце,
Абуджаючы прастор,
Што няслі іх спеў ад сэрца
Да высокіх, сініх зор.

Ліпень сонечны, багаты
Над палеткамі ішоў...
Сустракалі людзі свята
Вызвалення ад паноў.

Кветкамі і зелянінай
Упрыгожылі двары.
Перад хатай Кацярына
Пасадзіла дрэўцы тры.

Прыгадала пра былое,
Ї здалося ёй тады—
Быццам зноў, усёй сям'ёю
Пазбіраліся сюды.

Ї нібы, у шумным голлі
Нахіліўся галавой—
З ёю радзіцца Мікола
Ї з маленькаю дачкой.

Так стаялі дрэўцы цесна,
Абшчапіўшыся вянком...
А здалёк шугалі песні,
Пралякалі над сялом.

Быццам хто рассыпаў краскі
Ї пусціў на свет плысці...
На былым дзядзінцы панскім
За людзямі не прайсці.

Там, у зборышчы квяцістым
Хоць да вечару скачы...
Два калгасных гарманісты,
Цымбалісты, скрыпачы.

Як зайграюць, проста дзіва,
А дзяўчаты падпяюць—
У лявонісе імклівай
Пары стройныя ідуць.

Поўны твары маладыя
Непазбыўваю красой...
У далоні б'юць старыя,
Дзеці кружаць чарадой.

Над галоўмі хустак крыллі—
Белых мятлікаў палёт...
Дзве сяброўкі падхапілі
Кацярыну ў карагод.

І паплыў іх круг вясёлы,
Быццам лебядзі ракой...
У жыцці яшчэ ніколі
Не было так лёгка ёй.

Шчыры смех. Гамонка. Радасць.
І на сэрцы цеплыня.
Тут усе з яе брыгады,
Як усцешана яна.

Скачуць яблыні густыя,
Падкасаўшы свой падол,
Скачуць ліпы, што жывыя,
Стаўшы парамі вакол.

І у радасці няспыннай
Чуе сэрцам ад усіх:
— Ты шчаслівa, Кацярына,
Між таварышак сваіх.

Скончылі гуляць. А потым—
З падарункамі прышлі.
Кацярыне за работу
Першай прэмію далі.

У пакунку невялікім
Брыгадзір падаў самой
Для дзяўчынкі чаравікі,
Плацце з вышыўкаю ёй.

А яна на ўсе вітанні
Адказаць не мела слоў...
У шчаслівым хваляванні
Да сябе прышла дамоў.

Зноў няспыннаю хадою
Дні за працаю пайшлі.
Рос калгас. Не раз вясною
Абнаўляліся палі.

Рос калгас. Мацнелі справы.
Не пазнаць зусім сяла.
Па усёй акружцы слава
Кацярыніна расла.

Аб цялятніцы стараннай
Разважалі людзі шмат.
Пад яе даглядам дбайным
Блізка тысячы цялят.

Гэтых дoглядаў пачатак
З першых славіўся гадоў—
На калгаснай пашы статак
Маладых яе кароў.

Ходзіць роснаю лагчынай,
Смачны травы у расе!
Брыгадзіркай Кацярынай
Ганарыліся усе.

Кожны шчыраю пашанай
Кацярыну сустракаў...
На цялятніку аддана
Працавала і дачка.

Побач са сваёю маткай
Пры цялятах, пры малых.
Ды было ў яе цялятка
Больш любімае за ўсіх.

Хай, з характарам бадастым,
Але хто зраўняцца мог—
Поўсці гладкае, мышастай
З белай краскай паміж рог.

І за гэтую прыкметку,
За вясёлы спрытны бег—
Улюбёна звала „Кветкай“,
Прыручыла да сябе.

Часта песціла, вядома,
Частавала, чым магла,
Так было, заўсёды з дому
Корку хлеба ёй нясла.

Каб чувацъ было падружку,
Як гуляе па кустах—
Павязала шыю стужкай
Са званочкам на грудзях.

А ў паўдзённую спякоту
Мыць ганяла да ракі...
Маці цешыцца работай
Захапленнямі дачкі.

Разам выпала ёй шчасце
За даўнейшыя гады—
Усяго даволі ў хаце
І адзення і яды.

Зніклі слёз бяздонных ночы,
Зніклі гора і нуда.
Хоць увосені аднойчы
Надышла яшчэ бяда.

Не забудзе Кацярына,
Так узрушана была,
Як малая у хаціну
З плачам подвечар прышла.

Як сцяжынкай праз палеткі
Прывяла да пожні той,
Дзе ляжала хворай „Кветка“
З пахмурнеўшай галавой.

Як дзяўчынка са слязамі
Дарма клікала не раз—
„Кветка“ з мутнымі вачамі
Ледзь рыкала у адказ.

Ад паўсці дыміла пара,
Не магла узняць і ног...
Выклікаць ветэрынара
Парашылі там удзвёх.

Кілометраў дваццаць пэўне
Трэба ехаць, каб пазваць.
Папрасілі у праўленні
Па яго каня паслаць.

— Што вы? Коні й так заняты...
Заганялі мы усіх....
Заатэхнік барадаты
Пасмяяўся нават з іх:

— Захварэла. Што-ж такое?
Хваляваліся-б вы менш...
Гэта, мусіць, ад апою,
Даглядайце самі лепш.

Ды на гэтым Кацярына
Не спынілася аднак.
Дома кінула дзяўчыну
І праз ноч пашла адна

У вялікую дарогу.
Непакоілася шмат.
У яе расла трывога
За пакінутых цялят.

Цемра. Шляху не прыкмеціць.
З двух бакоў, як здань, гушчар.
Ігальчасты дождж і вецер
Білі ў грудзі, білі ў твар.

Сосны гнулі долу шыі,
Слаўшы голле па кустах.
Нават птахі лесавыя
Пахаваліся ў дуплах.

Толькі думка грэла сэрца,
Як пасобіць у бядзе.
І дабралася да месца,
Хоць займаўся новы дзень.

У калгас з'явіўся рана
З ёй ветфельчар малады,
І, агледзеўшы старанна,
Ён усім сказаў тады:

—Што ў цяляці тым лядашчым,
Што не можа больш устаць,—
Страшная хвароба—яшчур,
Трэба знішчыць, закапаць.

Хоць малая і багата
Слёз тужлівых праліла,
Ды застаўся цэлым статак
Для калгаснага сяла.

Толькі з той пары нягожай,
Застудзілі так вятры,
Кацярына злегла ў ложак
Прахварэла тыдні тры.

Як устала. Вельмі рады
Ўсе тварышкі былі.
Ад імя сваёй брыгады
З падарункамі прышлі.

Стол уставілі ядой,
Мёдам свежым і густым.
І навіны аб усім
Перадалі проста ёй;

Што ў калгас, пралезшы
спрытам
Ад даўнейшае пары,
Злосны шкоднік быў
раскрыты—
Заатэхнік той стары...

. . . . . . . . . . . . . . .

Аж да позняе гадзіны
Дружна гутарка ішла...
Дзён праз колькі Кацярына
На рабоце зноў была.

На цялятніку любоўна
Аддавала працы час...

. . . . . . . . . . . . . . .

Вестка новая раптоўна
Абудзіла ўвесь калгас.

Разгубіліся жанчыны,
Быццам снег на галаву—
Выклікалі Кацярыну
У чырвоную Маскву.

Як найлепшую з брыгады
Ад калгаснае зямлі
На вялікую нараду
У сталіцы, у Крэмлі.

Кацярына так узнята
Не была яшчэ ў жыцці.
Хвалявалася занадта,
Не магла ў сябе прысці.

Тое ранне не забудзе,
Сабіралася калі,
Як са ўсёй акружкі людзі
На праводзіны прышлі.

Як прасілі на астанні
Перадаць паклон Маскве...

. . . . . . . . . . . . . . .

Па снягу скрыпучым сані
Павязлі яе у свет.

Колькі дзён, нібы хвіліны
У дарозе перайшлі...
Пасядала Кацярына
Дэлегаткай у Крэмлі.

У напружаным чаканні
Сэрца кожнага жыло.
Хутка шэсць. І хваляванне
Над радамі узрасло.

Поўны шчасця над усімі
Шэпт узняўся і суціх...
Знялі: прыдзе ён, любімы
Між таварышаў сваіх.

Светлай залаю краіна
Гаварыла і цвіла...
І ніколі Кацярына
Так шчаслівая не была.

Многа ласкі там сустрэла.
Многа цёплых шчырых слоў.
Колькі побач з ёй сядзела
Родных сёстраў і братоў.

Незабыўнаю хвілінай
Думу думала адну...
Раптам буры несутрымнай
Выбух сцены скалануў.

Быццам мора загудзела,
Быццам ветры у гарах, —
Над галовамі ляцела:
Хай жыве!.. Ваша!..*) Ура!..

І паміж вітанняў грому
Над людскою грамадой
Ён стаяў, такі знаёмы,
З прыузнятаю рукой.

*) Ваша—прывітанне па-грузінску.

І ў сям'і многанароднай
Ён вітаў дзяцей сваіх—
Самы просты, самы родны,
Самы мудры ад усіх.

Ён імкнуўся гул няспынны
Як мага суняць хутчэй...
І глядзела Кацярына,
Не спускаючы вачэй

На ягоны твар, на проседзь,
На любімага ўсяго.
Праз усё жыццё, здалося,
Блізка бачыла яго.

Гэта ён яе ў няволі
Парабчанку суцяшаў—
На чужым, кулацкім полі
Слёзы крыўды выціраў.

Гаварыў, вазьмем у бойцы
Мы парадак новы, свой.
Станавіў, на ўсход, да сонца
Шлях паказываў рукой.

Год семнаццаты. Гудзела
Уся краіна на зары.
Заклікаў ён у шынелі,
Сцяг трымаючы ўгары.

Гэта ён—вайну і голад
Грозная сілай пакараў,
Гэта ён заводы, школы
Клапатліва збудаваў.

Гэта ён устаў над часам,
Зоркай яснай запалаў.
Гэта ён стварыў калгасы,
Дзе зямлю навечна даў.

І павёў дарогай росту,
Назаўсёды знішчыў здзек—
Самы родны, самы просты,
Самы мудры чалавек.

Ён між нас. І з кожным годам
Больш гартуюцца рады.
Вось ён тут, перад народам,—
Чалавецтва правадыр.

Доўга буру, што вітала,
Не маглі ніяк суняць...
Ледзь узбуджаную залай
Заўладала цішыня,

У прэзідыуме праца
Па-звычайнаму пашла...
Ды пакінуць хвалявацца
Кацярына не магла.

Дэлегаты слова бралі,
Пачыналі гаварыць;
Слухаў іх вялікі Сталін
І саратнікі-сябры.

І чуваць былі ў разгоне
Ясных думак, новых спраў—
Галасы Бярозы, Дона,
Зангі, Церака, Дняпра.

Чуўся гул снягоў Хінгана,
Прыуральскі шум лясоў,
Пах садоў Аджарыстана,
Рух паўночных рапакоў.

І дачка сваёй краіны,
Беларускага сяла,
Дэлегатка Кацярына
На трыбуну узышла.

— Мой народ спрадвеку плакаў,
Ён расцвіў цяпер табой,
Ты прымі яго падзяку,
Родны Сталін, бацька мой!

Ты яго узняў і вучыш,
Як жыццё пабудаваць...
Ад бароў, вазёр бліскучых
Я прышла цябе вітаць.

Чахлі мы на голых нівах,
Мерлі з голаду вясной.
Мы жывем цяпер шчасліва,
Родны Сталін, бацька мой!

— Маем яслі, клубы школы,
Нам адкрыўся цэлы свет.
Ад жанок, дзяўчат вясёлых
Асаблівы наш прывет!

Зніклі крыўда, гора, слёзы,
Кожны ўзняўся галавой,
Не пазнаць наш край прыгожы,
Родны Сталін, бацька мой!

І мінулага з праклёнам
Мы парвалі кайданы,
Нам відно, як за кардонам
Ходзяць польскія паны.

Ды ніколі катам болей,
Ніякою ўжо цаной
Не ступіць на наша поле,
Родны Сталін, бацька мой!

Я кажу перад усімі,
Што сваё жыццё знайшла...
І заўважыла—любімы
Твар усмешка заняла.

Кончыла. Сышла. І ў зале
Запылаў вачэй агонь,
Як руку яна сціскала
Бацькі роднага свайго.

Як віталі яе справы,
За калгаснае сяло—
Погляд Сталіна ласкавы
І рукі яго цяпло.

І ад шчасця Кацярына
Не магла сябе знайсці.
Чула сэрцам—той хвіліны
Не забудзе у жыцці.

Ёй хацелася пра радасць
Расказаць сябрам сваім,
І пакуль ішла нарада
Толькі думала аб ім.

Вось ён, Сталін. Наша сонца,
Перад ім—уся зямля,
Хвалявалася бясконца
Нават вышаўшы з Крэмля.

Хіба ведала учора,
Што шчаслівa будзе так...
Над Чырвонай плошчай зоры
Палыхалі, што маяк.

Сцяг чырвоны горда рэяў
Чалавецтву усяму.
Падыйшла да маўзалея,
Пакланілася яму.

За прыгожы час, за шчасце
Аддала яна паклон,
За дзяцей, бацькоў багацце,
За ясноту новых дзён.

Потым Сталіну душою
Пажадала доўга жыць.
За Крэмлёўскаю сцяною,
Знала, ён яшчэ не спіць.

І была яна сагрэта
Цеплынёю дум сваіх—
Знала, ён стаіць над светам
І працуе за усіх.

Не заснула ноччу тою...
Аб Крэмлі ўсплывалі сны.
А назаўтра ўсім героям
Уручалі ордэны.

Як дачка свайго народу,
Многа маючы заслуг,
І яна узнагароду
Прыняла з гарачых рук.

Абкружыў яе жаданы
Круг сяброўак дарагіх...
Да яе усхваляванай
Падышоў сівы камбрыг.

—Запытацца мне дазвольце,
Вы з Палесся можа?
— Так!
— У дваццатым ў вас на фронце,
Ці не быў які сваяк?

Ваяваў мой муж Мікола...
З дзіцем я была малым...
Мне пісаў з-пад Вільні... Болей
Не пачула я аб ім.

І панікла галавою.
Камандзір пачаў расказ
Пра забітага героя,
Пра яго астатні час.

Біўся ён з панамі многа,
Паў пад Вілляю-ракой...
Рысы твару дарагога
Уставалі перад ёй.

Вось ён, родны аж да болю,
З пікай востраю рука,
Вось імчыцца дымным полем
Ён пры штандары палка.

Перашкодаў ён не знае,
Не ў характары яго.
Вось васьмёра абкружае
З панскай шляхты аднаго.

Качаны галоў іх проста
Адлятаюць пад рукой...
Палажыў пяцёх, а шосты
Свіснуў шабляю крывой.

І прастор зялёным долам
Захістаўся у вачах,
Паў на смерць тады Мікола,
Паў са сцягам на грудзях.

Кацярына ледзь стрывала,
Сутрымала слёзы ледзь...
Вось калі яна пазнала
Чалавека-мужа смерць.

Крэмль. Праменных зор рубіны
Асвятляюць горда высь.
Ходзіць плошчай Кацярына
З таварышкаю Шамкіз,

Што прыехала здалёку,
Ад батумскіх берагоў...
Многа ў гутарцы глыбокай
Шчырых і гарачых слоў.

Як ім родны месцы тыя,
Дзе займалася зара.
Ноч. Вартуюць вартавыя
Светлы сон правадыра.

І сяброўкі ўспамінаюць
Дні вялікіх, слаўных свят,
Як адсюль народ вітае
Друг яго і родны брат.

У армейскай ён шынелі
Простай, шэрага сукна—
Славіць гордых, мужных,
смелых...
І на твары ўсіх вясна.

Кожны сэрцам з ім гаворыць
І ў людзей над галавой
Сцягі, дзеці, кветак мора,
Гулкі песенны прыбой.

Сонца яснае іскрыцца,
Воклічы на сотнях моў.
Урачыстая сталіца
Да яго нясе любоў.

Дзіўным, казачным убраннем
Над Масквой агні плывуць...
У шчаслівым хваляванні
Дзве таварышкі ідуць.

Многа ў іх жаданняў, сілы,
Многа шчасця у сясцёр,
Што дарогі іх злучыла?
Што з'яднала іх жыццё?

Дружбай шчыраю, гарачай
Пararнілі сэрцы два—
Ордэн Леніна за працу,
Родны Сталін і Масква.

І не можа Кацярына
Дум абуджаных стрымаць.
Перад імі рух няспынны,
Шумны тэатральны пляц.

У гудках, трамвайным звоне,
Мітуслівы снег-крышталь.
На тэатры тройка коней
Парываецца у даль.

— Помніш ты, Шамкіз,
сустрэчу,
Не забыцца мне таго.
Помніш ты, Шамкіз, як дзеці
Абкружылі тут яго.

З песнямі, з іскрыстым смехам
Кожны кветкі падаваў...
Як ён песціў іх з уцехай,
Як на рукі падымаў.

Ї здавалася мне, знаеш,
Што паміж усіх дзяцей—
Ён маю дачку трымае,
Прыхінуўшы да грудзей.

— Кацярына... Кацярына...
У Аджарыі маёй—
Там, дзе мора, мандарыны,
Пальмы з гордай галавой,

Дзе ў кругу сям'і вялікай
Горы стромыя стаяць.
Ї мяне мой хлопчык Ніко
Пэўне ходзіць сустракаць.

Ён казаў мне: „Як спаткаеш,
Мама, Сталіна ў Крэмлі,
Ты скажы, што я жадаю
Абляцець вакол зямлі.“

Ноч цяпер. Ї Ніко сніцца,
Мабыць, радасны палёт...
Так ішлі яны сталіцай
Ї сустрэў іх дня прыход...

. . . . . . . . . . . . . . .

Ты бывай, Масква! Заўсёды
Твой у сэрцы светлы час!
Кацярына мужнай, гордай
Ад'язджала у калгас.

Зноў гушчар лясоў зялёных,
На палях снягоў абрус.
Беглі шумныя вагоны
Да граніцы, ў Беларусь.

Абуджаўся перад імі
Вечаровы ціхі дол.
Неабсяжная радзіма
Гаманіла навакол.

Кацярына воч не зводзіць
Ад вакна. Здаецца зблізь
Па другіх шляхах, на поўдзень
Едзе добрая Шамкіз.

Ї усе сябры з яснотай
Словы Сталіна вязуць—
Узлятаюць самалёты,
Караблі у даль плывуць.

Їх чакаюць у брыгадах,
На вакзалах, ў гарадах,
Пагранічнікі ў заставах,
Дзеці ў школах і садах,

Што шчаслівыя бясконца
Матак радасных вітаць...
За зямлю пад гэткім сонцам
Лёгка нават паміраць.

Так за думамі гадзіны
Адляталі чарадой...
Ноч прайшла. Ї Кацярына
Зноў на станцыі сваёй.

Сустракалі у раёне.
Ї пасля вітання слоў—
На калгаснай парцы коней
Варачаецца дамоў.

Пазлядае Кацярына
На бярозавы бальшак—
Вось знаёмыя мясціны:
На гары стары вятрак,

Кружыць крыллямі-рукамі,
Сабіраючы вятры...
Сакавік ідзе палямі,
Запявае у бары.

Ручаінамі прыбраны
Ён, вясновы чарадзей.
Сэрца б'ецца несціхана,
Сэрца просіцца з грудзей.

Вунь гаі—падаць рукою,
Дзе дзяцінства адышло,
Блізка млын па-над ракою,
Хутка роднае сяло.

Бліжай месца дарагое,
Хаты вокнамі глядзяць...
Ї здзівіла, што такое,
Людзі з кветкамі стаяць.

Як пад'ехала. Сяброўкі
Падхапілі ўсе яе.
Ці не сон прышоў ізноўку?
Не, яна не пазнае...

Не пазнаць нічога зблізку,
Як змянілася кругом?
На прыстанішчы бабыльскім
Новы пяцісценны дом.

Дзе-ж, хаціна ты старая?
Не відно таго кутка...
І смяецца, абдымае
Маці родную дачка.

У шаўковым, новым плацці
Запрашае ўсіх за стол...
Слёзы матчыны ад шчасця
Пакаціліся на дол.

Падышоў і прывітаўся,
Да дзвярэй яе павёў—
Найстарэйшы у калгасе
Дзед сівы, пад сто гадоў,

Прымаўляючы няспынна,
Хлеб трымаючы ў руках.
Кацярына!.. Кацярына!..
Бабылёвая дачка.

1937—1938 г.

Пухавічы—Менск.

*Віктар Кудзімаў*

# МАРТЫН-ЖЫВАПІСЕЦ

(Урыўкі з другой кнігі)

## XII

Мартын спяшаўся ў Алексіна, зусім не ведаючы, што стары Барышнікаў даўно памёр, а барская рэзідэнцыя цяпер у Пагарэлым. Шлях ад Смаленска ён прарабіў верхам без малога за два дні. Ад сяла Чамава—вотчыны князя Далгарукага—заставалася пяць вёрст, але конь стаміўся і ішоў ужо ступою.

Некалькі тыдняў стаяў сухмень. Начамі выпадалі росы, але ўдзень жоўтае сонца няўмольна паліла зямлю. Высахлі раўчукі. Ад балот несла едкай смаллю—гарэў торф. На палёх выгарала трава і схуднелая жывёла то блукала, угнуўшы галаву, то стаяла дзе-небудзь у цяні, адмахваючыся ад назойлівых аваднёў. Сям-там пачыналі зажынаць жыта. Але не было таго ажыўлення на загонах, як бывала ў мірны час.

Усюды, дзе ні спыняўся Мартын, з кім-бы ні гаварыў,—адчувалася трывога набліжэння вайны. Вайна набліжалася хутчэй, чым думаў Мартын.

За Чамавым ён нагнаў бабульку, якая ішла басанож, цяжка апіраючыся на кіёк. Была яна ў белым палатаным жупане, на спіне якога чырвонай шэрсцю груба вышыты два пеўнікі. Стрымліваючы каня, Мартын дабрадушна гукнуў:

— Куды паўзеш, старая?

Паправіўшы чорную ў белыя гарошынкі хустку, бабулька адказала:

— Ды ў Алексіна, сяло, іду, мілы чалавек, у самае Алексіна. Унучка малодшая, Аніска, разрадзілася—іду праведаць. Кажуць дрэнна ёй, хоць-бы не памерла.

— А ці не чула, старэнькая, пра алексінскага барына, ці дома ён цяпер?

— А хто-ж яго ведае, сынок. Не чула і маніць не буду. А ты-ж сам чый будзеш, штосьці не пазнаю я цябе.

— Я?—Мартын усміхнуўся.—Я, бабулька, чайчын ды верабейчын, не тутэйшы я.

— Бач ты...

— Вязу пісьмо барыну, ды не ведаю—ці застану.

— Пісьмо? Бач ты.

— А не застану, аддам упраўляючаму. Не ведаеш, хто там упраўляючым у іх?

— Управіцель-та? Памёр, бач, управіцель іхны па вясне надоечы. Казалі, застудзіўся—і памёр. Казалі, быццам Ванька Малчанаў, асіноўскі, будзе цяпер управіцелем. Праўда, ці не—не ведаю, і маніць не буду, сынку, не ведаю. А замест управіцеля ў іх быццам-бы часова Якаў Іванавіч. Яшчэ жонка яго, Мар'я, у Аніскі мае малодшага хрысціла.

— Які-ж гэта Якаў Іванавіч?

— Ась?

— Кажу, ці не Жданаў Якаў Іванавіч?

— Ага, ага. Нябожчыка Ванькі Жданава, што ў фалейтарах быў, сынку. Ён самы—і па будоўлі, і па ўправіцельству—усё ён, Якаў Іванавіч. Такі-ж ужо разумны, ды пачцівы, такі душэўны чалавек. Ды адно губіць: як зап'е, як закурыць—святых вынось. Ён, ён! А пра барына не ведаю і маніць не буду. Значыцца, ты не тутэйшы, сынку? Не ведаю, як зваць, вялічаць цябе?

— Не, бабуня, я далёкі.

— Бач ты! А ці не чуў: праўда, ці не, мужыкі ў нас плялі, быццам Паляон—хранцузскі цар—загадаў нашаму ўсіх мужыкоў на волю пусціць, і быццам-бы наш не дае згоды, а той вайной пайшоў. І быццам-бы калі заваюе хранцуз—усім воля будзе.

— Але, кажуць.

— Кажуць? Бач ты. А ты не маніш, сынку?

— Не маню, бабуня, як людзі, так і я.

— Вядома. Калі гавораць, значыць праўда. Памажы яму, царыца нябесная, рабу божаму Паляону,—перахрысцілася старая.

Мартын спытаўся.

— А ваш барын паехаў?

— Паны гэта? Па-е-ха-лі, аж у Маскву пакаціілі.

— У вёсцы вашай народу шмат на вайну забралі?

— Ох, ясачка-сынку, і не пытайся, не распытвай.—Плачу гэтага, слёз колькі. Бадай усіх мужыкоў да-чыста забралі. Тут жніво падыходзіць, таго і глядзі—хлябец асыпацца пачне, а яны ваяваць уздумалі. І ваююць, і ваююць—пагібелі няма на іх...

Мартын усміхнуўся і тузануў за повад.

— Ну, бывай, старэнькая.

— А едзь з богам, ясачка, не маракуй, калі што не так сказала.

— Падвёз-бы, ды бачыш, нязручна,—пажартаваў ён.

— Дзякуй за добрае слова. Я ўжо дапаўзу, тут лагчынай нацянькі—рукой падаць.

Апошніх слоў старой Мартын не чуў. Адпачыўшы, конь пайшоў шпарчэй. І незразумела чаму стала лёгка і радасна ў Мартына на сэрцы. Гэтая сустрэча была першай у роднай мясцовасці, і здавалася яму, што сустрэў ён не чужую гаваруху-бабульку, а родную маці, або блізкага чалавека.

Барвовае сонца ўсё ніжэй хілілася і, мяркуючы па захаду, набліжалася спёка. Але вось, расступіліся сосны і з правага боку

бліснула азёрная роўнядзь. Шырокай падковай яна ляжала спакойна, нібы намаляваная на тэатральнай дэкарацыі. Усё тое-ж, як і трыццаць год назад, калі паўсталі на гэтых берагах мужыкі. Толькі парадзеў лес, ды выраслі на грэблі вербы. Налева поплаў, за ім шкляная фабрыка з рабочай слабодкай. Направа зялёны масіў панскага парку і ў зеляніне—дахі маёнтка. Проста, ля дарогі, высокая з флюгерам вежа фабрычнай канторы, падобная да маленечкага замка. Агінаючы возера, дарога крута паварочвае направа. Тоўстыя, у два абхваты ракі?ы стаяць паміж ёю і возерам. А насупраць—даўжэзныя мураваныя свірны, крытыя гонтам, пазелянелыя і цёмныя. Чуцен шум вады ў шлюзах. Нечакана ўзнікаюць нізкія вежы і зубчастыя сцены крэмля. Вось і тая круглая, дзе калісьці сядзеў ён і адкуль вызвалілі яго мужыкі. Як і ў тыя дні, тоўпяцца яны, пра штосьці ажыўлена гамоняць. Некаторыя пасмейваюцца.

Пад'ехаўшы бліжэй, Мартын пачуў, як нехта з іх загаварыў:

— Вось чэша, нібы за язык прывязалі. І дае-ж гасподзь-бог такі язык...

А другі азваўся:

— Эх, дасць яна перцу Іванавічу, азвярэе мужык.

— Няволяй азвярэеш,—не намі сказана: бог стварыў тры няшчасці: чорта, бабу і казла.

— І не кажы. Лепш у дзіравым чоўне па моры плыць, чым са звяглівай жонкай жыць!

Калінкін спытаўся, дзе жыве ўпраўляючы.

Мужыкі пераглянуліся, і адзін з іх—высокі і рабы, як зязюльчына яйцо—падміргнуў астатнім.

— Упраўіцель-та, мілы чалавек, жыве пры канторы, але толькі ён у лазні цяперака. Мар'я Касьянаўна, супружніца, бадай з паўдня парыць іх.

Мужыкі засмяяліся, але рабы быў сур'ёзны і дапытліва глядзеў Мартыну ў вочы.

Яшчэ пад'язджаючы, Мартын чуў пранозлівы жаночы голас, але калі ён уехаў у вароты крэмля—голас зліўся ў адзіны звінячы лямант.

Кантора змяшчалася там, дзе і раней. Гэтак-жа ўзвышалася над ёю, падобная на царкоўную званіцу, вузенькая вежа з пачарнелым цыферблатам гадзінніка. Уз'ехаўшы на двор, Мартын міжвольна паглядзеў у той бок, дзе ўзвышалася круглая з цаглянымі слупамі стайня. Далей віднелася пачарнелая пабудова лазні. „Ага, цэлыя... Ну, добра!“—адзначыў ён у думках і перакінуў повад аброці на драўляны слупок палісадніка.

Па цагляных сходцах ганка сыходзіў хударлявы чалавек сярэдняга росту з хваравітым тварам. Рэдкія валасы на лысеючай галаве ў яго былі ўскудлачаны, а чорная хустка на шыі замест гальштука збілася на бок і агаліла не зусім чыстую сарочку. Сіняга колеру суртук на худым яго целе сядзеў мешкавата і, як відаць, наспех быў зашпілены на адзін гузік, але вышэй чым патрэбна. Убачыўшы Мартына, ён прыцішыў хаду, позірк яго карых, некалі прыгожых вачэй, стаў неспакойным.

— А дзе-б знайсці вашага ўпраўляючага, любезны?

— Упраўляючы? я... часова ўпраўляючы,—хрыпліва і разам з тым вінавата адказаў чалавек.

Мартын пайшоў насустрач, і гарачая жаласлівасць да болі зашчаміла яго сэрца. Яго позірк міжволі заўважыў і стаптаныя парыжэлыя боты, і выпушчаныя на іх з капшукамі на каленях штаны, і ўсё яго прыбранне—старое, заношанае. „Госпадзі, ды няўжо-ж гэта ён—азарны і вясёлы друг яго маленства—Жданаў?“ — і пацяплеўшым голасам ён паклікаў:

— Яша? Ну, здароў, Яша!

Чалавек інстынктыўна зашпіліўся і зноў няправільна, міргнуў выцвіўшымі павекамі. На парозе канторы ў падаткнёнай да кален спадніцы з'явілася жанчына, трымаючы ў руках мокрую анучу. Яна перагнулася цераз парэнчы ганка і, выкруціўшы анучу, прарэзліва гукнула:

— Ідзі, лайдак, ідзі, латруга—не мучай людзей!

Жданаў вінавата глядзеў на Мартына.

— Не пазнаеш, Яша? А Пецербург, а Жылярдзі... Памятаеш? А Калінкіна...

— Мартын, Мартынушка! Браточак мой, ці-ж ты гэта? Госпадзі, ісусе-хрысце! Ды адкуль-жа цябе чэрці выпаралі? Царыца нябесная...

— З таго свету, Яша, з пекла, адразу ў госці да цябе!—ён абхапіў Жданава і тройчы пацалаваў яго. А той, бездапаможна паклаўшы на яго плячо галаву, лапатаў нешта бяссэнснае і плакаў як малое дзіця. Схамянуўшыся, ён убачыў на ганку жанчыну і, сціснуўшы кулакі, закрычаў гнеўна, з надрывам:

— Ідзі, ведзьма! Заб'ю, змяя падкалодная, згубіцелька мая!

Жанчына моўчкі знікла. У акне канторы паказалася на міг галава з падвязанай шчакой і гусіным пяром за вухам. Праз імгненне і яна знікла, мусіць, схаваўшыся за касяком, каб зручней было цікаваць.

— Мая дарагая палавіна,—кіўнуў на жанчыну Жданаў.—Можа памятаеш салдатку Мар'ю, палюбоўніцу барына, што на Ардынскім млыне пад Дарагабужам жыла. Яна самая. Нябожчык барын, калом яму зямля, ажаніў і волю даў. Давіцца з-за яе аднойчы прабаваў, але выцяглі. Такі фрукт, не дай божа ліхому ліхадзею.

— Эй, Санька!—раптам крыкнуў ён, заўважыўшы ля стайні мужыка ў белым фартуху і з саўком у руках.—Вазьмі каня пана Калінкіна і дай аўса, ды пажвавей варочайся, абібок.

Ухмыльнуўшыся мужык паклаў савок і павольна, уразвалку пайшоў да каня.

— Дзе барын, Яша?

— Ты пра каторага? Стары-ж цю-цю...

— Ну, адзін чорт. Дзе—малады?

— Малады? Іван Іванавіч, значыцца? А табе ён навошта?

— Справа ёсць. Убачыцца хацеў і пагаварыць па шчырасці.

— Барын, Мартынушка, учора адбыць меў гонар у Ніжагародскую вотчыну і мне па гэтаму выпадку загадана адправіцца ў

Пагарэлае. Пакінулі мяне як упраўляючага, а народ ад рук адбіўся. Сабраліся вось, лайдакі, і давай ім барскі хлеб. З абеду гамоняць. Ішоў пасарамаціць, ды цябе сустрэў.

— Ну, пойдзем разам. Шкада, не застаў яго благароддзя. Але і без яго як-небудзь...

Убачыўшы іх, мужыкі падаліся насустрач.

А калі Жданаў і Калінкін падышлі, нечы высокі і звонкі голас выгукнуў:

— Ці доўга ты яшчэ мучыць нас будзеш, Якаў Іванавіч?

Рабы мужык аказаўся наперадзе ўсіх і спакойна, нават звычайным тонам абвясціў:

— Аддавай, кумок, хлеб, а то будзем свірны ламаць.

— Эх, аддай, без граха, Якаў Іваныч!—хорам падтрымалі астатнія.

— А то горш будзе, дальбог пачнём ламаць...

Некаторы час Жданаў глядзеў трывожна, пераводзячы позірк з аднаго твару на другі, потым загаварыў ціхім, дакараючым голасам:

— Чэрці вы, мужыкі. Ну, як я магу аддаць хлеб, калі загада на гэта не маю?

— Ты слухай наш загад,—вось і ўся гаворка.—Мы табе загадваем—грамада,—выразна паўтарыў рабы, які стаяў наперадзе.

— Хоць бы ты, кум Карней, памаўчаў. Муціш народ, вось што. Хіба-ж я рабіў вам, мужыкі, благое, а?

— Вось за гэта самае і просім цябе па-добраму.

— За гэтае самае, кумок, ты і дарагі,—падтрымаў Карней,—не быў-бы мужыком, як і мы, не рабіў-бы па-божаску—размова-б іншая была.

— Ды вы-ж свой зажынаць пачынаеце...

— Ну, кум, ты-ж быццам-бы і разумны чалавек, а плявузгаеш такое. Жыцечка-ж пасеялі мы на два тыдні пазней барскага.

Слухаючы гэтыя спрэчкі, хутчэй дабрадушныя, чым сярдзітыя, Мартын пачынаў злавацца і разам з тым дзёрзкасць загаварыла ў ім. Крыху адстараніўшы Жданава, ён падышоў да Карнея і, гледзячы толькі на яго, спытаў паціху:

— Вы хочаце ўзяць барскі хлеб?

— А як-жа. Піць, есці ўсім трэба,—сур'ёзна адказаў Карней.

— Ідзіце і бярыце, вось свірны!—Мартын паказаў рукой і ўсе інстынктыўна павярнулі галовы, быццам убачылі іх толькі цяпер.—Ідзіце і бярыце,—паўтарыў Мартын.—Хлеб гэты сеялі вы і прыбіралі вы—ён ваш, а не барскі.

Жданаў тузануў ззаду і дакорліва зашаптаў:

— Ну, што ты робіш, навошта падбухторваеш, божачка...

Але Мартын ужо разумеў, што пачатак пакладзены не ім, не мужыкамі, і не Жданавым, а нейкім іншым, даўно-даўно. Голас яго памацнеў і стаў пагрозліва кплівым:

— Дзіўна мне глядзець на вас, мужыкі. У семдзесят чацвертым, памятаю, чысцілі алексінцы возера—узялі ды і кінулі работу, але мала таго—пайшлі і забралі ў свірнах хлеб...

Сівы, нізкарослы стары, апіраючыся на кій, выціснуўся наперад.

— Праўду кажа праезджы пан. Быў я тады па карэтнай справе вызначаны і ўсё за маю памяць было.

— Пачакай, Качатых, няхай ён гаворыць,—пачуліся галасы.

Мартын уважліва пaглядзеў на зморшчаны твар старога. Ды гэта-ж Сіланцій Качатых—карэтнік, які калісьці ў адрынцы дапамог яму, спаласаванаму розгамі. І ўсміхнуўшыся, ён гучна дадаў:

— Я сказаў усё, мужыкі. Няхай гаворыць дзед Сіланцій.

— Я што-ж, я скажу. Мне баяцца няма чаго. Сечаны і перасечаны я розгамі незлічона.—Стары папрабаваў выпрастаць сагнутую спіну, але змог толькі прыўзняць галаву.

— Вось і Карней, ён быў фурманом тады і ён не дасць схлусіць. Праўда, Карней?

— Вядома, чаго ўжо там,—без хлеба не абыйсціся нам,—пацвердзіў рабы.

— А я пра што-ж кажу? Пачалося ўсё тады з жывапісца барскага. Аслабанілі мы яго з той вунь вежы і пайшлі крышыць. Ён, ды яшчэ Пецька Прымыч, ды каторыя фабрычныя, наперадзе пайшлі. Але толькі жывапісца падстрэлілі,—казалі нібыта памёр...

Мартын схамянуўся, і пакруціўшы вус, весела пaглядзеў на мужыкоў.

— Усё праўда, браткі, так і было. Але толькі жывапісец не памёр, а ўцёк за рубеж.

Па меры таго, як Мартын гаварыў, мужыкі ўсё цясней і цясней абступалі яго, а некаторыя недаверліва ківалі галовамі. Ззаду ўпоўголаса, але даволі выразна нехта заўважыў:

— Дзіўна гаворыць праезджы; глядзі, ці не хітрыкі якія?

Жданаў, які пільна сачыў за ўсім, скарыстаў гэтую хвіліну:

— Разыходзьцеся, браткі, з богам па хатах. Як яно было там—справа даўняя.

Мартын паклаў руку яму на плячо:

— Не, Яша, так не выйдзе. Хлеб мужыкам ты аддай.

Жданаў зноў пачаў шаптаць яму, то ўпрошваючы, то пагражаючы, але Калінкін не слухаў.

— Што-ж, праваслаўныя, раздумалі браць хлеб? Барына спалохаліся?

— А што нам барын? Яго і няма—барына,—пачуліся галасы.

— Тады чаго-ж вы будзеце чакаць? Пакуль французы прыдуць?

— Ды, бачыш, справа якая. Ты прыехаў і паехаў,—сказаў Качатых,—а мы тутэйшыя. Ты вось сказаў, што тады на возеры захацеў народ і кінуў работу. Правільна. Так яно і было. Мала таго, барын наш з год пасля быў як шаўковы. Але затое і пакут мы вынеслі на сваім гарбу...

Ён падышоў бліжэй і, прыглядзеўшыся пільней, павесялеў:

— Ды ці не будзеш ты той самы Мартын-жывапісец? А? А ў народзе кажуць, быццам патануў ты паранены...

— Эх ты, баравік стары!—Мартын засмяяўся і абняў старога.— А хто ў адрыне мокрымі анучамі мне рубцы абкладваў, ды гарэлкай паіў? Ну, успомні.

— Ды гэта-ж ён, мужыкі,—дальбог, той самы і ёсць!—стары павярнуўся да мужыкоў, прыстукнуў кіем.

— Арол! Смяротныя пакуты вытрываў, а характарам не здаў! Я адразу пазнаў, ды хацеў на іспыт узяць. А цяпер бачу—ён. А вас яшчэ на свеце не было, калі Качатыха барын біў, вось што. Вы два дні ля свірнаў ходзіце, нібы кот каля сала, а ўзяць баіцеся...

Перабіваючы старога, Карней крыкнуў Мартыну:

— Вядзі нас. Адказваць, дык усім разам!

Узрушаны натоўп рынуў услед за імі да свірнаў.

Па дарозе трапіўся ім канторшчык з падвязанай шчакой. Мартын гукнуў яму:

— Эй, паслухай, мілы чалавек. Па майму загаду мужыкі будуць хлеб забіраць, ідзі і паглядзі, каб усім хапіла, чуеш?

Канторшчык збянтэжана ўтаропіўся на Жданава, але той толькі махнуў рукой. Тузануўшы Мартына за плячо, ён нудліва сказаў:

— Хадзем. Тут і без нас абыдзецца.

Яны вярнуліся ў кантору і Жданаў пайшоў на сваю палавіну. Хутка праз адчыненыя дзверы пачуўся яго голас:

— Падрыхтуй-тка, баба, нам закусіць. Прыяцель прыбыў.

— Які-такі прыяцель, зноў бельмы зальеш? У Пагарэлае едзь.

— Ведзьма, не твая справа! Калінкін прыехаў...

— Калінкін?

— Ну, але, Мартын Калінкін.

— Кажаш, Калінкін?—раззлаваны голас жанчыны панізіўся і гутарка між імі стала спакойнай.

Мартын прайшоўся па канторы і, усміхнуўшыся, агледзеўся. Тое-ж, што і ў маленстве. Цагляная, на галандскі фасон, печка. Ад яе на ўсю шырыню памяшкання—перагародка, да бляску выцертая мужыцкімі локцямі, ля сцен—лавы і некалькі забруджаных сталоў. Насупроць—насценны гадзіннік у бляшаным футляры. Мартын падышоў да шафы і зноў усміхнуўся. На дзверках яе быў старанна наклееены пажоўклы ад часу лісток „Перечень дел в сем шкафу“. Паміж шафай і акном калісьці стаяў стол. Так-так, іменна тут двое шустрых падлеткаў—Мартын і Яшка—вывучалі рахунковую мудрасць у вотчыннага бухгалтара Яўсея Лукашкіна. Лёс іх тады вырашыла карцінка ў вагавой кнізе, дзе намалявалі яны чорта Лукашкіна і белацелую дыяканіцу.

Калінкін прысеў да стала і разгарнуў пакінутую канторшчыкам кнігу.

„Книга в Алексинскую контору входящих-исходящих из разных мест бумаг за 1811—1812 год“.

Ён шумна адгарнуў старонку і ўглыбіўся ў чытанне, час-ад-часу пахмура ўсміхаючыся. Яму хацелася адкінуць гэтую сумную, зашмальцаваную бруднымі рукамі кнігу, але зрабіць гэтага ён быў не ў сіле. Жудасцю і подласцю веяла ад шэрых старонак яе і незразумелы боль раз'ятрываў сэрца. Ён дастаў люльку і, не глядзячы, набіў яе тытунём, прадаўжаючы чытаць. І раптам, вочы яго расшырыліся, ён задыхнуўся.

„У дарагабужскі земскі суд, Чахлоўскага соцкага Пятра Захарава рапарт. Сяго снежня 10 чысла у 10 гадзін раніцы ў сяле Алексіне пана маёра і кавалера Івана Іванавіча Барышнікава быўшы пры малацьбе панскага хлеба вёскі Алексіна салдацкая ўдава Домна Калінкіна знойдзена ў загародцы лежачай на печы—селянінам вёскі Чахлава Пятром Самсонавым і вёскі Вязміч Цімафеем Трафімавым—ад чаду мёртвая, апранутая ў кажусе і каптане. Аб чым сім онаму суду з шаноўнасцю рапартую, снежня 10 дня 1811 года. К сему рапарту соцкі Петр Захараў.

А замест яго непісьменнага па асабістаму яго прашэнню пана маёра і кавалера Івана Іванавіча Барышнікава служыцель Дзмітрый Ільіч руку прылажыў“.

Некалькі імгненняў Мартын сядзеў, апусціўшы вочы, і калі падняў галаву, былі яны смутныя і хмурныя. Кніга паляцела пад лаву, а некалькі лістоў, выпаўшы, веерам ляглі на бруднай падлозе. У гэты момант на парозе паказаўся Жданаў:

— Што ты, што, Мартынушка? Навошта?

Парыўка ўстаўшы, Калінкін падняў на ўвайшоўшага позірк.

— Матулю, старэнькую... ёй-жа за семдзесят... Ах, вы!..

— Мартынушка, ды я-ж... Гэта пасля паўстання.

— Маўчы, смоўж,—душу прапіў. Сумленне за чарку прадаў.

— Мартынушка, госпадзі...

— Маўчы, халуй барскі! Людзі дохнуць з голаду, уцякаюць, у пятлю лезуць, пальцы адсякаюць, людзі мруць, як мухі, а вы... а ты халуй?..

— Мартын Іванавіч, пакінь, богам прашу: утаймуй сэрца. Ну, хадзем, закусім. Вып'ем з гора.

— Ідзі ты к чорту. Сягоння, зараз-жа, усё гняздо гэта асінае спалю,—усё з ветрам пушчу.

— Значыцца, я толькі халуй па-твойму?

— Горш! Ты—лакей. Розгамі, пабоямі паны мазгі табе адбілі. І ты сам не бачыш, які ты стаў халуй.

Жданаў выпрастаўся і, бляднеючы, падышоў да стала.

— Так... Дзякуй табе, дружа... Ну, добра. Так, можа я і вінаваты, што марыў будаваць палацы і харомы і прыгожыя будынкі на зямлі, а будаваў канюшні. За свой дыплом я атрымаў ад акадэміі медаль, права на замежную камандыроўку і званне расійскага архітэктара, а барын, калі я заікнуўся аб Італіі,—прымусіў мяне перабудоўваць птушнік. Мяне білі і секлі, п'яным ажаніў мяне барын на сваёй палюбоўніцы... Эх, ды навошта ўспамінаць!

— А чаму-ж трываў ты? Хто можа прымусіць трываць? Маўчыш?

Але Жданаў схапіў за руку Мартына і пацягнуў на сваю палавіну.

Прыбраўшыся, мусіць дзеля госця, жанчына сустрэла іх у парозе і нізка пакланілася Калінкіну. Але ні ён, ні Жданаў не заўважылі гэтага. Архітэктар пачаў імкліва здымаць з паліцы запыленыя рулоны чарцяжоў.

— Глядзі, суддзя! Вось табе праект вялікага зала ў маскоўскім доме, што на Мясніцкай. Барын, скаціна, пашкадаваў грошай.

А вось палац Пецергофскі ля ніжняй сажалкі—падаць не пасмеў. Вось новы палац у Пагарэлым, а мне загадалі прыбудаваць крыллі да старога. Вось сень падалтарная—спраектаваў разам з Мацвеем Казаковым, якога марыў мець за свайго цесця. Так-с. Вось дэталь да яго-ж праекта калоннага зала ў палацы Далгарукага. Вось пераабсталяванне алексінскага парка. Яшчэ табе? На яшчэ. Праект смаленскага дваранскага сабрання. Царква—ратонда. Паляўнічы палац за богавай горкай, званіца Аўраміеўскага манастыра ў Смаленску...

З нейкім азвярэннем Жданаў шпурляў дадолу скруткі чарцяжоў і пыл ад іх у сонечнай паласе акна віўся і гарэў вясёлкай. Сінія пражылкі, чорныя лініі мігцелі перад вачыма Калінкіна. Шорах паперы, глухаваты голас архітэктара, уласная злосць—усё гэта злівалася ў адно. Калінкін маўчаў, са смуткам пазіраючы на растучую гару паперы і маўчанне яго яшчэ больш злавала Жданава.

Ён кінуўся ў бакоўку, дзе, як відаць, была спальня, і выцягнуў новае бярэмя праектаў. Сіні суртук, які ён паспеў надзець дзеля госця, і белая касынка, якая з'ехала на бок—былі ў пылу, валасы на галаве раскудлачаны, а ў голасе чуліся гнеў і слёзы.

— Табе яшчэ трэба, суддзя? Яшчэ хочаш? Зараз на гару палезу, там іх цэлая скрыня!

— Даволі, Якаў. Пагарачыўся я. Ды і ты гарачы...

— Гарачы, кажаш?

— Так, Яша. Ад гэтага ні табе, ні мне не лягчэй.

— А калі не лягчэй, дык няхай усё ідзе прахам...—Ён шырока развёў рукамі і, захапіўшы ў бярэмя чарцяжы, накіраваўся да печкі.

Мартын схапіў яго за плячо.

— Адурэў, чорт!

Жданаў ірвануўся.

— Прэч!

Ля печы з чапялой у руках стаяла жонка.

— Ачумеў ты, ці што?

— Прэч, ведзьма,—сваё палю.

— Сала, сала падгарыць! Пачакай, не адразу!

Архітэктар зарагатаў.

— Сала пагарыць... Эх, дурніца! Душа, слёзы мае—гараць, мары... Дай чапялу, ведзьма!

Ён са злосцю запхнуў у чалеснік бярэмя папер. Полымя густа і злосна загуло.

— Усё няхай гарыць! Увесь свет, жыццё маё, распраклятае, мара нязбытная...

— Сціхні, чорт!

Жданаў адкінуў чапялу і, упаўшы на край стала, зарыдаў. Ля печкі мітусілася і бурчэла жонка, стараючыся выцягнуць распаленую да чырвані скавараду.

Счакаўшы некаторы час, усе трое, супакоіўшыся, сядзелі за сталом. Жданаў быў маўклівы. Жанчына дабрадушна гаманіла.

— Піце, Якаў Іванавіч, чаго ўжо там. Я-ж таксама не каменная, разумею.

— Добра, Мар'я. Бываеш ты раз на год ласкавай і то на хрыстовы дзень па абяцанню,—а цяпер, відаць, дзеля гасця адумалася.

— Пі, пі, гарун! За мужыкоў я рада, мужыкі з хлебам.

— За мужыкоў яго вось дзякуй, Мартына Калінкіна.

Мар'я, апіраючыся локцем на край стала, паклала на далонь сівую галаву.

— І-і, ясачка, Мартын Іванавіч, нічога вы не ведаеце, ды не знаеце. Вось ён, Якаў, ён так разважае,—маўляў, у бабы цягла—паела ды спаць лягла—і канцы ў ваду. Ён маіх клопатаў ды тугі мае і не бачыць за сваімі. Цяпер, скажам, нябожчык барын—ні дна яму, ні пакрыўкі на тым свеце. Не раз я атруціць яго, злодзея, хацела, ды сам акалеў, слава табе, госпадзі. Жыў у нас адно лета на млыне работнік Панкрат. Глуханямы быў і прыдуркаватым прыкідваўся. А сказаць па-праўдзе, быў ён з-пад Уральскай зямлі ўцякач. Язык яму адрэзалі, але быў ён разумней разумнага. І нават татуля імя яго не ведаў сапраўднага. А звалі яго Фядот Іванавіч Багамолаў. Любіліся мы з ім,—нябожчык татуля здагадваўся, але віду не паказваў, толькі пагрозіць, бывала, ды скажа—глядзі, Мар'я, даскачашся. Дзіця ў нас было...—Мар'я выпіла і, пасыпаўшы соллю лустачку хлеба, пажавала.

— Ну, вось. З чаго-ж я пачала? Ага! Вось з матухнай вашай, бывала, чаго толькі ні перагаворым—пасябравалі мы, калі саслалі яе ў Алексіна.

— Што-ж, як яна? Раскажы, Мар'я Касьянаўна.

— Ды што расказваць, жыла—тужыла, як і ўсе жывуць. Але колькі нацярпелася, нагаравалася, сардэчная,—больш няма куды. Пра цябе ўспамінала. „Чуе, кажа, сэрцайка—жыў ён і не мог ніяк памерці!" А ёй яшчэ старац сляпы на кірмашы нібы-та пра гэта выгадаў.

— Старац, кажаш?

— Ага, велізарны такі, страшэнны і ноздры рваныя.

Мартын усміхнуўся і наліў шклянку.

— Ну, Мар'я Касьянаўна, давай, калі так, за старца вып'ем!—таму што праўду ён выгадаў і сэрца матчына супакоіў.

— Не ахмялець бы мне, браткі-мужыкі.

— Пі, пі, не ахмялееш!—Жданаў жартаўліва пасцёбаў яе па плячы.

— Што-ж, пра Дунечку не спытаецеся?—нечакана звярнулася яна да Мартына.

Той моўчкі махнуў рукой.

— Памерла Дуняша, мусіць, Мар'я Касьянаўна.

— Ой, жыве, саколік, жыве...

— Як? Жыве Дуня?—Мартын парыўка ўстаў. Талерка, што стаяла на краю, упала са стала і разбілася.

— Ну, значыцца, на шчасце, Мартын Іванавіч,—засмяялася Мар'я.—Жыве яна, пад Смаленскам пражывае...

Позна засядзеліся яны ў гэты вечар за сталом і многае ўспомнілі. Жданаў расказаў, як пасля паўстання яшчэ з год бунтавалі мужыкі, як пасылалі яны хадакоў да самай гасударыні.

Нарэшце, узлёгшы локцямі на край стала, ён ахмялеўшы задрамаў. Мар'я ўстала і паклікала за сабой Калінкіна. Ён вышаў у сенцы і жанчына пацiху шапнула:

— Ідзі на грэблю, саколік, там мужыкі чакаюць цябе. Я пры ім казаць не хацела.

Мартын усміхнуўся і ступіў на парог. Ноч была душная і месячная.

— Значыцца, Дуня жыва? Жыва!—прашаптаў ён і ўсміхнуўся. Значыцца, і я жыў...

Сярод мужыкоў былі стары Качатых, рабы Карней, некалькі рабочых шкляной фабрыкі. Аказалася, што заместа аднаго свірна яны ўзламалі яшчэ два і, забраўшы ўвесь хлеб, рашылі параіцца з Мартынам, што рабіць далей.

Чуткі аб наступленні французаў ляцелі адусюль, і мужыкі не ведалі, ці то аставацца на месцы,—добра, што хлеб ёсць,—ці то ехаць, як іншыя. Гаварылі яны да світання. А калі ўзняўся над возерам лёгкі туман і пырснула сонца—пачалі разыходзіцца.

Хутка з Алексіна выехала некалькі конных і заспяшаліся ў розныя бакі. Было вырашана Алексіна пакуль не чапаць, але абвясціць сялянам вотчын Барышнікава, каб яны на баршчыну не выходзілі і забіралі панскі хлеб.

## XIII

Пасля злучэння 1-й і 2-й армій пад Смаленскам становішча рускіх значна палепшылася. У сяго-таго з групы, варожай Барклаю, узнікла спакуса—атакаваць Напалеона. Прытрымліваючыся ранейшай тактыкі, але пад націскам гэтых сіл, Барклай быў вымушаны змяніць яе і як-бы часова „страціў галаву". Замест адступлення ён загадаў рушыць арміям у паўночна-заходнім напрамку ад Смаленска па віцебскай дарозе. Згадзіўся ён на гэта вельмі неахвотна. Адносіны паміж ім і Багратыёнам станавіліся ўсё больш нецярпімымі. Апошні проста абвінавачваў галоўнакамандуючага ў здрадзе і не толькі вусна, але і пісьмова. Начальніку штаба першай арміі Ермолаву ён напісаў: „Мы прададзены, бачу я—нас вядуць на пагібель, я служыў майму прыроднаму гасудару, а не Бонапартэ..."

Разумеючы, што пры неадкладнай сутычцы з галоўнымі сіламі Напалеона, войска чакае разгром, баючыся за ўласную рэпутацыю, і ў той-жа час лісліваючы самалюбству Багратыёна, Барклай стараўся надаць свайму манеўру выгляд сапраўднага наступлення, але гэта быў толькі крок на месцы—уступка грамадскай думцы і націску самога цара. Адыход да Рудні быў зусім непатрэбным. Таму, як толькі Барклай атрымаў весткі, што непрыяцель у Парэччы, ён, апасаючыся заходу французаў з тылу на Смаленск, загадаў 1-й арміі з вёскі Прыказ-Выдры выступіць на Парэцкую дарогу, а 2-й арміі—прыбыць з вёскі Катыні і распалажыцца ля Прыказ-Выдры.

Платаў, камандуючы авангардам, не паспеў даведацца аб гэтым новым манеўры і, рухаючыся ў ранейшым кірунку, ля Малевабалота сустрэў два непрыяцельскіх сарскіх палкі. Сутычка

скончылася перамогай, але да рашучых дзеянняў з галоўнымі непрыяцельскімі сіламі не прывяла. Напалеон хутка засяродкаваў значныя сілы, каб паміж Расасной і Лядамі ўдарыць на левае крыло рускіх, галоўным чынам, на 27 дывізію Невероўскага, што стаяла ў Красным. Абедзве нашы арміі заспяшаліся да Смаленска, пакінуўшы, як заслон, 28-ю—на поўнае знішчэнне. Па сутнасці, гэтыя дзеянні былі абсалютна непатрэбны і прывялі толькі да вялікай стомы войска. Не дзіўна, што праходзячы праз горад, салдаты Багратыёна валіліся з ног і спалі на вуліцах. Але іх яшчэ чакаў другі непатрэбны пераход да Надвы.

А Смаленск быў натхнёны перамогай Платава. 28 ліпеня па старому стылю ў цэрквах служылі „благодарственные" малебны. Урачыстасць супала са святам смаленскай іконы Одыгітрыі. Ікону з крэсным ходам па звычаю абносілі па крэпасной сцяне. Яшчэ за некалькі дзён да гэтага выезд з горада быў забаронены. Насельніцтва, не ведаючы ў чым справа, як толькі раздаўся густы і нізкі звон у саборы—рынулася падымаць Одыгітрыю-матухну. Ішлі мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці, і хутка прастора вакол царквы, частка саборнага ўзгорку і архірэйскі двор былі заняты людзьмі.

Паліла спякотлівае сонца, у расчыненыя дзверы сабора былі відаць галовы людзей, што маліліся, мігценне свечак і частка высокага, пазалачонага іканастаса. Гучнае пяянне даносілася адтуль, зліваючыся з гугнявым выццём сляпых, якія сядзелі ўнізе ля мураваных сходцаў лесвіцы, якая вяла на саборны ўзгорак. Абліваючыся потам, людзі з непакрытымі галовамі шапталі малітвы. У саборы яны стаялі суцэльнай масай, не маючы магчымасці ні павярнуцца, ні паварухнуць плячом. Скрозь высокія вокны скупа падалі сонечныя прамені. Смурод ад свечак і лампад, хвалі ладана і дыханне мноства людзей яшчэ больш узмацнялі духату. Стары дзячок, з шапкай сівых валасоў на галаве выйшаў перад амвонам і гулкім басам пачаў чытаць дзеяння:—братие, облецытеся во вся оружия божия и шлем спасения восприимите и меч духовный, иже есть глагол божий!

Узвышэнне з ківотам цудатворнай іконы было асабліва ярка заліта агнямі. Масіўныя падсвечнікі займалі ўсю пляцоўку, а свечак падавалі так многа, што даводзілася іх мяняць бесперапынна. Шорах вопраткі, рух і шаптанне малітваў, патрэскванне воску стваралі своеасаблівы шум, падобны на пераднавальнічны шум лісця.

Але вось адышла служба, адышоў і малебен аб ніспасланні перамог рускаму воінству і з пяяннем: „спаси, господи, люди твоя" паваліў з сабора народ. Трымаючы высока перад сабой царкоўны ліхтар, першым выйшаў нізкарослы сівы мешчанін у сінім каптане. За ім рушылі парамі пратэсаносцы.

— Нясуць уладычыцу,—пачулася ў натоўпе.—Царыцу нябесную, Одыгітрыю, заступніцу нашу...

Высокая, худая старуха, з вырачанамі ад натугі вачыма, вылезла наперад. Левай рукой яна валакла за сабой маладую, кірпатую мяшчаначку. Чорная хустка з'ехала ў старой з галавы, а з-пад ка-

ляровага чапца выбіліся сівыя валасы. Раз-по-разу хрысцячыся, яна прымаўляла скорагаворкаю:

— Радуйся, заступніца роду хрысціянскага, радуйся, нявеста ненявесценая! Прасвятая багародзіца, пакрый нас святым тваім амафорам.

Мяшчаначцы, як відаць, карціла перахрысціцца, але руку яе трымала старая, а з усіх бакоў неміласэрна штурхалі. Ледзь вызваліўшы левую, яна перахрысцілася. Старая ўдарыла яе па руцэ.

— Ачумела, Аксютка! Ах, блудніца бязбожная.—І, блытаючы словы акафіста, яшчэ гучней крыкнула:—Радуйся радости твоея яко крык благоухающая...

Калі ў прытворы, пахістваючыся на насілках, паказалася ікона, старая выскачыла наперад, збіраючыся прайсці пад ёю. Але насустрач ішоў чорнабароды, увешаны медалямі, Іван Іванавіч Цытрос, паліцэймейстар, грозна пакрыкваючы:

— Асадзі назад! Назад асадзі!

У пярэдняй пары насілкі неслі старшы настаўнік гімназіі Ефрэмаў і памочнік кансісторскага сакратара Нікалай Веліканаў. У другой ішлі—гарадскі галава Берзін і купец Ермалай Кліменкоў. Па баках тоўпіліся ў белых сціхарах архірэйскія пеўчыя і хор духоўнай семінарыі.

Адціснутая народам, старая хацела прашмыгнуць да іконы паміж пеўчымі і яшчэ здалёк працягнула руку, каб дакрануцца пакрывала, але Кліменкоў люта прыгразіў ёй кулаком. Ззаду пачуўся тоненькі голас мяшчаначкі.

— Цётухна Секлецея, дзе ты? Я—тутачка.

Рослы семінарыст скасавурыўся ў яе бок і падміргнуў. У той-жа час ён старанна і голасна выводзіў:

— И благослови достояние твое. Побе-е-е-ды благоверному-у-у...

Унізе, на пляцоўцы ля мураваных сходцаў стаяла каманда дзядоў—георгіеўскіх кавалераў. Прытрымліваючы шпагу, паліцэймейстар хуткім крокам выперадзіў духавенства і падаў ім знак. Кавалеры здвоілі рады і сталі па абодвух баках сходцаў, адцясніўшы просты народ. Па камандзе, зняўшы ківеры і апусціўшы ружжы, яны стаялі адзін супроць другога, сівавусыя, з неміргаючымі вачыма, і калі ікона ўвайшла ў калідор, пеўчыя адсталі і пайшлі ззаду, а салдаты, зрабіўшы паварот, рушылі па баках. Працэсія накіравалася ўніз па Троіцкай вуліцы да надваротнага храма, толькі нядаўна адбудаванага. Там, узышоўшы на сцяну крэпасці, яна рушыла на ўсход.

Уздоўж сцен знадворку ад Дняпра і ўнутры па Армянскай вуліцы рухаліся два людскія патокі. Працэсія расцягнулася так далёка, што галаўная частка падышла ўжо да Весялухі, а заднія толькі яшчэ падымаліся на сцяну. Вакол горада трэба было прайсці да сямі варот. Народу прыбывала ўсё больш і больш. Адусюль чуліся словы малітваў, жаласлівыя ўсхліпванні, гутарка ўпоўголаса.

— Смаленская божая мацер, дапамажы і злітуйся!

— А народу, дзядзька Міхей, зірні-тка,—валам так і валіць, так і валіць.

— Родныя, хлапчука не сустрэлі? Малюпасенькі, у сарпінавай

кашулі, апаяска чырвоненькая? О, госпадзі, ну дзе-ж ён? Сенька, Сенька! Ідзі сюды, Сенька!

— Ціха, бабы! На базар прышлі?

— Цару нябесны, уцяшыцель, душэісціны, іжэ вездэ-сый...

— Ай, бабачкі, грошы згубіла.

— Глядзі, выцег хто.

— Ды хто-ж у запазуху палезе.

— Каму трэба—палезе.

— У хустку завязала, кажаш?

— Ды ў хустку, поўрубля меднага,—ой, заб'е мужык!

— А пабітых, кажуць, відана-не-відана, а палонных і не пералічыць.

— Плятуць, быдта Платаў самога Паляона ў Малева-балота загнаў.

— А што ты думаеш—рускага салдата ніякая сіла не адолее.

— Нашы, брат, пойдуць часаць...

— Ага, нашы і ў полі не баяцца, і на печы не дрыжаць.

— А падайце, праваслаўныя, бязрукаму, хвораму—на харч, дабрадзеі вы нашы.

Нясцерпным бляскам мігцяцца крыжы пратэсаў. Пыл, які ўздымаецца мноствам ног, густа плыве над натоўпам. І над усім уладарна гудзе цяжкі царкоўны звон.

Ля молахаўскіх варот, непадалёку ад вежы, крэсны ход спыніўся і хор стройна заспяваў словы малебна. Але народу засталося ўжо мала. Многія адсталі, або разышліся дамоў. Многія вярнуліся да дняпроўскага маста глядзець на палонных французаў, захопленых пры Малевым-балоце. Калі-ж ікона набліжалася да надваротняга храма,—удзельнікаў шэствія стала зусім нямнога.

Пры Малевым-балоце сапраўды было ўзята ў палон да трохсот чалавек, але чутка аб прыбыцці ў Смаленск палонных была хлуслівай. Цераз мост праходзіў транспарт—больш поўсотні вазоў, але то былі рускія параненыя. Убачыўшы іх, людзі адчулі, што вайна—усё-ж вайна. Яна недалёка і можа здарыцца—заўтра прагрыміць у сценах горада. У сабор ікону суправаджаў амаль ужо адзін прычт, ды некалькі дзесяткаў бабулек і жабракоў.

Першага жніўня французы пераправіліся ля сяла Коміна на левы бок Дняпра. Над рускімі навісла пагроза быць адрэзанымі ад паўднёвых губерній і рэзервнай арміі Тормасава. Ідучы ўзмоцненым маршам да Смаленска, каб захапіць яго ў тылу рускіх, Напалеон спадзяваўся адрэзаць таксама арміі ад Масквы і хацеў прымусіць іх прыняць рашучы бой. Дывізію Невероўскага, якая стаяла ў Красным, чакаў разгром. Палкі змяшаліся ў адну калону і адступілі па паштовай дарозе да Смаленска. Не гледзячы на тое, што ўкамплектавана яна была ў большасці новабранцамі, якія былі ўпершыню ў баі, не гледзячы на тое, што на саракасямі-вёрстным шляху прышлося адбіць больш сарака кавалерыйскіх атак і трэцяя частка людзей была знішчана—адступленне гэтае станавілася перамогай, выклікаючы нават захапляючае здзіўленне французаў. Уначы з другога на трэцяе жніўня рэшткі дывізіі Неверсўскага падышлі да Смаленска і распалажыліся за шэсць вёрст ад яра.

Мартын Калінкін спяшаўся ў Смаленск, нічога яшчэ не ведаючы аб сапраўдным становішчы. Ён цмяна спадзяваўся, што не застаўшы Барышнікава ў маёнтку, знойдзе яго ў Смаленску. Затрымлівацца ў Алексіне яму не было сэнсу. Мужыкі дружна выехалі на поле, пачалі прыбіраць і звозіць барскі хлеб. Жданаў запіў. Мартын, не бавячыся, узяў лепшую тройку на стайні, выбраў экіпаж і, захапіўшы рабога Карнея за фурмана, уначы выехаў з Алексіна.

Цэлы тыдзень ён нястомна гойсаў па сёлах і маёнтках Барышнікава, не ведаючы ні сна, ні адпачынку і загнаў некалькі троек. Усюды ён з'яўляўся чаканым госцем. У іншых месцах, не чакаючы яго прыезда, мужыкі самастойна распараджаліся ў маёнтках. Буда, Падхапай, Баканава, Маркава, Верыгава, Забор'е, Пустошкі, Патапава, Неелава, Міціна, Чэснакоўка ў першыя-ж дні прыйшлі ў рух. Паўстанне захоплівала новыя і новыя сёлы і, нарэшце, перакінулася ў суседні Ельненскі павет. Гледзячы на суседзяў, захваляваліся мужыкі ў сяле Чамаве, якое належала князю Далгарукаму і ў сяле Ушакове—Рымскага-Корсакава. Паўстанне пашыралася і ў душныя месячныя ночы на гарызонце ўзнікалі далёкія заравы.

Усё часцей чулася імя Мартына Калінкіна. У Дарагабуж, Ельню і Духоўшчыну ляцелі слёзныя скаргі памешчыкаў.

Адзін без усякай зброі, зарослы барадой, з загарэлым ад спёкі і пахуднелым тварам, з вачыма, пачырванеўшымі ад бяссонніцы, гэты чалавек быў страшны ім. Ён не пераконваў і не ўгаварваў. Вестка аб яго прыездзе разляталася ў імгненне і мужыкі без кліча з'ўляліся самі. Мартын распытваў, у чым яны маюць патрэбу, ці крыўдзіць іх барын, або ўправіцель. Вінаватага хапалі і мужыкі тут-жа судзілі яго. Колькасць розак вызначалася ўсёй грамадой. Пасля пакарання Мартын загадваў вінаватаму кланяцца грамадзе да зямлі і дзякаваць за навуку. Аднойчы ў Вяземскай вотчыне князя Далгарукага ўпраўляючы і некалькі чалавек з дворні замкнуліся ў панскім доме. Пад'ехаўшы бліжэй, Мартын устаў на ўвесь рост у калясцы і прыгразіў засеўшым нагайкай. Адтуль пачуліся бязладныя выстралы і лаянка. Мартын загадаў несці салому. Калі з'явіліся мужыкі з кулямі, парабкі звязалі ўпраўляючага і выдалі народу.

У сутарэнні Калінкін знайшоў схуднелага, пасівеўшага чалавека, прыкаванага да сцяны жалезным ланцугом. Гэта быў Дзёмка, які выратаваў калісьці Мартына з вежы Алексінскага крэмля. З месяц назад дзёмкіна карова трапіла ў барскі сад і вытаптала клумбу дарагіх кветак. Садоўнік скалечыў карову, а ўпраўляючы высек мужыка на стайні і пасадзіў на ланцуг, пакуль не заплоціць дваццаць рублёў штрафу. Мінулае ўспамінаць не было часу. Горача прывітаўшыся з прыяцелем, Мартын загадаў яму выбраць карову з панскага статка і паставіць да сябе на двор, а ўпраўляючага бязлітасна высеклі.

Карнея прыйшлося адпусціць дадому і ўзяць з сабой Дзёмку. З Карнеем ён напісаў запіску.

„Яша! Калі запой твой яшчэ не скончыўся, усёадно кідай— цяпер не час. Раздавай мужыкам жывёлу, коней і кароў. Калі хочаш яшчэ пабачыцца, чакай у Пагарэлым, я хутка буду там“.

Але пабываць у Пагарэлым яму так і не давялося. Прыгонныя падпалкоўніка Энгельгардта паўсталі і ўласнік для ўціхаміраньня іх вывеў з Парэчча казакоў. З Дзягілева да Мартына прышлі два хадакі з просьбай усмірыць іх барына. Было гэта ў сяльцы Міціна, Няелаўскай вотчыны Барышнікава. Староста—багаты мужык у мінулы год адкупіўся з сям'ёй на волю і ў Дарагабужы завеў скураны выраб. Як толькі прыехаў Мартын, ён з'явіўся да яго па загад. Быў абедзены час і сонца паліла невыносна. Захапіўшы дзягілеўскіх мужыкоў, Мартын загадаў Дзёмку завярнуць да старасты. Ён умовіўся з хадакамі, каб тыя пасля абеда, не бавячыся, адправіліся дадому, папярэдзілі народ аб яго прыездзе. Ні ён, ні хадакі яшчэ не ведалі, што казачая каманда прыбыла ўжо ў Дзягілева і чыніць суд і расправу.

Стараста выставіў багатае частаванне, а сына паслаў у Няелава па гарэлку. Правёўшы за парог, ён шапнуў хлопцу, каб той паведаміў няелаўскаму ўпраўляючаму пра гасцей.

Зірнуўшы на стол з частаваннем, дзягілеўцы пераміргнуліся. Стараста—грузны, з вялікім чэравам мужык—ручніком пачаў выганяць у акно зграю мух. Мужыкі фыркнулі і заспяшалі на двор спаласнуць рукі.

Калінкін, раздзеўшыся да пояса, абліваўся ля калодзежа халоднай вадой. За прыталакай сенцаў, каб не бачыць голага мужчыну, стаяла напагатове старасціха з чыстым ручніком. Дзёмка распрагаў коней і смяяўся, штосьці расказваючы Калінкіну.

Мужыкі, убачыўшы дзябёлую з падслепаватымі вачыма старасціху з ручніком на выцягнутых руках, паглядзелі адзін на другога і зноў фыркнулі. Насустрач ім, ужо адзеты, ішоў Мартын, расправаўляючы доўгія свае вусы.

— Эх, добра, браткі, што свая лазня—засмяяўся ён.

— Чаго ўжо там, у гэтакую спёку ў самы раз у рэку.

— Але, цяжкае жыццё тваё, Мартын Іванавіч, і памыцца як след не даюць.

— Вытрыся, вытрыся, госцейка дарагі, на вось ручнічок,— заспявала, з'яўляючыся на парозе, старасціха. Калінкін, выціраючыся, стаў распытваць старасціху пра ўраджай. У расчыненыя насцеж дзверы ён не бачыў, як на двор рыссю ўз'ехала трое незнаёмых мужчын. У аднаго з іх за плячыма была паляўнічая стрэльба.

Дзёмка, паставіўшы коней, ішоў у хату. Убачыўшы прыезджых, ён спыніўся ў парозе. З-за яго спіны выглядала старасціха.

Верхавы, саскочыўшы з каня, шпарка падышоў да Дзёмкі.

— Гэты, ці што?—крыкнуў ён жанчыне.

— Там, там, бацюхна,—у хаце антыхрыст.

Дзёмка, скеміўшы ў чым справа, бокам ускочыў на парог і навотмаш ударыў старасціху ў твар. Скрыгануўшы зубамі, тая дзіка загаласіла. Але Дзёмка ўжо бразнуў дзвярыма і, адбіваючыся ад старасціхі, шукаў засоўку. Баба мядзведзем насядала на яго ззаду. Дзверы злёгку прыадчыніліся і ў шчыліну грымнуў выстрал. Шарахнуўшы па дошках, шрот веерам разляцеўся па сенцах: некалькі шрацінак зачапіла Дзёмку і трапіла бабе ў прадплечча.

Прысеўшы з перапуду, яна яшчэ гучней загаласіла.

— Ой, бацюхны, забілі!..

Але Дзёмка ўжо зачыніў на засоўку дзверы і, брыкнуўшы бабу нагой, ускочыў у хату.

Стараста, узняўшы над галавой калун, чырвоны, з вырачанымі вачыма, рабіў імклівыя рухі, наровячы абыйсці стол і дастаць Калінкіна. Мартын стаяў у покуці без зброі. Калі-б не тапор, то з боку можна было-б падумаць, што адбываецца дзіцячая гульня ў ката і мышку. Заўважыўшы Дзёмку, Мартын хутка прыняў рашэнне. Нечакана для старасты, ён нырнуў пад стол і, падняўшы яго на шырокіх сваіх плячах разам з пасудай і з пачаступкамі, рынуўся на яго. Стараста збянтэжыўся, узмахнуў калуном і ўдарыў. Гліняныя чарапы паляцелі да долу. Ад моцнага штуршка стараста ўпаў і стол прыціснуў яго. Дзёмка ўскочыў зверху і прыгнёў яшчэ мацней. Выхапіўшы ў старасты тапор, ён замахнуўся, але Мартын стрымаў яго за руку.

— Не чапай, мы па-іншаму...

З грукатам расчыніліся ў сенцах дзверы.

— У акно скачы. У іх стрэльба.

Мартын, доўга не думаючы, кінуўся да акна. Яно было вузкае, але, рвануўшыся, ён плячом вывернуў раму. Дзёмка выскачыў следам за ім. Упраўляючы Няелаўскай вотчыны Іван Бердзяеў і абухоўскі падпаручык у адстаўцы Павел Лыкошын засталіся ў хаце.

Хадакі з Дзягілева агародамі пабеглі да барскага гумна. Насустрач ім ужо набліжалася чалавек пяцьдзесят мужыкоў. Мартын спыніўся і падолам кашулі выцер на твары кроў.

— Мужыкі,—прахрыпеў ён,—міцінцы, стараста ваш—сабака. Кроў за кроў, мужыкі! Лавіце сабак, але не забівадь—я сам...

Бердзяеў з Лыкошынам выскачылі на вуліцу, але убачыўшы мужыкоў, кінуліся ваколіцай у поле.

Агакаючы, як на зайцоў, міцінцы кінуліся за імі. Абодва памешчыкі былі маладыя і беглі лёгка. Балоцістая вузкая рачулка перагарадзіла ім дарогу і яны беглі ўздоўж берага да вёскі Лісічына. Крута павярнуўшы налева, яны пераскочылі на той бок. Адзін з мужыкоў спыніўся.

— Стой, хлопцы! Далей—балота. Ім ходу няма. Яны як піць даць—кінуцца да лісічанскай пераправы. Ганіце без перадыху, а мы цераз аўсы на перарэз. Ды паглядвай, каб не затаіліся ў ракітніку...

— Ну, ну, у нас не пахітруюць,—адказаў нехта.

Мартын спыніў мужыка.

— Стой, дзядзька, ты, відаць, кемлівы—вазьмі-тка з сабой пару хлопцаў, ды звяжыце старасту.

— І то праўда. Ну, мужыкі, глядзі проста на пераправу, давайце. Няйначай ім к возеру выскачыць.

Дзёмка патрос калуном.

— Ох, і зададзім...—ён не даказаў і са смехам пабег цераз аўсянае поле за мужыкамі.

Мартын вярнуўся назад і, адвязаўшы каня, ускочыў на яго. Ударыўшы абцасамі, ён паімчаўся па дарозе да Лісічына. Густы

пыл узвіхрыўся следам. Мартын быў спакойны. Трэба на чым-бы там ні стала дагнаць тых дваіх, інакш яны знішчаць яго. І, падганяючы каня, ён запёкшымі губамі, зашаптаў:

— Кроў за кроў, кроў за кроў!

Віляватая, пыльная дарога цераз жыта крута павярнула направа. З'явілася спакуса павярнуць нацянькі цераз жыта, але баючыся зблудзіць і спазніцца, ён паскакаў па дарозе. Абагнуўшы касагор, дарога пайшла ўлева і не далей вярсты ён убачыў лісічанскае возера. Віхром праляцеў конь цераз вузкую лагчынку; тоўстыя жэрдкі невялікай старой грэблі глуха загулі пад капытамі.

З касагора было відаць—тыя, што ўцякалі, былі ўжо за ракой, а мужыкі адсталі. Наперарэз уцякаўшым беглі іншыя і адлегласць паміж імі хутка скарачалася. Успомніўшы праз скураную папругу, Мартын зняў яе і пачаў сцёбаць каня.

Наперадзе ўсіх бег з тапаром Дзёмка. Упраўляючы Бердзяеў азірнуўся. Змецiўшы тапор, ён спаткнуўся і ўпаў на калені, закрыўшы галаву рукамі. Дзёмка прабег міма, не кранўшы яго. Яго цікавіў другі. А той, сарваўшы з сябе венгерку, кінуўся ў ваду. Рачулка тут была даволі шырокая і ўцякач прыкінуў правільна. Калі яму ўдасца пераплыць на той бок—ён будзе выратаваны.

Але Дзёмка, не раздумоўваючы, скочыў у ваду і паплыў. Конь пад Мартынам пакрыўся шматкамі пены. Мартын убачыў, як Дзёмка падняў тапор, але прамахнуўся. Выскаленая фізіяномія падпаручыка была ў двух кроках. Шырока раскрыўшы рот, ён закрычаў. Дзёмка ў другі раз ударыў калуном і падпаручык Лыкошын, як толькі выскачыў на бераг, ткнуўся тварам у гразь.

— Спёкся, нягоднік,—прамармытаў Дзёмка і пачаў выкручваць мокры падол кашулі.

— Трэба-б яго судзіць, ну, ды клопат,—спыніўся Мартын.

Дзёмка зарагатаў:

— Вош гэтую судзіць? Мужыцкі суд для вошы вядомы: зlавіў ды пад кіпець.—Бледны твар яго раптам пачырванеў і, узмахнуўшы тапаром, ён ступіў да Мартына.—А нас яны судзяць?! Цябе, мяне судзілі, а?

Ад сядзібы беглі людзі і штосьці крычалі. Дзёмка павярнуўся ў іх бок.

— Эй, лісічане, забярыце падлу сваю, каб не смярдзела, ды скажыце дзякуй, дурні!

Няелаўскага ўпраўляючага Бердзяева Мартын загадаў павесіць на перакладзіне варот на двары старасты. На грудзі яму мужыкі прымацавалі дошчачку, напісаную вугалем: „Дваранін Іван Бердзяеў, пакараны смерцю па майму, прыгоннага жывапісца Мартына Калінкіна, аднаасобнаму рашэнню. Не здымаць да прыбыцця ўлад, якім належыць ведаць, што ўсіх дваран і памешчыкаў, а таксама асоб благароднага звання, якія чыняць сялянству крыўду і зняваrу,—чакае той-жа лёс. Хай дапаможа мне бог!“

Старасту бязлітасна высеклі розгамі і двор яго спалілі.

Мартын быў маўклівы і хмурны. Убачыўшы дзягілеўскіх хадакоў, ён падышоў да іх.

— Ну, браткі, мне з вамі ехаць цяпер не выпадае—самі бачыце,

якія справы. За тое, што не ідуць вашы працаваць на барына— дзякуй ім. А з вашым панам зрабіце тое-ж—і Мартын паказаў на вісеўшага Бердзяева.

Адзін з хадакоў уздыхнуў.

— Праўда твая, карміле́ц Мартын Іванавіч. За параду дзякуем. Па сіле нашай зробім, як загадваеш. А ці не будзе ласка твая к нам, сіроцінам? Даў-бы, дабрадзей, ты нам хоць аднаго коніка, што з панскіх, тутэйшых—дарога наша далёкая і бясконныя мы.

— Коніка? Спытайцеся ў міцінцаў.

Дзягілеўцы пакланіліся мужыкам, а тыя, паламаўшыся спярша, далі ім буланую кабылу і воз. Здаволеныя хадакі паехалі.

Гэтай-жа ночы Мартын з міцінскімі мужыкамі перабраўся ў суседнюю вотчыну.

З усіх канцоў у алексінскае ўпраўленне прыходзілі трывожныя весткі. Жданаў быў у замяшанні і не ведаў, як быць. Ён, вядома, здагадваўся, што ўсе гэтыя рэвалюцыі*)—справа рук Мартына Калінкіна.

„Што яму—ён чалавек кончаны, адпеты. Будучыня яго—Сібір або шыбеніца. А вось ён, Жданаў, якому давярае сам пан, прымае Мартына ў сваім доме, п'е і есць з ім і па яго ўказцы раздае мужыкам хлебныя запасы... О, госпадзі, што ён нарабіў, што нарабіў і ці вымаліць ён для сябе літасць? А ўсё вінаваты пракляты запой—усё змей зялёны! Ён, Якаў Жданаў, архітэктар расійскі,— перш за ўсё сумленны чалавек і ніколі не быў крамольнікам...“

Жданаў доўга хадзіў па святліцы, даводзячы сам сабе, што ён правы. Стомлены і спустошаны, ён сядзеў, ахапіўшы аберуч галаву. На стале была раскладзена папера.

Мар'я запаліла агонь. Падняўшы галаву, Жданаў мутным позіркам паглядзеў на яе.

— А-а... яна таксама казала, каб раздаць хлеб. Яна абрыдлая на ўсё жыццё, як праказа, як камень на шыі...—не дадумаўшы, ён моўчкі ўстаў і, падышоўшы, ударыў жонку некалькі разоў.

Мар'я адкрыла рот і ўся застыла. За печкай заліваўся неўгамонны цвіркун.

Жданаў прысеў ля стала і няроўнымі літарамі вывеў:

„Яго высокароддзю, пану прэдвадзіцелю Дарагабужскага дваранства і кавалеру Вакселю“.

Гэта было падрабязнае данясенне аб хваляваннях сялян у маёнтках Барышнікава, аб прычынах іх і просьба аб высылцы воінскай каманды.

У акно пастукалі і ў кантору ўвайшоў Карней з запіскай Мартына. Мужык расказаў падрабязна, што сам ён бачыў. Вестка аб хваляваннях у Міціне і забойстве Лыкошына і Бердзяева нагнала Карнея ў дарозе.

Выслухаўшы, Жданаў далучыў запіску Мартына да пісьма і заклеіў.

— Досвіткам паедзеш у Дарагабуж і перадасі гэтае пісьмо.

---

*) Цікава, што гэтыя хваляванні ў той час называліся рэволюцыямі. Назва гэта сустракаецца ў адсыльнай кнізе алексінскага праўлення за 1813 год.

— А наконт жывёлы як-жа, Якаў Іванавіч? Калінкін прапісвае...

— Я загадваю, рабі, што гавораць,—суха перапыніў Карнея Жданаў.

— То-та-ж, я каб усё па справядлівасці.—Ён хацеў яшчэ сказаць штосьці, але толькі паківаў галавой і выйшаў.

Азіраючыся на мужа, хутка на цыпках выйшла Мар'я. За варотамі крэмля яна дагнала Карнея і, учапіўшыся за руку, пацягнула да грэблі.

— Карнюшачка, кумочак, не вязі пісьма!

— Пачакай, Мар'я Касьянаўна, не лі слёз без часу. Пісьмо каму?

— Быдта начальству самому.

— Ага...

— Ён раніцой, Яшка, усё лаяў мужыкоў. Данос гэта, Карней, данос і на Калінкіна і на ўсіх вас,—спяшліва шаптала жанчына.

— Данос, кажаш?

— Ага, ага. Яшчэ гаварыў ён секуцыйную каманду сюды...

— Ну, не чакаў я ад кума зладзейства такога. Да ручкі дайшоў, значыцца, калі гэтак...

— Ты парві, пісьмо, а сам скажы, быццам аддаў.

— Нашто рваць, кума. Рваць не след. Я ўжо скемлю, што да чаго.

І ён пайшоў, худы, даўжэзны і цень ад яго, ломячыся ў месячных бліках, схаваўся за ракітамі.

Алексіна спала. Трапёткі месяц роўным святлом абліваў панскі парк і двухпавярховы белы дом. Сярэбраным бляскам у лісцях мігцеў шкляны дах аранжарэі. Густыя цені ад дрэў леглі на правабярэжжа. У рабочай слабодцы лянiва забрахаў сабака і замаўчаў. Нават вада пад грэбляй шумела прыглушана. На скошаным панскім полі стаялі непрыбраныя мятлікі жыта. Ляжаў, прыбіты расою, дарожны пыл. Мінуўшы алексінскі бор, Карней убачыў далёкае зарава.

А Мартын адчуваў незвычайны ўздым і ўнутраную паўнату ў гэты вечар. Стаяў ён у цяні стогадовага дуба, на ўскраі няелаўскага парка і глядзеў на палаючы панскі дом. Усё каштоўнае з дому, нават пячныя юшкі і ручкі ад дзвярэй былі вынесены. мужыкі без крыку і спрэчак, дзелавіта і проста прынеслі бярэмя саломы і падпалілі дом. Мартын не сказаў ні слова—так было неабходна. Яму самому добра было знаёма пачуццё нянавісці. Нават крыўдная назва гэтага сяла напаміналa аб ім.

Мужыкі стаялі вакол і павесялеўшымі вачыма пазіралі на агонь. У натоўпе віднеліся жанчыны, дзеці і нават дзяды. Мартын глядзеў на іх і яго весяліла гэтая страсць да разбурэння.

Не гледзячы на трывожны дзень, на небяспеку, якой пазбегнуў у Міціне, ён не адчуваў стомы.

Прывязаны да рашоткі конь бразгаў аброццю і, касавурачыся

на пажар, стрыг вушамі. А Мартын глядзеў на агонь і думаў пра сваё:

„Так, гэтыя дні не забудуцца, не загінуць марна. Гэтае полымя, гэтыя твары, што гарадь ненавісцю і захапленнем, калі-б перанесці іх на палатно, колькі можна было-б напісаць надзвычайных карцін!"

І сапраўды, размах і сіла паўстання былі грознымі і вялікімі.

Кроквы палаўшага дома перагарэлі і дах рухнуў. Мноства іскраў і слуп полымя зліліся ў адно з лікуючым крыкам людзей. Мартын занёс ногу ў стрэмя і, апынуўшыся ў сядле, паціху свіснуў. Роўнай рыссю конь панёс яго міма парка на бальшак.

Летняя кароткая ноч прамільгнула хутка. На скрыжаванні дарагабужскага гасцінца ён даў адпачыць каню. Аслабіўшы папругі, Мартын пусціў яго ў лагчыну і сеў на ўзлеску бярозавага гаю. Лёгкі туман стаяў над лагчынай, але і ён рассеяўся, калі выглянула сонца. Сагрэты яго праменнямі, Калінкін прыдрамнуў на купіне. Толькі цяпер ён адчуў стому апошніх дзён і жаданне спаць.

„І спаць нельга—прасплю",—падумаў ён і стаў вылічваць рэшту дарогі. За ноч ён выгадаў вёрст пятнаццаць. Значыць, к вечару абавязкова будзе ў Смаленску. Але калі паспяшацца, то можна прыехаць завідна. Вёрсты, назвы сяленняў і дарог,—усё зблыталася, ён выпусціў люльку і непрыкметна заснуў.

У гаі зашчабятала нейкая птушка, пацягнула лёгкім ветрыкам і зашумела верхавінне бяроз. Дзесьці далёка ў лузе раздалося залівістае конскае ржанне, і конь Мартына, пакінуўшы жаваць, адказаў на яго. А сонца падымалася ўсё вышэй і вышэй, расістая трава курылася парам. Мартыну здавалася, што ён толькі дрэмле і выразна чуе гукі раніцы. Раптам да яго дайшла журботная ціхая песня. І нібы глухі стук барабана ці тупат капыт пачуўся за ёю.

Расплюшчыўшы вочы, Мартын прыўзняўся і пачаў слухаць. Так, гэта песня. Яна ўсё бліжэй і чутней, можна ўжо разабраць словы.

„Але хто-ж так стройна і складна спявае?.." Мартын падымае люльку і распальвае. У прасветах паміж беластвольных бяроз мільгнулі крупы нізкарослых коней, шапкі і кончыкі пік. Песня грыміць ужо зусім блізка і хапае тугою за сэрца:

Ихав козак на вийноньку:
— Прощай, казав, дивчинонька!
Прощай дивчина-чернобривонька
Иду в чужу сторононьку!

Дай же, дивчина, хустыну—
Може я в бою загину.
Покрыють очи—темной ночи,
Легче в могиле спочину.

Казачая паўсотня ступою выехала на ўзлесак. Услед за ёю ехалі вазы, даверху нагружаныя пукамі лазы. А песня, журботная і тужлівая, рэхам аддавалася па лесе. Казакі, як відаць, выехалі рана і, баючыся заснуць у сёдлах, падбадзёрвалі сябе песняй. Можа ім сапраўды было сумна ў незнаёмых месцах і, выехаўшы

па загаду начальства ў такую рань, спявалі яны, успамінаючы радзіму і тое невядомае, што чакала іх наперадзе.

Дала дивчина хустыну,
Козак у бою загинув.
Темны ночи покрыли очи
Де вин в могиле спочинув.

А злые люди насилу
Взяли несчастну дивчину
А середь поля гнется тополя
Тай на козацьку могилу!

Убачыўшы асядланага каня і Мартына, які сядзеў ля дарогі пажылы ўраднік ад'ехаў ад сотні.

— Гэй, кацап, куды ідзе дарога?

— А табе куды патрэбна, хахол?

— Н-н-у!..—ураднік падняў нагайку і пад'ехаў упоравень. Мартын парыўка ўсхапіўся і вочы яго пацямнелі.

— Ты, балван, пратры вочы і ведай, з кім размаўляеш!

Конь ўрадніка падаўся назад. Азірнуўшыся на казакаў, ураднік няўпэўнена прамармытаў:

— Я не павінен ведаць кожнага праезджага.

— Я не павінен кожнаму дурню адказваць, зразумела?—Калінкін падняў з купіны нагайку і ляснуў ёй па халяве бота.

— Зразумела, то яно зразумела, але дазвольце ваш від.

— А-а, вось як, табе—від? А ты—пісьменны?

— Нічога, мы ўстановім. Гэй, Сцецэнка, едзь да мэнэ!

Пад'ехаў малады румяны казак.

— Чытай, што яно там напісана, што гэта за людына?

Мартын, не спяшаючыся, палез у кішэню і дастаў білет, выданы яму яшчэ ў Слуцку. З гэтым дакументам ён не раставаўся.

Абодва казакі падышлі бліжэй. Мартын, усміхаючыся, працягнуў ім паперу. А сам, назіраючы скосу, стаў набіваць люльку.

— Ввыдан сей би-лет его вввысо-ко-родию калужскому пппомещику господину Гггончарову...—запінаючыся і па складах чытаў казак. Але ўраднік, ужо скеміўшы, што даў маху, сярдзіта закрычаў:

— Досыць, сабачы сын, не бачыш, хто гэта такі?

Казак міргнуў вачыма і выпрастаўся.

— Так точна, бачу, пан ўраднік!

— То-та! А-ну, паглядзі—пячатка е?

— Е, пане ўраднік.

— Значыцца, усё па форме?

— Усе, як след, пане ўраднік!

— Ну, марш на месца!

Казак ад'ехаў, а ўраднік, аддаючы паперу, ухмыльнуўся:

— Прабачце, ваша высокароддзе, памылачка вышла, самі ведаеце, які час, ну і служба...

— Нічога, нічога, казак,—як зваць цябе?

— Ганчарук, ураднік поўсотні пятага казачага палка, ваша высокароддзе!—брава адрапартаваў казак.

— Маладзец, Ганчарук. Гэта добра, што ты спытаў у мяне віду—службу ведаеш.

— Рады старацца...

— Вось табе на гарэлку, Ганчарук,—Мартын даў казаку сярэбраную манету. А ў таго ад старраннасці вочы зрабіліся зусім круглымі. Калінкін пакруціў вус.

— А куды, Ганчарук вядзеш казачкоў? Ці не экзекуцыя?—кіўнуў ён на вазы з лазою.

— Точна так, секуцыя, ваша высокароддзе,—вам магу далажыць. Мужыкі ўзбунтаваліся ў гэтых месцах і нават да смертазабойства дайшло.

— Няўжо?

— Так точна. На досвітку знарадзілі нас, а мяне за начальніка сотнік паслаў па выпадку хваробы.

— Так, так. Значыцца будзеш секчы, Ганчарук?

— Будзем секчы, ваша высокароддзе,—загад і прысяга. Проста замучылі нас гэтымі секуцыямі.

— Мужыкоў шкада?

Казак крыху сумеўся і дапытліва паглядзеў на Мартына.

— Шкадаваць не загадана, па службе на дазваляецца, ваша высокароддзе. Вось толькі не выспаўшыся і праваднік збег.

— Чакай, чакай. Ці не ў Міціна едзеце? Чуваць, быццам, там мужыкі бунтуюць.

— Так точна, у Міціна.

— Ну, Ганчарук, і кругу-ж вы далі...

— Праваднік збег, мясцовасць незнаёмая, барын.—Ураднік адказваў усё больш неахвотна і панура.

— Ну, едзь, Ганчарук, ды глядзі, каб мужыкі міцінскія вас не высеклі, злыя, кажуць, там мужыкі.

Мартын падцягнуў падпругі і, сеўшы ў сядло, махнуў ураднiку на развітанне.

## XIV

Калі адступіўшая дывізія Невероўскага спынілася пад Смаленскам, Багратыёну было паслана данясенне аб нападзе вялікіх непрыяцельскіх сіл. Ей у дапамогу, якая па сутнасці была ўжо непатрэбнай, прыслалі замест дывізіі прынца мекленбургскага восем батальёнаў пад камандай Паскевіча. Праходзячы на світанні праз горад, Паскевіч азнаёміўся з месцам распалажэння і спыніўся за ярам у шасці вярстах. Гэта былі пяхотныя батальёны корпуса Раеўскага, які таксама знаходзіўся непадалёку ад Смаленска. Колькасць усіх войск была менш 15 тысяч, а трэба было затрымаць больш ста васьмідзесяці тысяч французаў. І ў гэты рашаючы момант першая і другая армія бязмэтна маневравалі:—адна—у трыццаці, другая—у сарака вярстах ад Смаленска.

Раніца трыццатага жніўня прайшла яшчэ спакойна, але пасля поўдня стала вядома, што непрыяцель у дзесяці вярстах ад горада. І сапраўды, каля чатырох гадзін дня авангард арміі Напалеона паказаўся на ўзвышшы паміж Дняпром і Чарнушкамі. Каза-

чыя вартавыя пікеты, пакінутыя Раеўскім, на-рысях адступалі ў горад. Увечары пачалі вывозіць казну і каштоўныя паперы ў Юхноў і Вязьму. Гэтай ночы Напалеон са сваім штабам, які напярэдадні начаваў у сяльцы Карытня, спыніўся ў Новым Бары на архірэйскай дачы.

Дыякан Егор і слухаць не хацеў аб ад'ездзе. На жончыны ўпрошванні ён адказваў лаянкай і хадзіў, насупіўшыся, то па двары, то па пасецы. У Смаленску ён дамовіўся з памочнікам кансісторскага сакратара Веліканавым, што той не пакіне іх у бядзе; а спатрэбіцца, то і прытуліць у сваім доме. Абодва прыяцелі былі ўпэўнены, што Смаленск з такімі крэпаснымі сценамі ўзяць наогул немагчыма. Ды і не аддадуць яго войскі без бою.

Аб узяцці Краснага ў Новым Двары даведаліся за дзень да паяўлення французаў пад Смаленскам. У невялікай вёсцы паднялася мітусня. Усе, хто меў магчымасць, укладваліся і ад'язджалі. Дыякан доўга храбрыўся і нават у той момант, калі поп Ніканор пагрузіўся на тры падводы і рассадзіў шматлікае патомства на вазах,—быў непахісным. У садзе спелі слівы і вішні, на яблынях ураджай быў незвычайны, на пасецы, як ніколі,—раенне пчол... Мшонная трывалая пяцісценка з размалёванымі вокнамі, хлеў і двор, яшчэ ранняй вясной перакрытыя гонтам, каровы і конь, свінні, качкі, куры, індыкі,—госпадзі, воля твая, ну як можна ўсё гэта пакінуць?

— Замаўчыш ты, сасуд чортавы? Замаўчыш ці не, я пытаюся?—зашыпеў ён на галасіўшую жонку і палез да яе з кулакамі.

Маленькая Дуня са страхам глядзела на касматыя бацькаўскія рукі і тулілася ў куток.

Раніцай дыяканіха сабрала ў пакунак рэчы, апранулася і, узяўшы дачку за руку, цвёрда вырашыла ісці. Егор скрыгатнуў зубамі і моўчкі выкаціў з-пад паветкі воз. Зборы зацягнуліся да абеда.

Па краснінскаму бальшаку і прасёлачных дарогах ішлі і ехалі бежанцы. Праз Новы Двор цягнуліся падводы навакольных жыхароў. Раўла жывёла, чулася лаянка, скрыпелі калёсы—усё гэта злівалася ў своеасаблівы, хапаючы за сэрца гул, узмацняла трывогу.

З аднаго воза, парваўшы завязкі, з аглушальным піскам саскочыла стракатае парася і пабегла проста на агарод дыякана. Тры бабы і барадаты мужык кінуліся за ім, не разбіраючы дарогі, проста па градах. Дыякан, які падмазваў колы, узняў квач, быццам царкоўнае крапідла і хацеў кінуцца да іх, але, махнуўшы рукой, разлютавана сунуў яго ў дзехцярку. Паміж хлявамі і парканамі парася загналі ў кут. Прыпадняўшы сарафаны, бабы зрабілі заслон; рынуўшы наперад, мужык упаў на яго. Парася запішчала, нібы яго рэзалі. Бабы засмяяліся, а адна маладзейшая, падцягнуўшыся на паркане, пачала зрываць яшчэ зялёныя яблыкі. Дыякан сумна засоп і адвярнуўся. Але не вытрымаўшы, ён кінуўся ў калітку за бабай, а тая саскочыла і ўцякла.

Сцяўшы зубы, і гледзячы кудысьці ўдалеч, дыяканіца сядзела на пакунках, пагладжваючы белакурую касу дачкі. Па вы-

ліцы шпаркім маршам прайшоў невялікі атрад пяхоты, а за ім грукочучы па драўлянай, грэблі, якая злучала і царкоўны ўзгорак і архірэйскую дачу, праехалі дзве гарматы. Дыякан выбег на дарогу і спыніўся. Конны весела закрычаў:

— Ад'язджай, бацька, уцякай, калі жыць хочаш! Хранцуз прэ!

Трэба было спяшацца. Егор з лаянкай накінуўся на жонку, а тая заплакала.

Да воза быў прымайстраваны палатняны верх—атрымалася нядрэнна, на манер цыганскай кібіткі. У пару да каня дыякан прыпрог карову, другую прывязаў ззаду. Праз адчыненыя вароты ўсе ўбачылі, як на-рысях праімчаўся казачы раз'езд.

— Спяшайся, спяшайся,—непрыяцель за вярсту!—крыкнуў казак,—і паток людзей і жывёлы паімчаўся яшчэ імклівей.

Дыякан ускочыў у хату, беглым зіркам акінуў гаршкі з вазонамі, лавы, абразы. Ён падбег да стала з высунутай скрынкай—там валяліся цыбуліна і засохшыя скарынкі хлеба. Гул за акном узмацняўся.

Дыякан схапіў з бажніцы ікову, але, раздумаўшы, кінуў яе на стол і ўжо не азіраючыся, пабег з хаты. У варотах ён убачыў толькі верх свае кібіткі. Дыяканіха выязджала на дарогу.

Два вазы шчапіліся восямі ля грэблі і мужыкі, узяўшы коней за павады, гналі іх назад. Іх аб'язджалі, лаючыся, сцёбаючы пугай коней.

— Пастараніся, дай прайсці!

— Ідзі, хто цябе трымае?!

— Ахламон, не бачыш—асоба духоўная, воз павярні!

— А ну, цябе, мы ўсе хрышчоныя...

Дыяканіха аказалася больш кемлівай. Бачачы, што ёй не выперадзіць едучых, яна крута звярнула на бок і па скошанай лугавіне пагнала каня на бальшак. Уперадзе праімчалася яшчэ некалькі казачых раз'ездаў. Яна пачала падганяць каня, раз-по-разу азіраючыся—ці не бяжыць дыякан. Але яго не было. Прывязаная ззаду карова ўпіралася і ўвесь час матляла галавой. Дыяканіха мацела яе адвязаць, але не адважылася. Карова была самая малочная і самая любімая, і калі пакінуць—дыякан жыцця не дасць. Ужо недалёка было скрыжаванне, дзе новадворская дарога сыходзілася з краснінскім бальшаком. Дуня раптам закрычала:

— Мамка, зірні-тка, казакі!

— Дзе, дачушка?

— Вунь-вунь, пылу колькі! І пікі...

З правага боку наперарэз ім імчаўся конны атрад. Дыяканіха войкнула і сцебанула каня. На доўгіх піках коннікаў веялі флюгеры; мундзіры былі нярускія. Пярэдні, узяўшы піку на пагатоўку, імчаўся на іх; з перапуду дыяканіха заплюшчыла вочы і выпусціла лейцы. Дуня, нічога не разумеючы, голасна зараўла. Але коннік ужо заўважыў, што на возе жанчына і дзіця, штосьці крыкнуў. Іх акружылі смуглявыя людзі ў незнаёмых мундзірах, здзіўлена разглядаючы нечаканую здабычу. Гэта быў змешаны атрад польскіх і французскіх уланаў. Хтосьці кінуў на адрас першага конніка жарт і ўсе весела зарагаталі.

Праз хвіліну пад'ехалі яшчэ двое. Адзін з іх на ламанай рускай мове спытаўся, адкуль яна і ці далёка адсюль вёска.

Заікаючыся з перапуду, дыяканіха адказала, што да Новага Двара адсюль не больш вярсты.

— Дом панскі ёсць?

— Ёсць, паночак, ёсць,—успомніла яна архірэйскую дачу.

— Паказвай дарогу!

Малады хлапец у сялянскай світцы сядзеў на крупе каня за спіной таго, які дапытваўся. Саскочыўшы, ён сеў за фурмана на воз. Уланы іх абкружылі. Было прыкметна, што той, які дапытваўся, быў чынам ніжэй і адказваў другому вельмі пачціва. Потым яны загаварылі пацiху і старшы кіўнуў на жанчыну і на хлопца-фурмана. Сусед яго хітравата падняў палец і засмяяўся.

— О-о, пане граф, залаты ваш розум!.. Так і зробім, так і зробім,—адказваў ён па-польску.

Падвечар на скрыжаванні, дзе спынілі воз дыяканіхі, уланскі палкоўнік сустрэў Напалеона. Ён далажыў, што блізка маецца ўтульны начлег і што яго атрадам затрыманы палонныя.

Памяшканне Напалеону спадабалася. Ён загадаў прывесці палонных. Апрануты ў шэры мундзір егерскага палка, з-пад якога відаць была белая камізэлька, імператар хадзіў па святліцы шпаркім і цвёрдым крокам. Не гледзячы на паўнату, ён ступаў лёгка і не падрыгваў ікрамі, як робяць гэта ваенныя. Крокі былі ўпэўненыя і рухі выдавалі дакладнасць і імклівасць. Ён трымаў буйную галаву на кароткай шыі проста, ледзь прыўзняўшы поўны падбародак і ад гэтага здаваўся вышэй, чым быў у сапраўднасці. Напалеон гэта ведаў і пры добрым настроі прыўзнімаў плечы, імкнучыся выдаваць больш уладарным.

Ля парога тоўпіліся генералы. Часамі ён кідаў на іх рассеяны позірк і куткі яго губ уздрыгвалі. Напалеон не любіў усміхацца, а гэта азначала ўсмешку.

— Дзе-ж палонныя? Чаму прымушаюць мяне чакаць?—расцягваючы словы, спытаўся ён нягучна. Ноткі капрызу і скаргі чуліся ў грудным крыху глухаватым голасе. Хоць сказана было гэта хутчэй ласкава, чым жорстка, але два чалавекі хутка выйшлі ў пярэднюю, дзе адразу-ж сярод ад'ютантаў узніклі стрыманая гаворка і шум.

Напалеон спыніўся ля карты, раскладзенай на стале, прыслухоўваючыся да гэтага шуму. Лёгкая ўсмешка кранула яго маленькі рот. Ён быў здаволены весткамі, атрыманымі раніцой са Смаленска. Барклай і Багратыён яшчэ не з'явіліся са сваімі арміямі і ў горадзе, як пісаў сакрэтны агент, быў толькі нязначны атрад Не адварочваючыся, ён яшчэ цішэй, але ўжо больш сурова кінуў:

— Знайдзіце віконта дэ-Пюібюска!

Аб тым, што яго не пачуюць, ён не клапаціўся. Меладычны звон шпор адыходзячага ад'ютанта і гутарка генералаў, якія перайшлі амаль на шопат, сведчылі аб тым, што ён не памыліўся. У пярэдняй пачуўся лёгкі рух і хтосьці пачціва далажыў:

— Вось палонныя, якіх вы жадалі пабачыць, ваша вялікасць!

Напалеон хутка павярнуўся і зрабіў строгі твар. Але перад ім

стаяла перапалоханая жанчына і трымала за руку дзіця. Расчараванне і абыякавасць прамільгнулі, змяняючыся на яго твары.

— Спытайце, дзе яны жывуць?

— Тут, бацюхна, тутэйшыя мы,—заікаючыся, залапатала дыяканіха,—гледзячы то на перакладчыка афіцэра, то на Напалеона.— І хатка наша вунь там, на ўзгорачку...

— Яны жывуць тут ва ўласным доме, ваша вялікасць,—бразнуў шпорамі афіцэр.

— Адпусціце іх,—Напалеон зрабіў крок і, крыху нагнуўшы галаву, спыніўся позіркам на дзяўчынцы.

— Якое мілае дзіця, падарыце ёй што-небудзь!—і адвярнуўшыся, шпарка пайшоў у другі пакой.

Дуня адчула, што ёй накінулі на шыю цяжкае і халоднае, яна ўсхліпнула, спалохана імкнучыся зняць гэтую рэч.

— Імператар падарыў дзяўчынцы жамчужныя каралі і вы можаце ехаць, куды хочаце!—растлумачыў дыяканісе перакладчык. Уцяміўшы, у чым справа, тая перахрысцілася.

— Адпраўце ж з імі таго чалавека,—упоўголаса сказаў дэ-Пюібюск польскаму афіцэру.

— Слухаю, віконт!

Хутка яны выехалі ў Смаленск у суправаджэнні Стася Галкі, які сядзеў за фурмана.

Гэтай начы ваенных дзеянняў не было. Французскія войскі паступова сцягваліся да горада і аб значнасці іх можа было здагадвацца па велізарнай колькасці кастроў, якія гарэлі шырокай дугой уздоўж краснінскай дарогі.

У гэты дзень Мартын Калінкін быў ужо ў Дрэсні. Пад'язджаючы да вёскі, ён заўважыў, што конь яго закульгаў. Мартын злез і аглядзеў падковы. На адной з пярэдніх шыпы расхісталіся і падкова засякала нагу.

На ўскраі вёскі ён убачыў нізкую закопчаную кузню і накіраваўся да яе. Каваль паспешна складаў пажыткі і збіраўся выехаць.

— Я, мілы чалавек, з-за твайго рубля не хачу жыццём рызыкаваць. Сам бачыш, усё кідаю—і дом, і кузню. Я, мілы чалавек, не ведаю цябе, а толькі чуваць, быццам усе з горада ўцякаюць, а ты—у горад...—Ён папыхкваў люлькай, бегаючы вакол воза, пакрыкваючы на жонку і дзяцей, якія ўкладалі на воз хатні скарб.

Калінкін сеў на калоду і закурыў. Прайшло з поўгадзіны, ужо добра змерклася. Паехаў з сям'ёю незгаворлівы каваль. Ён забіў дошкамі адзінае акенца свае хаты, а на дзверы павесіў велізарны замок. Калінкін сядзеў, не ведаючы, што рабіць. Прывязаны конь, апусціўшы галаву, панура стаяў паблізу. Але вось недалёка пачуўся тупат, паказаўся коннік. Мартын пайшоў насустрач. І нечакана ён пачуў радасны голас:

— Ну, дзякуй табе, божа, думаў і не здаганю цябе, Іванавіч.

Мартын пазнаў рабога Карнея і здзівіўся.

Карней коратка расказаў яму пра Жданава і падаў пісьмо. Калінкін адкрыў яго і прачытаў. Спахмурнеўшы, ён кінуў:

— Душа лакейская! Эх, Яшка, Яшка...

Карней адпусціў папругі сядла і, выціраючы потныя бакі каня расказваў:

— Даў я куме слова, Мартын Іванавіч,—што знайду і аддам табе гэтую паперу, ну і нацяанькі ў Няелава, значыцца, а там кажуць—ты на Смаленск падаўся. Перакусіў я ў свата і толькі сабраўся,—казакі...

Мартын, слухаючы, усё больш хмурнеў, а Карней расказваў і расказваў. З Міціна ў Няелава сагналі да чатырохсот мужыкоў і секлі розгамі. Потым іх усіх адправілі ў Мікола-Пагарэлае судзіць. Тыя, хто асталіся на свабодзе, прасілі Карнея знайсці Калінкіна і перадаць яму, каб ён вярнуўся.

— Няйначай, як у магазею*) да суда пасадзяць,—закончыў Карней.—Дзе-ж такую процьму змесціш. А калі сабраць мужыкоў ды паехаць. Эх...—ён не закончыў і, стаўшы бокам да каня, палажыў руку ніжэй калена.

— Ножку!—мякка загадаў ён. І больш строга:—Дай ножку!

Конь паслухмяна сагнуў нагу ў калене.

Карней крыху кеміў у кавальскай справе. Яны збілі замок на дзвярах кузні і распалілі горан. Увесь інструмент аказаўся на месцы. Тут-жа быў і пучок лучыны для распалу. Мартын пасвяціў і Карней умацаваў расхістаную падкову.

— Ну, брат Карней, дзякую,—сказаў Мартын, садзячыся ў сядло.—Едзь да сваіх, ды кажы мужыкам, што я хутка буду.

— Не, Іванавіч,—ехаць мне няма куды. Дазволь і мне ўжо з табою. Не гані, зрабі ласку.

— А хата, дзеці, жонка?

— Якая там хата!—з горяччу махнуў рукою Карней.—Былі калісьці і хата, і дзеці, і жонка. Эх, распраклятае жыццё!—горка прамовіў ён і не сказаў больш ні слова. У голасе мужыка прагучэла такая безвыходная туга, што Мартын не стаў яго больш распытваць. Цокат капыт дружна прагучэў сярод начы і яны пакінулі Дрэсну.

Ужо бралася на дзень, калі коннікі пад'язджалі да Смаленска. Пры ўездзе ў Пецербургскае прадмесце яны сустрэлі вялікі абоз з дзесяткам карэт наперадзе. Гэта пакідаў горад губернатар Аш з чыноўнікамі. Следам за імі рухаўся абоз епіскапаІрынея.

У самым прадмесці дарогу перагарадзіў велізарны натоўп.

Ён рухаўся нібы лавіна, стрыманы гул суправаджаў яго. Часамі ў гэтым гуле вельмі гучна скрыпелі колы, чуўся дзіцячы плач, вырываўся ўскрык, або гукаючы некага голас. Натоўп каціўся, пакідаючы вузкія вуліцы прадмесця. Страх падганяў усіх.

Да чацвертага жніўня нікому з жыхароў не дазвалялі пакідаць горад. А зараз епіскапІрыней загадаў ключару сабора Васілю Сокалаву ўзяць ікону Одыгітрыі і вынесці. Гэткая вестка перадавалася з вуснаў у вусны і падзейнічала больш, чым паяўленне французаў ля сцен горада. Сокалаў узяў абраз на рукі і смаляне рушылі ўслед за ім. Было ўжо вядома, што шлях іконы ляжыць на сяло Цурыкава, а адтуль—у Яраслаўль.

Ні царкоўнага звону, ні песнапення, ні кадзільнага дыму не

*) Мураваны свіран.

было, як пяць дзён назад у час крэснага хода. У шырокім тарантасе сядзеў грузны, доўгавалосы поп і трымаў на каленях цяжкі абраз. Яму было нязручна, тарантас даволі трасло на выбаінах. Шырокім венікам барада высоўвалася збоку. Сокалаў павярнуўся і цераз скураны адкінуты верх тарантаса ўбачыў ззаду сваю павозку з пападзёй і дзецьмі. Стрыманы гул і незвычайнасць абстаноўкі палохалі яго і ён час-ад-часу спрабаваў зашаптаць малітву.

Мартын і Карней, мінуўшы прадмесце, набліжаліся да Днепроўскага мосту. Карней адстаў. Мартын прытрымаў каня, каб не трапіць у паток людзей, якія ішлі і ехалі з гары. Раптам радасны выгук Карнея прымусіў яго азірнуцца. Мартын адвярнуўся і ўбачыў Стася Галку. Ён сядзеў на возе, з трывожнай цікавасцю пазіраючы на бакі, а побач былі жанчына і дзяўчынка.

— Пане Мартын, о, місцы пане!—убачыў яго Стась і спыніў каня. Але ззаду закрычалі:

— Пайшоў, пайшоў, не загараджвай дарогу, сучы сын!

Стась тузануў лейцы і працёр кулаком вочы. Карней-жа, нахіліўшыся з сядла, штосьці радасна расказваў жанчыне, ківаючы галавой у бок Мартына, але твару жанчыны не было відаць. Мартын адвярнуўся і пагнаў каня, выязджаючы са штурханіны.

На другім баку моста ля надваротняй царквы ён спешыўся. Тут было вальней.

Карней і Стась павярнулі за ім. Жанчына саскочыла з воза і хутка пайшла, амаль пабегла да Мартына. Была яна ў старым летнім салопчыку і па-вясковаму падвязана хусткай, твар яе— круглы і ласкавы—нагадваў штосьці знаёмае да болю. З шэрых, вялікіх, крыху на выкаце, вачэй яе каціліся буйныя частыя слёзы, а губы шчасліва і радасна ўсміхаліся.

„Ну што-ж, хто гэта? Няўжо...“—прашаптаў Мартын і не скончыў. Яна варухнулася быццам адступаючы, але рукі яе ўпалі ўжо на плечы Мартына.

— Ма-а-ртынушка, голуб мой шызы! А мо‘ забыўся?

Замест адказа ён прытуліў яе і зірнуў у заплаканыя вочы.

— Любімую і ў труне пазнаю, Дуняша.

Яна шчасліва засмяялася і зноў прыгарнулася да Мартына.

— Ну, вось і ўбачыліся, ну і дзякуй табе, госпадзі,—мітусіўся Карней.

З каралеўскага бастыёна грымнуў гарматны залп. Карней спехам перахрысціўся.

— Ох, страсці! Няўжо француз на горад ідзе?

Залпы ўзмацняліся. У справу пайшлі семдзесят крэпасных гармат. Было шэсць з паловай гадзін раніцы.

Яшчэ за поўгадзіны да гэтага, у суправаджэнні эскадрона кавалерыі Напалеон выехаў з Новага Двара да Смаленска. Негледзячы на ўтульнасць, ноч ён правёў вельмі агідна. Усё пачалося з лёгкага раздражнення пры ўспаміне памылак Нея і Мюрата пад Красным. Падняўшыся ў поцемках, ён паглядзеў на акно. Выходзіла яно ў сад, але было зачынена. Яму здалося, што ў пакоі вельмі душна. Нечаканы, як заўсёды, тупы боль узнік у патыліцы, абапёршыся на сагнутую руку, ён некалькі імгненняў ляжаў нішма.

Ад пуховых падушак веяла духатой. Прыўзняўшыся, Напалеон глыбока ўдыхнуў паветра; у архірэйскай спальні пахла сумессю духоў і ладана. Потны і злы, ён парыўка правёў рукой па далоні і расціснуў клапа. Рэзка пазваніўшы, ён устаў, доўга грэбліва мыў рукі і ў адной бялізне выйшаў у другі пакой.

На стале ў высокім шандале гарэла свечка. Напалеон з хвіліну глядзеў на яе роўнае полымя; зноў пачало ламаць у скронях. Заплюшчыўшы вочы, ён адкінуўся на спінку крэсла, азызлы твар яго пачырванеў, кропелькі поту выступілі на ілбу.

— Зноў, зноў...—ён закусіў ніжнюю губу, стрымліваючы стогн, але боль прайшоў ужо. Мамелюк, які перасцілаў пасцель, спалохана выглянуў са спальні.

— Дзяжурнага генерала!—хрыпла загадаў імператар. Прыпадак прайшоў, ён ачуняў.

„Прычына ў гэтых праклятых дрэвах і канаве! Не будзь іх, Ней знішчыў-бы атрад Нявероўскага“.—Яму ўспомніліся два рады бяроз на абочынах бальшака. Дзынканне шпор дзяжурнага прымусіла Напалеона нахмурыцца і змрочны настрой ужо не пакідаў яго ўвесь час. Ён узмацніўся, калі падалі да ганку белага арабскага каня.

Над палямі стаяла здзіўляючая цішыня. Было туманна і над лесам плямамі праступала зарніца. Азызлы і санлівы, імператар, адвярнуўшыся, слухаў даклад, залажыўшы за спіну рукі і паторгваў сагнутай далонню—быццам падкідаючы штосьці. Падцягнуўшыся стаялі генералы світы. Мамелюк за павады трымаў каня. Упінаючыся, конь пераступіў цагліны клумбы, пачаў таптаць росныя кветкі геліятропа. Напалеон разгублена глядзеў на гэтае разбурэнне, рука яго за спіной уздрыгвала ўсё мацней. Рэзка павярнуўшыся, гнеўна і крыху заікаючыся, ён закрычаў:

— Скажыце гэтаму, гэтаму,—ён вымавіў адно з сваіх абразлівых слоўцаў,—што я прымушу яго камандаваць ротай інвалідаў.

Нехта са світы нясмела заўважыў:

— Ён мусіць заблудзіўся, ваша вялікасць,—тут дарогі...

— Што?

З групы свіцскіх выйшаў малады фарсісты ад‘ютант.

— Я думаю, ваша вялікасць...

— Што, што?

— Я асмельваюся меркаваць, ваша вялікасць...

— Вы мяркуеце?—гледзячы ва ўпор, груба перапытаў Напалеон.

— Ага... я хацеў сказаць...

— Дык едзьце і знайдзіце яго, калі вы мяркуеце!

Ад‘ютант хутка пайшоў да каня.

— Стойце!

Ад‘ютант замёр.

— Падыйдзіце сюды!—яшчэ больш груба загадаў Напалеон.— Да Жуно паедзе другі, а вы перадайце маршалу Нэю, каб ён спяшаўся.—Тут не рэкруты Нявероўскага, а вядомая мэта. Так і скажыце.

Ён глуха аддаў яшчэ рад загадаў і некалькі ад'ютантаў паімчаліся ў розныя бакі.

Мамелюк падтрымаў стрэмя і Напалеон лёгка ўскочыў у сядло. Ён быў разлютаваны, але стрымліваўся. Неапалітанскі кароль Мюрат са сваім корпусам яшчэ не з'явіўся. Маршал Жуно, аб якім ішла гаворка, быў невядома дзе. Як пасля высветлілася, ён сапраўды заблудзіўся. Не гледзячы на адданыя яшчэ з вечара загады, часці падыходзілі са спазненнем. А даць магчымасць рускім выперадзіць сябе ля самага горада—гэта было-б недаравальным.

Пусціўшы каня ў галоп, Напалеон скакаў, злуючыся ўсё больш. За Дняпром у бок Гняздова і Купрына падымаліся клубы дыму. Там гарэлі памешчыцкія маёнткі, падпаленыя мужыкамі.

Стрымліваючы каня, Напалеон кіўнуў у той бок і загадаў даведацца, дзе і чаму гарыць.

Змрочны настрой начнога прыпадку знясільваў. Напалеон успомніў, што сёння—дзень яго нараджэння, а ён у такую рань павінен імчацца і прыспешваць бяздарных маршалаў. „Скрозь і ўсюды ён павінен сам непакоіцца і памятаць усё. Вось і дзень нараджэння...“—На хвіліну яму нават стала шкада сябе. Але прыліў злосці зноў затуманіў свядомасць. „Калі таўшчыня крэпасных сцен двухаршынная, патрэбны будуць асадныя гарматы. А ўвесь асадны парк пры корпусе Макданальда, пад Рыгай...

Напалеон асадзіў разгарачонага каня каля ўбогіх хатак Свірскай слабады. Ля адной з іх стаяла жэрдка з прывязаным пучком кавыля. Тут мабыць раней быў шынок. На агародзе з разламаным плотам, паміж капусных град узвышаўся конусам нахілы курган. Калісьці даўно тут было старажытнае гарадзішча.

На кургане, акружаны штабам, стаяў рыжавалосы і прысадзісты маршал Нэй. Ён трымаў у руцэ падзорную трубу, лаючы ад'ютанта. Чырвоны як рак, той пачціва выцягваўся перад ім.

Напалеон пад'ехаў да падножжа кургана і глуха спытаўся:

— Генерал, вы каго чакаеце на гэтым узгорку? Парад пачнецца, калі я вазьму горад.

Па твары Нэя пайшлі чырвоныя плямы. Збочыўшыся на імператара, ён засоп, але прамаўчаў.

— Пастаўце вашыя батарэі вунь на той горцы, ну!

Маршал не паспеў аддаць загад, як ад'ютант збег з узгорка і, сеўшы на каня, паімчаўся ў паказаным напрамку. За гарой глуха ўдарыла гармата і загуло ядро. Наперадзе ўзняўся веер ні то зямлі, ні то дыму і закрыў каня і верхавога.

— Паслаць другога!—спакойна загадаў Напалеон.

Праз некалькі хвілін французская батарэя паслала свае ядры па каралеўскаму бастыёну. Першае-ж з іх угадзіла ў купал свірскай царквы.

Напалеон даў шпору каню і галопам паімчаўся да Чарнушак. Там падыходзіў корпус Мюрата. Не злазячы з каня, ён узяў падзорную трубу і хвілін пяць глядзеў на горад, вывучаючы мясцовасць.

Збоку зубчастых вежаў з тумана і парахавога дыму слаба

пырснулі першыя праменні. Твар Напалеона крыху пасвятлеў і маршчыны згладзіліся. Злезшы з каня, ён азірнуўся. Нехта падставіў грубай работы табурэтку, накрыўшы яе плашчом, але ён не сеў. Твар яго зусім праясніўся, калі тры пяхотных калоны Нэя пачалі разгортвацца супроць Свірскай і Салдацкай слабады. Батарэя ўзмоцніла агонь і калоны рушылі ў атаку на каралеўскі бастыён.

Гарматная кананада спалохала Карнея. Не пакідаючы хрысціцца, ён прыспешваў усіх. Мартын перадаў яму свайго каня. Стась, як і раней, ехаў на возе, а маленькая Дуня паказвала дарогу. Ёй даводзілася бываць тут не ўпершыню. А Мартын з Дуняшай, адстаўшы, ішлі ззаду. Аб чым яны гаварылі, яны і самі добра не памяталі.

Нарэшце яны прыбылі ў дом Веліканава на Рэзніцкай вуліцы. Вароты адкрыў сам гаспадар, высокі і худы ў паношаным суртуку з вуграватым тварам і галоднымі вачыма. Гаварыў ён ціхім голасам, уздрыгваючы пры гарматных выстралах. З прыбыццем часцей Веліканаў падбадзёрыўся і здаволена пазіраў на галубятню, прыбудаваную да франтона дому на манер церамка. Там варкавалі тоўстыя галубы. Веліканаў узяў жэрдку, якая стаяла паблізу, але, раздумаўшы, пачаў ставіць пад паветку воз і коней.

— Як Ліпа?—спыталася дыяканіха.

— Ляжыць, Еўдакія Сямёнаўна. Не сёння—заўтра павінна абрадзініцца.

— Вось не ў час...

— Сапраўды, промысел божы, Еўдакія Сямёнаўна.

— Так то яно так, а ты-б прамысліў лепш коніка, а то вось давядзецца ехаць.

— І-і, што вы,—Веліканаў махнуў рукой,—хацеў я, але не ў цяперашнія часы. Вось учора ў Нікіфара Мурзакевіча ад Одыгітрыі,—толькі сабраўся, а кабылку і спадхвіцілі.

— Ну, я пагляджу Лімпіяду.

— Ідзіце, паглядзіце. Мы ўжо самі ўправімся.—Веліканаў па змоўніцку падміргнуў Мартыну на галубоў.

— Абажаю, абажаю, ох, паночак харошы, не знаю вашага імя і па бацьку. Гэтую парачку назад таму з тыдзень выменяў у сына святара. Звярніце ўвагу,—ён хутка схапіў жэрдку і, махнуўшы ёю, засвістаў неяк па-асаблівому. Галубы ўзвіліся, апісалі круг над дваром і селі на лабок галубятні.

— Натуральныя, егіпецкія,—дразда аддаў, а дрозд, скажу вам, вучоны быў, размаўляў.

З сенцаў паказалася галава дыяканіхі.

— Нікалай Хрысанфавіч, дай ключы ад камода!

— Іду, іду! Адменныя галубы,—падміргнуў ён зноў Мартыну.— Мы з Егорам, мужам Еўдакіі Сямёнаўны, пошту думалі наладзіць...

Ён пайшоў, а Карней, які чуў усю гутарку, сплюнуў.

— Госпадзі-божа, людзі жыцця цураюцца, а ён з галубамі. Бываюць-жа пустабрэхі.

Ударыў да заутрані цяжкі саборны звон. Была нядзеля. Хвілін

праз пяць у форменным суртуку вышаў з дому Веліканаў і накіраваўся ў царкву. Хутка з хаты пачуліся крыкі, відаць, у парадзіхі пачаліся роды. Праз двор з пустым вядром прабегла да калодзежа Дуняша. Яна хацела нешта сказаць Мартыну, але, спыніўшыся, толькі зірнула на яго любоўным позіркам і ўсміхнулася. Калінкін лавіў позіркі і ўсмешкі гэтыя і пасля, калі яна выбягала то за трэскамі, то чысціла пяском чыгункі і развешвала на вяровачцы анучкі. Позіркамі гэтымі Дуняша быццам гаварыла яму: „Мы то з табою нешта ведаем, але бачыш сам, і пагаварыць не даюць“.

Грымяць гарматныя залпы, ідзе бой, паміраюць людзі, а тут— галубы, паблісківаючы шызымі крыламі, кружаць над страхой. Іх гаспадар ідзе ў царкву, а парадзіха крычыць усё гучней, нібы спавяшчаючы аб прыбыцці новага чалавека ў гэты свет. Няма за што ўхапіцца! Мартын адчуў сябе спустошаным і стомленым. Трэба было знайсці апору, нешта вырашыць, вызначыць сваё месца ў гэтай блытаніне. Позірк яго ўпаў на Дуняшу: тая, закасаўшы рукавы, выпарвала гаршчок. Позіркі іх сустрэліся. Мартын з палёгкай уздыхнуў і ўсміхнуўся. Вось яна, Дуня—юнацкае каханне, усе гады ён імкнуўся да яе і знайшоў. Праўда, абодва яны не маладыя, але сіла свіціцца ў яго вачах—не растрачаная і захаваная, як і ў яе—каханне і радасць.

Мартын устаў.

„Ну, што-ж, трэба ісці, паглядзець“. Кіўнуўшы Дуняшы, ён хутка выйшаў з двара.

Карней і Стась забраліся ў адрыну адпачываць. Але адпачынак у такіх абставінах быў недарэчнасцю, як і просьба Веліканава—не курыць на сене.

Збоку каралеўскага бастыёна прабягалі, трымаючыся сцен, нешматлікія групы пехацінцаў, праносілі насілкі з цяжка параненымі. Два барадатых салдаты неслі трэцяга на перавязачны пункт. Нечакана ў паветры пачулася сярдзітае шыпенне. Мартын прытуліўся да сцяны. Салдаты, пакінуўшы насілкі пасярод вуліцы, шмыгнулі ў двор. Ядро ўпала дзесьці збоку. Усё часцей шыпенне і пасвістанне снарадаў, гучней і бліжэй грукат бою. Вось і мураваныя вароты да бастыёнаў каралеўскай крэпасці. Ля ўвахода— стракатая будка, па баках у земляным валу два мураваных склепы для пораху. Калісьці ў адным з іх за жалезнымі кратамі катавалі Качубея. Праз дваццаць шэсць год тут-жа сядзеў малалетні імператар Іоан Антонавіч, які ўцёк з Раненбурга манахам і быў злоўлены ў Смаленску. Дзверы склепаў адчынены, мітусяцца людзі, стаіць лафет разбітай гарматы і валяюцца скрываўленыя анучы. На стаптанай і забруджанай траве ляжаць забітыя. Ля ўзгалоўя аднаго з іх на драўляным пні прылеплена тоненькая грошавая свечка. Над тварамі забітых кружаць вялікія зялёныя мухі.

Не азіраючыся, Мартын мінуў вароты і склепы. За імі нізкая, пафарбаваная ў жоўты колер будыніна з рашоткамі ў вузкіх вокнах. Гэта крэпасны астрог, дзе ў часе Екацерыны сядзелі канфедэраты-палякі. Зараз у ім змясціўся перавязачны пункт. За вуг-

лом астрога ля драўлянага невялікага стала, схіліўшыся над картай, распалажыўся генерал Паскевіч са сваім штабам. Воддаль, прытуліўшыся да сцяны спіной і ўпіраючыся аберуч у зямлю, нібы намагаючыся падняцца, сядзіць чорнавалосы салдат. Галава яго абвязана скрываўленай анучай. Вочы заплюшчаны ад смяротнай стомы. Парой уздрыгваюць яны павекамі і, расплюшчыўшыся, спалохана глядзяць у бок начальніка. Можа таму паранены баіцца гучна стагнаць, так як стогнуць яго таварышы, што сядзяць ля ўвахода на перавязачны пункт. Ён паглядзеў і на Мартына, але позірк яго быў ужо шкляным.

Мартын падняўся на другі бастыён і перайшоў да чацвертага, дзе земляное ўмацаванне злучалася з крэпаснымі сценамі. Ён ішоў паўз невысокі рад насыпаных зямлёю мяшкоў, не думаючы аб небяспецы. Артылерысты са здзіўленнем глядзелі на высокага, загарэлага з густымі вусамі чалавека ў вольнай вопратцы. Курносы, нізенькі салдат моўчкі перагарадзіў дарогу, але Мартын спакойна адвёў яго рукою. Салдат адступіў і, як відаць, забыўшыся пра яго, кінуўся да гарматы.

— Аго-онь!—маладзенькі афіцэр з чорнымі бакенамі на шчоках, махнуў рукою і, зняўшы фуражку, далонню выцер мокрыя валасы. Мартын запомніў чырвоную палоску на ілбе—след ад фуражкі.

Здавалася, здрыгануліся накладзеныя адзін на другі мяшкі і завагалася паветра.

— Аго-онь!—афіцэр зноў махнуў рукой і ад стараннасці нават прыпадняўся на наскі, шырока раскрываючы рот. Тут стаяла самая вялікая гармата. Салдаты, што абслугоўвалі яе, былі як на падбор здаровыя і рослыя; з цікаўнасцю яны сачылі за Мартынам і нават паказалі на яго афіцэру, але той, не звяртаючы ўвагі, махнуў рукой. Мартына здзівіла іх зладжанасць у рабоце. Яны стралялі, нібы гуляючы ў гарадкі, крыху расчырванелыя і ўзрушаныя. Праціралі баннікам дула, падносілі і ўкладвалі снарады, запальвалі кнот і зміралі, раскрыўшы рот, калі раздаваўся выстрал. Было падобна, што робяць яны ўсё гэта звычайна, спакойна, не думаючы, што карцеч і ядры сеюць смерць. Зрэдку абы хто з іх нават жартаваў.

Але пра смерць тут сведчыла многае. І белы нядаўны расчэп на коле лафета і падраныя з прасыпаным пяском мяхі і нейкі салдат, што нерухома ляжаў на краі бастыёна. Твару яго Мартыну не было відаць, але пацёртыя латкі на падэшвах ботаў і раскінутыя ногі ён запомніў вельмі добра.

Мартын спыніўся, схаваны напалову мураваным зубцом сцяны. Раптам яго абдаў струмень пылу і шчэбеню, а пехацінец, прытуліўшыся шчакой да ружжа, тузануўся побач і замёр. Галава салдата грукнулася аб каменне, ківер упаў.

Парахавы дым засцілаў прастору, але ў прасветах было відаць, як батальёны французаў уступалі ў паласу боя і за ярам рассыпаліся ланцугом. Калі на бастыёне афіцэр узмахваў рукой—на канцах гарматных дулаў успыхвалі белыя воблачкі дыму і доўга расставалі ў душным паветры. Яшчэ меншыя воблачкі ўспых-

валі ў французскім ланцугу і зліваючыся ў адно, роўнай завесай плылі над ярам.

Наступіла перадышка. У штыкавым баі непрыяцель быў адкінуты за Чурылаўскі яр. Процьма трупаў французаў і рускіх услалі бастыённы гласіс і яр па абодвух яго баках. Удалечы, каля Чарнушак паявілася група кавалерыстаў; адзін з іх быў на белым кані. Афіцэр, выхапіўшы з кішэні падзорную трубку, навёў яе на групу, у той-жа час тлумачачы, як павярнуць прыцэл.

Пераскакваючы цераз ногі забітых і параненых, прыбег салдат і перадаў данясенне.

Прачытаўшы, афіцэр хутка перавёў трубку направа. Там, на шкляной і Пакроўскай гарах, рухаліся войскі.

— Падмога, хлопцы, ура! Аго-онь! —закрычаў ён, паказваючы трубкай у паўночным накірунку.

Гэта прыбыла другая армія. З гадзіны на гадзіну чакалі і армію Барклая.

Жаданне маршалаў Напалеона ўзяць Смаленск і зрабіць сюрпрыз імператару да дня нараджэння ўскладнялася. Даведаўшыся аб прыбыцці Багратыёна, Напалеон хутка змяніў тактыку. Не хочучы траціць марна людзей, ён аддаў распараджэнне аб падцягванні рэзерваў, у той-жа час аслабляючы наступленне на горад. Ён быў амаль упэўнены, што рускія цяпер выступяць з крэпасці і дадуць генеральны бой.

Каля трох гадзін па поўдні Мартын дабраўся да Молахаўскіх варот. Непрыяцельскі ланцуг ішоў ад Саляных свірнаў, стараючыся заўладаць земляным валам і мостам, што прыкрывалі вароты. Карцеч выхватвала цэлыя рады; у яры паміж валам і крэпасцю, куды пранікалі больш смелыя, іх білі зверху. Пехацінцы вывирочвалі каменні прыкладамі і скідалі на атакуючых. Іншыя, хаваючыся ў сценных мурках, бралі нават палонных.

Мартын Калінкін забыўся пра небяспеку. Для яго ўсё гэта было новым і захапляючым. У гэты дзень яго можна было бачыць на многіх пунктах. Салдат асабліва здзіўляла, што чалавек гэты з'яўляецца ў самых небяспечных месцах і, дастаўшы запісную кніжку, штосьці запісвае. Нарэшце яны рашылі, што па загаду начальства, ён здымае нейкія планы і роўнадушна адварочваліся, занятыя сваімі справамі. А Мартын замалёўваў. Усё, што захапляла або здзіўляла, ён накідваў на старонкі: і страляючых салдат на каралеўскай крэпасці, і атаку ля Молахаўскіх варот і нават забітага салдата на краю бастыёна. Дзень мінуў непрыкметна, як у сне. Перад значным і страшным, што бачылі вочы, забылася і адчуванне голаду, і справы, і нават Дуняша.

Уначы, на каралеўскім бастыёне Калінкін назваў сябе афіцэру, папрасіўшы дазволу застацца ля гарматы. Свяціў поўны месяц. Бою не было. Французы адступілі. Суцэльная лінія агнёў акружыла горад за выключэннем паўночнай стараны, дзе стаялі нашы арміі. Віленскі полк, быўшы на сценах, змянілі другім з дывізіі Дохтурава. Мураваная паверхня верхняй тэрасы была халоднай; адзін з пехацінцаў выйшаў на бастыён і прылёг каля групы артылерыстаў. Хутка падышлі яшчэ некалькі і пачалася гутарка.

Гаварылі ўпоўголася аб тым, што ў дзень стралкі нашы, засеўшы ў кустах Чортавага яра траха не захапілі ў палон самога Напалеона.

Мартын перш не звяртаў на іх увагі. Ён дакрануўся дула гарматы, яшчэ цёплага ад нядаўнай стральбы і дзённай спёкі. Лёгкі туман паслаўся над ярам. Поле было пакрыта мёртвымі. Нейкая асаблівая цішыня стаяла на усім. Крывая месячная паласа асвятляла забітых. Цяпер іх было менш, мусіць, цень ад сцяны астрога схаваў астатніх. Мартын спехам рабіў эскізы ў кніжцы. Нечаканае жаданне—пісаць новую карціну—прышло да яго. Ён назаве яе „Поле мёртвых".

Раптам на ўсходзе ўдарыў гарматны выстрал і ўспыхнула слабая перастрэлка. Салдаты прыслухаліся.

— Зноў на другой батарэі работа,—сказаў нехта гучным басам.—Палякі там, а паны, вядома, народ прыліпчывы.

Гэта сапраўды страляла батарэя Пілуса з Ямской слабады. Польскія стралкі з дывізіі Панятоўскага непакоілі яе ўсю ноч.

З групы салдат галасы даляталі выразней.

— Ну, што-ж, даказвай Ванятка, што баяў апалчэнец.

— А ён, дзядзечка, баяў штосьці ўжо па-дзіўнаму. Кажа, быдта, наш белы цар упрасіў Напалеона ўпотай ісці на Расію і ўсім мужыкам, як ні на ёсць усім, даць слабоду.

Стала яшчэ цішэй, толькі чуўся ціхі тэварок Ваняткі. Але яго перабіў бас артылерыста.

— А што ты думаеш, цар баіцца памешчыкаў ды паноў.

— Цішэй ты, горла,—зашыкалі на яго.

— Не наша справа папоў судзіць—на то чэрці ёсць...

Мартын выпаўз з-за гарматы, падсунуўся бліжэй і разглядзеў асветленыя месяцам твары салдат. У цяні, што спадаў ад зубцоў крэпасці, сядзела некалькі чалавек. Салдат з няголенай шчацінай на рабым твары сядзеў бокам да Мартына на карачках. Побач ляжаў на жываце чарнявы хударлявы пехацінец.

— Прыкусіце языкі, хлопцы,—сказаў першы.

— Не ведаю, як у вас, панове артылерысты, а ў нас, у пятай роце, за такія слоўцы унцер—ой, ой... А ты, Ванятка, не дзёўкай абы чаго, ты яшчэ—смаркач.

— Ды я, дзядзечка Ігнат, як апалчэнец баяў, так і я...

З ценю выйшаў вусаты артылерыст і пачаў перабувацца. Мартын пазнаў яго. Гэта быў той, што ўдзень загарадзіў яму дарогу.

— А ну вас,—загуў ён,—моташна слухаць. Адзін брэша, а другі падбрэхвае. Ён брат, Паляон твой, мякка сцеле, ды мулка спаць.

Зняўшы бот, ён уважліва пакалупаў падэшву.

— Эх, боцікі мае, казловыя, дваццаціпяцірублёвыя... Падэшаўкі сямі царам служылі, а ў Смаленску падаліся. Прыдзецца вяровачкай падвязаць.

Ігнат, відаць, быў, нездаволены. Ён сеў, падкурчыўшы па-турэцку ногі і пачаў набіваць люльку.

— Ну, добра, няхай брэшам мы. А ты, відаць, востры на язык, збрашы чаго павесялей.

— Разумееш, зямляк, брахалка не дзейнічае. У вас быў сёння абед?

— Ну, быў.

— А ў нас, бач, у кухню ядро трапіла. Прышлі за абедам, а кашавар плача: „цюкнула, кажа, так, аж у морду мне капустай. Ідзіце, кажа, усёадно сёння дзень посны“.

Усе засмяяліся. Пехацінцаў Мартын пазнаў. Гэта былі тыя самыя, якіх ён бачыў ля вогнішча ў Лядах, калі начавалі па дарозе ў Смаленск.

— Ну, раскажы-тка ты, Лука Сяргеявіч,—звярнуўся Ігнат да ляжаўшага таварыша. Той прамаўчаў. Артылерыст абуў бот і для трываласці прытупнуў нагою.

— Дай на закурку тутуню,—папрасіў ён.

Згарнуўшы цыгарку, артылерыст прыкурыў і лёг на спіну, паклаўшы пад галаву рукі. Мартыну відаць быў толькі аганёк люлькі.

— Быў у мяне таварыш-друг,—пачаў ён так проста і задушэўна, што Мартын азірнуўся, ці не гаворыць гэта хто іншы.—Ні то, каб таварыш, а так—наш-жа дваровы—Мітрок Пявун празываўся. У тыя часы я хлапчуком пры панскім доме быў, ну а яму год больш сарака было. Так. І быў гэты Мітрок вядомы паляўнічы і вялікі майстар лавіць салаўёў і песні спяваць—ад таго і Пявуном яго празвалі. З сябе—нягеглы, падслепаваты, каравенькі, з выгляду і цана яму два грошы ў базарны дзень, ды і то напрасіцца. Лічыўся ён нібы-та лакеем, але да работы ніякай нядатны быў. А толькі вясна—успамінай, як звалі. Паходзіць, паходзіць і з'явіцца. „Дзе быў?“ Ну, і вядома лупцуюць яго. Прасіўся ён у барына па аброку—не адпускацца. Дзяцей у Пявуна не было, бог не даў, жонка яго кінула і сышлася з фарэйтарам Сцёпкай. А на дворні ўсе смяюцца над ім і за прыдуркаватага лічуць. „Ну, які ты,—кажуць,—аброку здабытчык, Пявун?“ А я, кажа, у карчме магу песні спяваць... Рагочуць акаянныя, а мне яго шкада. Бывала сядзе ўвечары ля варот, ды як пачне выводзіць: „Салавей зязюлю ўгаварваў—паляцім, зялюлька, у зялён бор гуляць...“ Ці паверыце— іншыя нават плачуць. А як ён казкі расказваў! Бывала, акінем сеткай куст, адыйдзем у бок і шопатам ён пачне расказваць. Усякіх мы з ім птушак лавілі, але любіў ён больш за ўсё салаўёў...

Артылерыст не закончыў апавядання. На сцяне раптам узнік рух, пачуліся ўстрывожаныя галасы. Пехацінцы хутка пабеглі на свае месцы. Аказалася, іх часць памылкова паставілі тут. Хутка сышоўшы са сцяны, яны рушылі ў бок Блоння. Прышлі іншыя і, прыглушана размаўляючы, сталі распалагацца. На ўсходнім баку крэпасці зноў узнікла перастрэлка і гарматныя выстралы прагучалі зусім блізка. Мартын, канчаючы малюнак, ужо не чуў апавядання. Урыўкамі ён зразумеў толькі, што паранены вясною Пявун зноў збег. Была паводка. Калі падыходзіў ён да павятовага горада, яго сустрэў барын і затрымаў. Па дарозе назад, пераязджаючы раку, яны праваліліся пад лёд. Пявун, які выскачыў першым, стаў дапамагаць барыну, але сарваўся і абодва патанулі. Апавяданне Мартыну не спадабалася, але голас артылерыста крануў яго да слёз. А калі той стаў расказваць пра салаўёў, пра тое, як іх трэба лавіць, Мартын забыўся пра малюнак і міжволі заслухаўся.

— А сапраўды, браткі, салавей спявае разборліва, не спяшаючыся і каленаў ніколі не блытае. Пачынае так: пуль-пуль-пуль-пуль-пуль, а потым як жаўна: клы-клы-клы, а потым шротам—як зойдзецца—тррр і плень-плень...—Артылерыст перабраў мноства кален. Закончыў ён пяшчотна: ці-віць,—паціху, быццам малінӑўка. І зноў: ці-віць, тук-тук,—а потым так зайшоўся, што захопленыя слухачы пачалі асыпаць яго дабрадушнай лаянкай.

Мартын ішоў на Рэзніцкую яшчэ не разумеючы да канца, чаму чалавек гэты, які расказваў пра салаўёў, увесь дзень сёння і заўтра будзе наводзіць гарматы і забіваць. Няўжо ў гэтым і ёсць сэнс жыцця яго і падобных яму?

Дуняша стаяла ля варот, відаць, чакаючы яго. З адчыненага акна даносіліся стогны парадзіхі.

— Пакутуе, небарака, і я замучылася з ёю,—паціху сказала яна.—Пазвала на дапамогу суседку, а Веліканаў пабег царскія вароты адкрываць. От, дурань, якія там вароты, калі...—Яна замаўчала і, зірнуўшы яму ў твар, засмяялася.

Мартын нічога не адказаў і асцярожна прытуліў яе да сябе. Праз калітку яны выйшлі ў сад і селі ў глухім кутку пад яблыняй. Трава была асветлена месяцам і спелыя плады на дрэвах, здавалася, прасвечваліся.

Дуняша палажыла галаву яму на калені і паціху загаварыла аб сваім жыцці, аб загінуўшым мужу і разбуранай гаспадарцы. Калі яна з бабскай падрабязнасцю пачала расказваць, колькі ў іх было індычак і кур, якія прыгожыя якасці былі ў двух кароў—Мартын паціху рассмяяўся. Было і смешна і прыемна слухаць яе голас і адчуваць яго цеплыню. Але адна новая думка ўпарта не пакідала яго. Быццам цеплыня і блізкасць жанчыны дапамаглі яму ўбачыць свет. Яна, гэтая думка, звязвала ўсе карціны дня ў адно: кроў, жудасць і радасць, якую ён адчуваў зараз. Станавілася відавочным, што справа не ў адным Барышнікаве, і не ў ім самім. Яна складаней і захватвае яго, Дуняшу і Жданава і Напалеона і шмат іншых. Яму станавілася ясным, што жыццё ў самой сваёй аснове пабудавана не так, як трэба,—яно поўна супярэчнасцей. І яму, Мартыну, трэба жыць, а калі спатрэбіцца, то і памерці для таго, каб не было гэтых супярэчнасцей.

Супакоены, ён гушкаў галаву жанчыны і паціху напяваў жартаўлівую песню:

Как у нашей Дуни—
Что было скотины.
Дунюшка-Дуня,
Милая Авдотья!
Курица Варюха;
Петух-то Митюха.
Дунюшка-Дуня,
Милая Авдотья!
А свинья Аксинья,
Боров-то Василий.
Дунюшка-Дуня,
Милая Авдотья!..

Старадаўняя жартаўлівая песня, здавалася, была без канца і яны абодва паціху смяяліся.

## XV

Гэтай-жа начы на ваеннай нарадзе было вырашана адмовіцца ад генеральнай бітвы пад Смаленскам з-за непрыгоднасці пазіцыі. Але боязнь аказацца адрэзанымі ад Масквы прымусіла Барклая абараняць горад сіламі першай арміі, пакуль другая адыйдзе па Маскоўскай дарозе да Салаўёва перавоза. Таму корпус Раеўскага, які абараняў Смаленск, быў заменены корпусам першай арміі. Дохтураў, які камандаваў гэтым корпусам, хварэў ліхарадкай.

Прыступ хваробы скончыўся раніцай і ён, аслабеўшы і потны, мяняў бялізну, калі прыехаў Барклай. Галоўнакамандуючы падняўся на тэрасу Молахаўскіх варот у той момант, калі дзяншчык Дохтурава трымаў на выцягнутых руках сарочку галандскага палатна, збіраючыся надзець яе на генерала. Маленькі і прысадзісты Дохтураў, як толькі змеціў белы султан Барклая, адразу, падхапіўся і заблытаўся ў рукавах сарочкі.

— Прашу, не ўставайт, Дмітр Сяргейш, нічога, як ліхорадак?

— Дзякую-с, ваша прэвасхадзіцельства,—пасля палыннай стала лягчэй.

Дохтураў ледзь прасунуў галаву ў каўнер. Нябрытыя, загарэлыя шчокі яго паружавелі, але, перамогшы лёгкую збянтэжанасць, ён, як сапраўдны службіст, вырачыў жаўтаватыя бялкі вачэй.

— Не турбуйцеся, ваша прэвасхадзіцельства,—хрыпла, пасалдацку адсек ён і цераз плячо прашыпеў перапуджанаму дзяншчыку:

— Суртук, сучы сын!

Высокі і хударлявы Барклай сціснуў губы і ўзяў у аднаго з ад'ютантаў падзорную трубу.

Зашпіліўшы гузікі генеральскага суртука, Дохтураў прыўзняў плечы. Густыя эпалеты ўздрыгнулі. Цяпер ён выдаваў шыршым у плячах і, дзякуючы эпалетам—вышэйшым, нават тоўсты жывот быў амаль непрыкметным. Падобна клубку, ён хутка падкаціўся да Барклая і нібы гасцінны гаспадар, робячы шырокія жэсты, пачаў дакладваць аб ранішняй вылазцы. Удача гэтай вылазкі тлумачылася тым, што Напалеон прыберагаў галоўныя сілы для генеральнага бою. Ён усё яшчэ спадзяваўся, што рускія выйдуць з крэпасці і дадуць гэты бой. Але гадзін блізка дванаццаці яму данеслі, што рускія адыходзяць па маскоўскай дарозе. Гэта не вязалася ні з якімі стратэгічнымі меркаваннямі. Не верачы данясенням, Напалеон паскакаў да вёскі Шэйнаў Астрог. Рускія адыходзілі, захоўваючы галоўныя сілы. Яны скарысталі тое, што французы аслабілі наступленне. Гэта была азіяцкая хітрасць, якой ён не разгадаў.

На паўночным узвышшы Дняпра стаялі рускія батарэі і будаваць мост пад агнём было-б бяссэнсным. Адзіны шлях, па якім можна было рынуцца наперад—ляжаў праз горад. Левы бераг, дзе стаяў Напалеон, быў абрывісты; чырвоная гліна з шумам асыпалася пад капытамі коней. Саскочыўшы з сядла, ён парыўка прайшоў некалькі крокаў. Ад спякотлівага сонца і злосці яму стала душна—і Напалеон ірвануў аплікі каўняра. Хвіліны дзве ён не-

рухома глядзеў на гэтую гліну. Ярасць знянацку падкацілa да самага горла і чырванаватая гліна здалася крывавай. На імгненне заплюшчыўшы вочы, ён адвярнуўся. Ніхто з світы не заўважыў, як сударгава скрывіўся яго твар. Напалеон глынуў паветра, але гліна па-ранейшаму была кармінавай і нават пыл удалечыні вырастаў у багровае воблака. Патылічная костка зноў занылa.

„Зноў... зноў, бягуць, як шакалы!..“—і моўчкі паказаў рукой на раку.

— Знайдзіце броды, ну!

Пяцёра кавалерыстаў хутка адлучыліся і рыссю паскакалі да ніжэйшага берага. Пырскі ўспыхнулі на сонцы, вада ўспенілася за конскімі крупамі. Нешырокая рака была тут глыбокай і рабіла круты імклівы паварот. Двое пярэдніх адразу трапілі ў быстрыну; коні, не слухаючыся повада, хацелі павярнуць, але іх закружыла, людзі скочылі ў ваду, і ўхапіўшыся за хвасты, закрычалі. Вада закружыла іх і праз імгненне яны зніклі за паваротам. Не гледзячы на астатніх, Напалеон ірвануў повад і, ускочыўшы на хаду ў сядло, кар'ерам паімчаўся да Смаленска.

Да гэтага часу Барклай і Дохтураў скончылі агляд пазіцый і перагаворы. Усюды было спакойна; французы пасля ранішняй атакі не стралялі. На тэрасе пад палатнянай навесай дзеншчыкі накрывалі паходны стол. Унізе ля варот адзін з іх завіхаўся ля невялічкага кастра і адтуль ішоў пах падсмажанага масла. Страсянуўшы эпалетамі, Дохтураў павярнуў галаву да Барклая. Густыя, чорныя з сівізнай валасы, якія завіваліся с пераду ў высокі кок, уздрыганулі—і ўсё гэта выдавала маладцаватасць пяцідзесяцігадовага генерала.

— Міласці прашу-с, Міхаіл Багданыч, ваша прэвасхадзіцельства.

— Дзякую, Дзмітр Сяргейч, але...

— Стол накрыты, ваша прэвасхадзіцельства!

— Я чакаю князь Багратыён.

— Ну, хоць чарку палыннай і грыбкоў. Жонка з вёскі прыслала.

— Мой катар...—сказаў Барклай быццам у раздум'і, але потым рашыўся:

— Ну, чарка палыннай я выпівайт!

— Палынная, ваша прэвасхадзіцельства, карысна ад усіх хвароб,—сур'ёзна адказаў Дохтураў і наліў Барклаю. Крыху спалохана той скасавурыўся на ўёмістую гранёную чарку і хацеў штосьці сказаць, але Дохтураў ужо наліў сабе і чокнуўся.

— За поспех баталіі, ваша прэвасхадзіцельства!—і, выпіўшы, пакруціў галавой.—Незамянімы напітак у паходзе, ад ліхарадкі-ж—першы ратунак.

Барклай уздыхнуў і, падняўшы двума пальцамі, рашуча, быццам непрыемнае лякарства, перакінуў чарку ў рот. Ён закашляўся, тыцкаючы відэльцам у слізкі грыб. Непадалёку стаяўшы барон Люцэ, ад'ютант Дохтурава, сказаў па-нямецку камусьці з світы аб лячэбных уласцівасцях палыннай. Галоўнакамандуючы, пачуўшы

фразу, усміхнуўся і адказаў таксама па-нямецку. Потым, устаўшы, патрапаў Дохтурава па плячы.

— Дзмітр Сяргейш, ваш палын—цудоўны напітак, але гэтыя вароты вы павінен утрымайт.—Вочы Барклая сталі сур'ёзнымі і ён падняў указальны палец.—Памятаць: утрымайт фо што-б не стала! Я маю надзей, вы разумейт, гэта выратаванне армій...

— Будзьце надзейны-с, ваша прэвасхадзіцельства,—перабіў Дохтураў і з паклонам, быццам у сябе ў гасціннай, правёў Барклая да тэрасы.

Пасля абеда ён тут-жа пад навесам лёг прыдрамнуць. Было тры гадзіны па поўдні, але абодва бакі маўчалі, знемагаючы ад духаты і спёкі. Афіцэры штаба Дохтурава таксама распалажыліся на тэрасе і, баючыся разбудзіць генерала, пацііху гутарылі. Высокі і рыжы барон Люцэ час-ад-часу наводзіў трубку ў бок непрыяцеля. Раптам ён хутка ўсхапіўся; складное парусінавае крэсла, на якім ён сядзеў, паваліласся.

Стралкі за фарштатам!

Яго акружылі афіцэры, вырываючы трубку адзін у другога. Ад перадавога ланцуга правага крыла да варот на ўвесь кар'ер праімчаўся коннік. Стук капытоў трывожна даляцеў да маста і замёр ля вежы. Прыехаў палкоўнік Мамахцін з паведамленнем, што французы заварушыліся. Ён яшчэ не скончыў даклад, а Дохтураў спрасонку хацеў сказаць штосьці супакойваючае, але насупраць правага крыла ўзвілася ракета. Гэта прыехаўшы з Шэйнава-Астрога Напалеон загадаў неадкладна штурмаваць горад. Ужо простым вокам можна было бачыць густыя непрыяцельскія калоны. Праз некалькі хвілін узвілася другая ракета і адразу-ж услед трэцяя. Калоны паскорылі крок і дзвесце пяцьдзесят французскіх гармат пачалі страляніну. Здавалася, што старадаўні горад, які з дня заснавання быў яблыкам разладу, дажывае апошнія гадзіны.

Сонны выгляд уміг знік на твары Дохтурава; ён выпрастаўся. Па-бацькоўску строга і крыху ўрачыста прагучаў яго хрыплы барытон.

— Па месцах, панове афіцэры! Выконваць загад галоўнакамандуючага!

Яшчэ з ранку Мартынам авалодаў неспакой. Хацелася яму скончыць абыход крэпасной сцяны, пачаты ўчора, і перад гэтым зрабіць яшчэ штосьці значнае і неабходнае. „Але што? Адправіць у надзейнае месца Карнея і Стася? Пра гэта ён памятаў. Дуняша? Таксама вырашана. Але што-ж яшчэ?“

Прачнуўся ён раней Карнея і Стася, якія спалі ў адрыне. Не паспеў памыцца, як Дуняша паклікала яго ў дом і прымусіла паесці. Яна і вокам не звяла пасля ўчарашняга, але стомы не адчувала.

Дуня маленькая нешта майстравала ля акна з каляровых істужак. У печцы весела трашчалі дровы. У акно ўрываўся яркі сонечны промень, гуляючы на медным рукамыйніку. Залацістае зззянне праймала белакурыя валасы дзяўчынкі, завязаныя назад істужкай.

— Што ты шыеш, разумніца?

Дзяўчына ўзняла блакітныя вочы і, не спяшаючыся, па-дарослаframework рукой прыгладзіла валасы.

— Шэпчык.

— Чэпчык? Каму-ж гэта?

Яна ўважна паглядзела на яго, думаючы, што ён жартуе, і раптам гарэзліва, па-дзіцячаму засмяялася.

— Адгадай?

Ён зрабіў здзіўлены твар і развёў рукамі.

— Хоць забі, не ведаю, Дунюшка.

— Цёцінаму хлопчыку!—голасна сказала яна і сумелася.—Ну, якога хутка народзіць,—от, госпадзі, някемлівы які!—і пабегла за дзверы.

Дуняша, якая назірала за ўсім гэтым, усміхнулася і любоўнымі вачыма зірнула на Мартына. Ён таксама ўсміхнуўся.

— Толькі прыехалі ўчора—знайшла істужкі і давай майстраваць. Ну, што ты з ёй зробіш?—яна павярнулася да печы, разбіваючы чапялой перагарэўшыя дровы. Гледзячы, як ходзяць пад палатном яе плечы, Мартын адчуў, што знайшоў сваю сям'ю. Тое, учарашняе, што здарылася ў садзе, было яму дарагім і пасля доўгай разлукі—дарагім удвая.

Заўважыўшы, што ў яго падраны рукаў, яна папрасіла:

— Дай зашыю.—Мартын зняў каптан і сеў, назіраючы за яе работай.

Калі пасля Мартын выйшаў на Аўраамієўскую і цераз вежу Арол падняўся на крэпасную сцяну, страляніны ні з таго, ні з другога боку не было, толькі на ўзгорку капашыліся людзі. Там была батарэя палякаў, якая пазней у колькасці шасцідзесяці гармат абстраляла Дняпроўскі мост.

Мартын пайшоў па сцяне. Ён мінуў ужо Рогаўскую вежу і набліжаўся да Весялухі. Адтуль адкрываўся від на Заднепроў'е і Маскоўскую дарогу, дзе рухаліся адступаючыя часці другой арміі. Насупроць віднеліся хацінкі духоўскага прадмесця ля рэчкі Рачэўка. На сцяне-ж, ля другога яруса вежы ён убачыў знаёмых салдат з каралеўскага бастыёна. У сваёй любімай позе—ніцма ляжаў Лука Сяргеевіч, з цікаўнасцю зазіраючы ўніз. Паміж ім і Ігнатам стаяў высокі хлапец і, схіліўшы на бок вялікую галаву, пачціва слухаў Ігната. Ён крыху разявіў рот і чысты круглы твар яго выдаваў-бы прыгожым, калі-б не рабаціннe. Двух пярэдніх зубоў таксама не даставала. Хлапец узяў стаяўшае ля сцяны ружжо і штосьці сказаў, але Ігнат махнуў рукой і хваравіта зморшчыўся.

— Ды не так, Ванька, зброя табе—не рыдлёўка. Эх, вёска цёмная. Глядзі!—барадач выхапіў спрытна ў хлопца ружжо, узяў на згатоўку і, узвёўшы курок, адкінуў крэсіва.

— Глядзі, глядзі, вучыся,—мармытаў ён і яшчэ хутчэй выхапіў з сумкі патроны.—Робіш гэтак—рразз,—ён люта надкусіў патрон і выплюнуў папяровы пыж.

— Вось гэтае самае і не выходзіць у мяне, дзядзечка, таму што зубы пан унцер выбіў...

— А ты, галава цялячая, карэннымі бяры, на бабкі—яно яшчэ

зручней,—прыгаварваў салдат, адсыпаючы порах і закрываючы крэсіва.

— А цяпер аць-два,—ён стукнуў прыкладам вобзем і, высыпаўшы ў дула зарад, даслаў туды-ж і кулю. Усё гэта было зроблена хутка і дакладна.

Мартын з цікавасцю глядзеў на гэтага ўвальня, які, робячы запрывычную справу, ажывіўся і стаў незвычайна спрытным. Заўважыўшы, што Мартын дастаў тутунь і закурвае, Ігнат выцягнуў з-за халявы люльку і ўразвалку падышоў да яго.

— Землячок, дай тутуню.

Мартын даў.

— Ох, уважыў, дзякуй табе, а то ўчора апошні выкурыў.— Проста лажыся ды памірай. А тутунь грудзі змякчае і прыемныя думкі выклікае...

— Ну і аўсы-ж цяпер на Смаленшчыне, ох, аўсы...

Збоку Молахаўскіх варот раздалася моцная кананада, а з верхняга яруса вежы—каманда:

— Ружжо!..

Польская батарэя паслала першыя снарады у Духоўскае прадмесце. Праз некалькі хвілін там успыхнуў пажар. На працілеглым баку яра паказаўся польскі ланцуг.

— Ну, Ванька, не зявай,—адобрыў хлапца Ігнат.—Нацэльвайся як след, зараз мы пакажам.

Часты бой барабана заглушыў яго словы. Ружэйны залп не спыніў наступаючых. Яны стройна разгарнуліся на віду ва ўсіх і галаўная іх частка рынулася да сцяны. З-за Весялухі гарматы ўдарылі карцеччу. Палякі сумеліся. Дружны агонь ударыў са сцяны і яны адкаціліся ў яр.

— Так, так, крышы, хлопцы, наша бярэ!—закрычаў Ігнат.

— Так яго, так,—маленькія, з хітрынкай вочы салдата нібы захмялелі. Ён зірнуў на Мартына, быццам не пазнаўшы яго, а мастак хутчэй адчуў, чым здагадаўся, што ён зараз для Ігната не існуе.

Непрыяцельская батарэя перанесла агонь, падтрымліваючы наступленне. Ядры адно за другім узрывалі зямлю ля паднόжжа Весялухі. З яра паказаўся двайны ланцуг палякаў. Страляючы, пярэднія перадавалі ружжа заднім; кулі свісталі бесперапынна. Адно ядро трапіла ў самую сцяну. Веер цагляных аскабалкаў і шчэбеня пырснуў угару; Мартын упаў побач з Ігнатам. Ён бачыў як Лука Сяргеевіч стаў праціраць вочы і па шчацэ размазаў кроў. Ігнат скасавурыўся ў яго бок і выскаліў зубы.

— Што, укусіла мушка? Не палохайся.

З таго і другога боку ўсё ўпарцей і мацней разгараўся гарматны і ружэйны агонь. У кустах за ярам і на сценах крэпасці прыбаўлялася забітых і параненых. Драўляныя хаціны Рачэўкі пылалі, лёгкі ветрык адносіў дым да крэпасных сцен.

— От, злодзей-паляк,—прамармытаў Лука Сяргеевіч, старанна нацэльваючыся.

Ванятка, зараджаючы ружжо, устаў і нечакана мякка асеў на ногі салдата. Ён намагаўся нешта сказаць, але з роту пайшла кроў і ён захроп. Куля навылёт прабіла хлопцу горла.

Ігнат зірнуў і безнадзейна махнуў рукой. Жаль і лютасць аднначасова з'явіліся на яго твары. Лука Сяргеевіч, не вызваляючы ног, каб не турбаваць параненага, павярнуў галаву і нібы глухому крыкнуў Мартыну:

— Прыпадымі за плечы, дапамажы-ж...

Мартын паслухмяна ўскочыў і пад пахі падхапіў параненага. Галава яго адкінулася, пэцкаючы крывёю каптан. Лука Сяргеевіч узяў хлопца за ногі і яны адцягнулі яго да праходу ў вежу.

Мартын вярнуўся на старое месца і ўбачыў ружжо, а паблізу сумку з патронамі. Густы непрыяцельскі ланцуг быў ужо на грэбні яра і, бесперапынна страляючы, рухаўся наперад. Частка калоны, якая адкацілася раней, па дну яра прайшла да палаючага прадмесця і кінулася ў Крылашэўскі пралом. Хутка адтуль пачуліся лікуючыя крыкі і пракацілася па ланцугу:

— Нех жые ойчызна наша! Віват цэзарж!

— Ойчызна, цэзар,—злосна прашаптаў Мартын,—праклятыя!—ён узяў ружжо і стаў хутка набіваць зарад.

Ігнат, скоса наглядаўшы за ім, мякка пацягнуў ложу да сябе.

— Вазьмі-тка, зямляк, маё, а я перадыхну.—Ён пацёр плячо.—Аддача моцная—цаляй акуратна,—сказаў ён і моцным прывычным рухам увагнаў непаслухмяную кулю. Па накірунку дула ён прасачыў, куды нацэльваецца Мартын і, калі той спусціў курок,—нават пахваліў.

— Хвацка, у самую кропку. А ну-тка гэтага!—Над чалавекам, якога, як здалося Мартыну, ён забіў, на хвіліну затрымаўся другі. Ігнат пальцам паказаў на яго.

Амаль не нацэльваючыся, мастак спусціў курок і той другі асунуўся побач з таварышам.

— Эгэ, зямляк, відаць, тваё вока меткае. А ну-тка за Ванятку...

Палякі адхлынулі і зноў вярнуліся. Свежая калона спускалася ў яр на дапамогу.

Лука Сяргеевіч і Ігнат зараджалі ружжы ўдваіх, а Мартын пасылаў кулю за куляй, не заўважваючы часу. Яго ахапілі незразумелы азарт і злосць.

Гэта быў самы напружаны момант атакі, калі Нэй уварваўся ў Салдацкую слабаду, але затрымаўся, не адважваючыся атакаваць каралеўскі бастыён. З афіцэрскай слабады французы выцяснілі Капцэвіча, слабада пылала, рускія адступілі ў горад. Дохтураў вымушан быў прасіць у Барклая дапамогі.

Участак, дзе наступалі палякі, у гэты дзень быў самы гарачы. Перад атакай тут быў сам Напалеон; перад палком генерала Грабоўскага ён стрымаў каня і, паказваючы на сцены, зрабіў акторскі жэст.

— Палякі, гэты горад—ваш,—крыкнуў ён сарваным голасам. Крык яго заглушылі захопленыя выгукі:

— Віват цэзарж!

Пазней многім з іх захапленне гэтае абышлося вельмі дорага. Дзве гадзіны ад першага да другога прыступа бой аслабнуў. Але вось надышла пятая гадзіна, гадзіна другой атакі.

Размешчаныя ў выглядзе падковы французскія войскі цэнтрам

свайго наступлення намецілі Молахаўскія вароты. Гэты ўдар можна было параўнаць толькі з валам, які імчыць на берагавую кручу. Ён быў такі сакрушальны, што французы траха не заўладалі варотамі, калі-б не падаспеў чацверты егерскі полк. Тысячы пакалечаных салдат адкатваліся ў бліжэйшыя вуліцы і завулкі. Запаленыя непрыяцельскімі снарадамі палалі будынкі; агонь пажарышчаў гнаў людзей да Дняпра. Але там гарматы Панятоўскага грамілі ўжо мост, а па нядаўна наведзеных двух пантонных рухаліся сустрэчныя. Гэта ішло падмацаванне—чацвертая дывізія прынца Вюртэмбергскага, пасланая Барклаем на дапамогу Дохтураву. Два першых палкі—Крэменчугскі і Менскі пайшлі на правы фланг у дапамогу 24 дывізіі Ліхачова, а палкі Табольскі і Валынскі пайшлі на злучэнне з рэзервам гвардзейскіх егераў да Рачэўкі, каб аслабіць удар Панятоўскага.

Чацверты егерскі полк шпаркім маршам рушыў да Молахаўскіх варот, адкуль генерал Канаўніцын рашыў адступіць. У многіх месцах кіпеў бязлітасны штыхавы бой.

Зазнаў яго і Мартын. Спачатку ён не зразумеў, што азначае часты трывожны бой барабанаў. З боку Весялухі ішлі падмацаванні, займаючы месцы ля амбразураў. Мартын не заўважваў салдат. Рукі і твар яго былі закопчаны парахавым дымам, а плячо хваравіта ныла ад рэзкай аддачы ружжа. Ён злёгку паціраў яго, але калі падавалі яму новае—паслухмяна страляў.

Перастук барабанаў узмацніўся. Лука Сяргеевіч з Ігнатам хутка ўсталі. Ігнат паманіў яго за сабою, а Лука Сяргеевіч павесіў яму на плячо сумку з патронамі. Салдаты стоўпіліся ля выхаду. Разам з другімі ён па вузкай мураванай лесвіцы бягом спусціўся ўніз. Скляпенне было нізкае і Мартыну прышлося сагнуцца. У ніжнім ярусе ля амбразураў стаялі гарматы; каля іх увіхаліся артылерысты. Ля сцяны валяліся снарады. Несла смуродам; тут-жа ў гразі ляжалі забітыя. Мартын заўважыў, што ніжэй, дзе строіліся салдаты, быў могільнік: пахілыя крыжы, зялёныя ўзгоркі і шэрае каменне. Але вось салдаты рушылі. Шпарчэй і шпарчэй і нарэшце—бягом. Мартын спатыкнуўся, Лука Сяргеевіч падтрымаў яго. Пад гару бегчы было лёгка. Было відаць, што на перарэз ім спяшаецца другі атрад і, нібы ў парыве азарта, салдаты, з якімі быў Мартын, закрычалі ўра і пабеглі яшчэ шпарчэй. Тыя затрымаліся і саступілі ім дарогу. Спераду дзесьці грымнула гармата. Непадалёку падбітым лафетам мільганула другая. На казённай частцы яе ляжаў, перавесіўшыся салдат, пад ім расцяклася лужына крыві. Каб не закрануць забітага, Лука Сяргеевіч сышоў у бок і выперадзіў Мартына. Абодва былі яны ўжо на процілеглым баку—у полі. Насупроць узнікла полымя і дым у пылаючым прадмесці, а справа, насустрач ім беглі людзі ў польскіх мундзірах.

Мартын бег, ахоплены агульнай ненавісцю, разам з усімі і хацеў толькі аднаго—астацца ў жывых. Ваяўнічыя крыкі палякаў: „нех жые ойчызна наша“—злавалі яго. Гучней усіх, размахваючы шпагай, крычаў сівавусы і ружовашчокі палкоўнік на кані. Ён віднеўся недалёка і чалавек дзесяць уланаў ішлі ў рад, расчышчаючы шаблямі яму дарогу. Са штыком наперавес Мартын крута павярнуў у яго

бок. Раптам ён успомніў, што ружжо зараджана і ўскінуўшы нацэліўся і выстраліў. Конь палкоўніка высока ўзвіўся і ўпаў на пярэднія ногі, але той лоўка саскочыў на зямлю. Тры уланы ўпалі пад штыкамі салдат; наперадзе Мартына на сонцы ярка бліснуў клінок і высокі прысадзісты грэнадзёр рухнуў з рассечаным тварам. Мартын пераскочыў цераз яго і ў другі раз клінок чыркнуў аб жалеза яго штыка.

Мартын убачыў Луку Сяргеевіча. Той ударыў штыком сівавусага паляка, які, раскінуўшы рукі, упаў ніцма. Забіты быў Грабоўскі — палкоўнік польскага атрада. Смерць яго з'явілася рашаючай у гэтым баі. Падаспеўшыя валынцы прадрашылі поспех рускіх.

Мартыну здалося зусім натуральным, што палякі пабеглі назад і ён адчуў нават нейкае здавальненне. Занадта хутка ўсё скончылася.

Раз'юшаны Напалеон сядзеў на драўлянай лаўцы ля крайняй хаты пры ўездзе ў Чарнушкі. Хмурачыся, ён слухаў данясенне. Асабліва вялікія страты панеслі палякі дывізіі Панятоўскага. Афіцэр паведаміў, што забіты генералы Грабоўскі, Занчонак, палкоўнік Крукавецкі і рад афіцэраў. Нецярпліва тарганууўшы плячом Напалеон хацеў сказаць нешта злое, але адвярнуўся і паманіў пальцам шаснаццацігадовага ад'ютанта—пляменніка доктара імператарскай гвардыі. Збянтэжаны юнак падышоў. Падбадзёрыўшы яго, Напалеон прыадкрыў губы і куткі рота яго здрыгануліся. Гэта азначала ўсмешку.

— Слухайце, дэ-ла Фліз, вы—малодшы тут і, здаецца, самы кемлівы. Ідзіце-ж і перадайце там, каб да сцен наблізілі гаубіцы і білі разрыўнымі снарадамі. Ім, мусіць, мала, яны атрымаюць яшчэ!— выгукнуў ён натруджаным голасам.

Шчаслівы ад'ютант павярнуўся, каб выканаць загад; Напалеон наўздагон напомніў:

— Прыязджайце хутчэй, мы будзем абедаць.

Для дэ-ла Фліза гэта было ўжо залішне і, не чуючы сябе ад радасці, ён ускочыў у сядло.

Напалеон падняўся і пайшоў у падрыхтаваную для яго хату.

Праз поўгадзіны гаубіцы былі ля крэпасці і дзесяткі запальных бомб паляцелі на горад. Запалалі дахі на Нікольскай і Еўстаф'евай вежах. Потым заняліся дамы ад Молахаўскіх варот да Вазнесенскай вуліцы, урадавыя карпусы вакол Блоння і дом віцэ-губернатара, дзе ляжалі параненыя. Так прадаўжалася да змяркання. Да дзевяці гадзін кананада таго і другога бакоў пастулова пачала сціхаць. Надышла цішыня. Але трэск агню, рып колаў, стогн і плач, спалоханыя крыкі зліваліся ў адзіны прыглушаны гул. Багровае зарава стаяла над горадам.

Мартын выйшаў з адрыны, дзе ён адпачываў. Карней ужо сядлаў коней. Твар Стася Галкі быў устрывожаны, а ў вачах застыў спалох.

— Стась,—паціху паклікаў Мартын.—Ты паедзеш з Карнеем.

— А вы, пане? Конь-жа ваш...

— А ты як-жа будзеш?—перабіла іх Дуняша.

— Ты таксама збірайся, Дуня,—загадаў ён.—Карней дарогу ведае, а горад усёадно возьмуць.

— Не, а ты як-жа?

— Пра мяне не думай. Справа ў мяне.

— У мяне таксама справа,—кіўнула яна на двор у гаспадарскую палавіну.

Веліканаў на цыпках выйшаў адтуль і шэпатам паведаміў:

— Заснула. Калі-б не вы, Еўдакія Сямёнаўна, ох...—і ён, недаказаўшы, засумяціўся.—Лампадку-б пад абраз... Прэабражэнне заўтра-ж.

Мартын са здзіўленнем паглядзеў на яго і перавёў позірк на Дуняшу.

— Не, Дуня, ад'язджай, абавязкова. Тут крута прыйдзецца.

— Ах, ды не паеду я без цябе, ну чаго ты прыстаў?—трывожна адазвалася яна.

— Добра, рабі як знаеш.—Сэрца яго радасна забілася. Ён быў не адзінокі.

Зачыняючы вароты, Мартын яшчэ раз напомніў Карнею.

— Глядзі-ж, прыедзеш—адшукай Дзёмку. Праз тыдзень чакайце мяне.

— Не сумнявайся, Іванавіч—усё зраблю, як след.

Яны пацiснулі адзін другому рукі.

Развітваючыся са Стасем, Мартын папрабаваў сёдлы, адцягнуў падпругу і весела пасцёбаў хлопца па плячы.

— Ну, не бойся, Стась, нічога і ніколі не бойся.—Мастаку ўспомнілася, як у гэтым-жа горадзе на беразе Дняпра навучаў яго стары пугачовец Фёдар. А цяпер ён пазнаў сябе ў гэтым хлапцы.

Летні змрок ахутаў дамы. Верхняя шыбка аконнага шкла ярка асвятлілася і згасла: займаўся дом на Благавешчанскай вуліцы. Нехта мякка прытуліўся да Мартына. Не азварочваючыся, ён пазнаў Дуняшу і прыхіліў яе бліжэй. У завулку, адлучаным ад галоўнай вуліцы вялікім пустыром, нікога ўжо не было. Яны засталіся адны. І, адчуваючы сваё адзіноцтва, маўчалі, цесна прытуліўшыся адзін да другога.

Пачулася цэнькае, бязладнае дзынканне званоў у Благавешчанскай царкве. Гэта падымалі надваротнюю ікону Одыгітрыі. Па загаду генерала Ермолава два афіцэры з камандай салдат неслі яе на Пакроўскую гару к войскам. Дохтураў атрымаў ад галоўнакамандуючага загад паступова выводзіць часці. За крэпаснай сцяной і ў прадмесці аставалася толькі стралковая варта.

Вестка, што Смаленск пакідаюць, прывяла многіх у замяшанне. Прынц Вюртэмбергскі, Дохтураў і іншыя сцвярджалі, што можна яшчэ трымацца, калі падвязуць правіянт. Багратыён катэгарычна патрабаваў, каб першая армія не толькі прадаўжала абарону, але і неадкладна перайшла ў наступленне. Некалькі генералаў вырашылі пайсці да Барклая. Яны сабраліся на тэрасе Молахаўскай вежы ў Дохтурава і чакалі Багратыёна, які абяцаў прыбыць з гадзіны на гадзіну. Апрача Дохтурава тут былі: начальнік штаба Ермолаў, прынц Вюртэмбергскі, граф Канаўніцын, Раеўскі і Навероўскі.

Здаравяка Ермолаў нецярпліва ўстаў з плеценага крэсла і прай-

шоўся па тэрасе. Спыніўшыся ля круглага століка, за якім сядзелі генералы, ён нахмурыў густыя бровы і бразнуў шпорамі.

— Я, панове, думаю, князь Петр Іванавіч будзе пазней, ён сказаў, што забавіцца. Я думаю, панове,—пара ісці.—Ён бразнуў шпорамі яшчэ гучней, быццам сказанае ім было бясспрэчным.

— Так, так, ваша прэвасхадзіцельства, пойдзем. Час не церпіць,— пазіраючы на астатніх, падтрымаў Дохтураў.

Устаўшы, генералы пайшлі адзін за другім да вузкай лесвіцы, што вяла з вежы ўніз.

Ля выхаду яны затрымаліся. Ермолаў, хаця і старшы ў чыне, саступіў дарогу прынцу Еўгенію. За Ермолавым зноў-жа па старшынству рушыў Канаўніцын. Ззаду ўсіх, прытрымліваючы шпагу, шырокімі крокамі, каб не адстаць, спяшаўся маленькі Дохтураў.

У губернатарскім доме ў пярэдняй Барклая дзяжурны афіцэр выцягнуўся ля дзвярэй.

— У яго прэвасхадзіцельства генерал Вільсон, не велена...

Прынц Вюртэмбергскі ўскінуў к воку шкелца і працадзіў:

— Далажыць, пан афіцэр, што дэлегацыя тэрмінова, тэрмінова,—падкрэсліў ён,—патрабуе спаткання.

Афіцэр знік. Праз хвіліну ён расчыніў дзверы.

Барклай устаў з-за стала і ступіў насустрач. З самага абеду ў галоўнакамандуючага балелі зубы і ён стараўся паменш гаварыць. Заўважыўшы адсутнасць Багратыёна, ён крыху ўсміхнуўся і, схапіўшыся за шчаку, паківаў лысеючай галавой.

— Сядайце, панове! Я катоф фас слухайт.

Прышоўшыя пераглянуліся. Генерал Вільсон, які не ўстаў пры іх з'яўленні, глядзеў на генералаў з халоднай цікавасцю. Ён круціў у руках аловак, і было прыкметна, што гэты хударлявы чалавек з рыжымі бакамі, злуецца і нездаволены іх прыходам. Бледны і высокі, з падвязанай рукой, Канаўніцын ступіў да Барклая. У гарлавым, глухаватым голасе генерала чулася дрэнна захаваная злосць.

— Нас прымусіла пачуццё, ваша прэвасхадзіцельства, мы прыйшлі дамовіцца... Так сказаць, мы мяркуем...

Ермолаў груба яго перабіў:

— Мы патрабуем адмяніць загад аб астаўленні горада.

Наступіла няёмкая паўза. За акном знянацку ўзнік грукат, відаць, перавозілі гарматы. І ў парушанай паузе ўжо раздаўся крыклівы голас прынца Вюртэмбергскага.

— Так, так, адмяніць. Іменна загад адмяніць!

Праціснуўшыся наперад, маленькі Дохтураў прылажыў руку да сэрца.

— Мы, ваша прэвасхадзіцельства, Міхаіл Багданавіч, дзесяць дзён, нават два тыдні гарантыруем. Загадайце толькі правіянт і патроны...

— Панове, я прасіль каварыць адзін, але не ўсе.—Барклай зморшчыўся ад болю і запытальна зірнуў на Ермолава.

Прынц Вюртэмбергскі сеў ля стала непадалёку ад Вільсона, забаўляючыся шкелцам. Той усміхнуўся, паказваючы моцныя шырокія зубы.

Ермолаў, не гледзячы на галоўнакамандуючага, яшчэ больш хмура басіў:

— Трэба абараняцца. Нам не даруюць ні войскі, ні народ...

Вільсон памкнуўся ўстаць. Падняўшыся, ён ветліва запытаўся, якое-ж уражанне зробіць у краіне астаўленне свяшчэннага горада Смаленска.

Барклай зноў паспрабаваў усміхнуцца.

— О, кенераль, корад—гэта ікона Багаматэр. Аб ёй-жа я маю клопат. Святыні не паграджае небяспека. Я загадаў яе на калясніцы везці за войскам.—Звярнуўшыся да генералаў, ён павысіў голас.

— Я аддаў загад, і вы, панове, загад выконвайт. Напалеон будзе займаць прадмесці і тады мы будзем зусім-зусім адрэзан. Я даручаў кенераль Вільсон глядзець сцены і перад ваш прыход ён дакладваў, што сцены не вытрымаюць атак.—Барклай паказаў пальцам у акно.—Вы бачыце гэты касцёр? Корад—касцёр абараняць няма сэнс. Я прашу—спяшайцеся ў ваш часць.

— Нам не даруе гісторыя,—заўважыў нехта з генералаў і не скончыў.

Барклай нахмурыўся. Забыўшыся пра боль, ён далонню секануў перад сабой паветра.

— Гісторыю робім мы, панове!

Вільсон вышаў разам з генераламі, а Барклай, астаўшыся адзін, прыціснуў далонь да шчакі і некалькі хвілін моўчкі хадзіў па пакою.

Дзяншчык прынёс на падносе кубак з цёплым дэкоктам. Узяўшы яго, Барклай адышоў да акна, скоса пазіраючы на палаючае зарава.

Унізе па вуліцы з гучным тупатам ішлі рады адступаючых салдат. Адна за другой шарэнгі іх, збіваючыся з такту, спяшаліся да Дняпроўскага моста; падымаючыся на Пакроўскую гару, яны азіраліся назад. Багровае воблака дыму навісла над пакінутым горадам, а языкі полымя, зліваючыся ў адзін палаючы касцёр, даставалі, здавалася, да самага неба. Мінаючы Георгіеўскую царкву, людзі скідалі шапкі і хрысціліся. Каля алтара на передку ад зарадвай скрынкі стаяла ікона надваротнай Одыгітрыі. Вакол яе тоўпіўся народ, гарэлі свечы, чуліся прыглушаныя галасы.

— Вазьмі і мой грош, зямляк,—пастаў свечачку.

Адстаўшыя салдаты гукалі таварышоў:

— Браткі, а дзе трэцяя рота? Гэй, зямляк, куды дзелася трэцяя?

Месяц узышоў позна. У начным цемрыве зарава разгаралася ўсё велічней і грозней. Напалеон не спаў. Залюбаваўшыся пажарам, ён не мог адвесці вачэй. Пазней, успамінаючы карціны разбурэння, віноўнікам якіх быў, ён у трынаццатым бюлетэні запісаў: „у цудоўную жнівеньскую ноч Смаленск уяўляў французам відовішча, падобнае таму, якое ўяўлялася вачам жыхароў Неапаля ў часе вывяржэння Везувія“.

Блізка двух гадзін начы непадалёку ад каралеўскага бастыёи загарэліся інтэнданцкія склады.

Каманда сапёраў па загаду галоўнакамандуючага запаліла іх. Перад тым, як пакласці пад сцены паклю і смалістыя трэскі, салдаты адбілі замкі і набралі поўныя ранцы сухароў, мукі. Адзін з іх

знайшоў бочку з гарэлкай. Запальваючы трэскі, салдаты падстаўлялі фляжкі. Нехта расчулена ўсклікнуў.

— О, госпадзі, цару нябесны, нават як пахне—забыліся, — і тут-жа закінуў галаву.

— Не напірай, браткі, усім хопіць!

Чуліся ўзбуджаныя галасы. Некаторыя, закусваючы, жавалі сухары. Але над вугламі драўляных сцен ужо ўспыхнулі аганькі і, чапляючыся, пабеглі ўсё вышэй і вышэй. Стала светла. Плячысты сапёр глядзеў у агонь.

— Эх, дабра, дабра гіне колькі...

— Клопат! Не бядуй, Мікітка, на наш век хопіць,—абазваўся сусед.

Ад каралеўскага бастыёна, дзе былі парахавыя паграбы, прыбеглі мінёры.

— Фу, чэрці! Дзе гарэлкі ўзялі?

— Была, зямляк, ды высахла.

— Пайшлі, пайшлі, а то ўзрываць пачнём.

— Клопат!

— Чаго ўзнялі голас? Раўняйся па галаўному!

— Не бойся, браткі, вернемся!

— Вядома, прыдзем. Мы, брат, суворaўцы і не тое бачылі...

Шпаркай хадой мінёры пайшлі па Інтэнданцкай вуліцы да нямецкага могільніка. Хвілін праз пяць з боку бастыёнаў раздаліся два глухія выбухі. Дуняша здрыганулася; Мартын быццам прачнуўся ад забыцця. Яны сядзелі абняўшыся на тым-жа месцы ў садзе, дзе і ўчора. Пачуўся плач дзіцяці. Дуняша паціху засмяялася.

— Падае голас. Тоўсценькі такі, здаровы хлапчучок...

Выбухі і блікі агнёў скрозь лісце, падобныя на мігценне зарніц, нагадалі Мартыну далёкае юнацтва, калі Дуня прыбегла да яго ў час навальніцы ў каморку. А Дуня і не здагадвалася, пра што ён думае.

— Крычыць... Пайду, зірну.

— Сядзі,—мякка стрымаў яе Мартын.—Свой будзе—наглядзішся.

Яна паціху засмяялася і павярнула да яго твар.

— Прырода і цару ваявода.

— Будзе?—жартліва спытаўся ён.

— Будзе,—паціху адказала яна.

— Але глядзі, каб сын, Дуняша, абавязкова сын, чуеш?

— Будзе сын, мілы...—яна пацерабіла яго вусы і, абняўшы за шыю, прытулілася бліжэй.

Не прывыкшы да жаночай ласкі, Мартын злёгку адстараніў яе і хацеў устаць, але Дуняша, не адпускаючы рук, моцна трымала яго. Ён усё-ж устаў і, падняўшы лёгка, палажыў яе на траву.

— Спі. Я пасяджу...

Яна пакорліва лягла і, засынаючы, падумала аб той нерастрачанай сіле, што данёс ён да гэтых суровых дзён.

А Мартын глядзеў на яе шчаслівы твар і ўсміхаўся: „Мы далі адно другому радасць. Як мала яе патрэбна чалавеку і якой моцнай павінна быць нянавісць, каб знішчыць усё, што пазбаўляе нас гэтай радасці“.

Пятая гадзіна. Ранне пачынае асвятляць траву і дрэвы. Ён рупліва накрывае Дуняшу і, заўважыўшы ў вушах гусіныя пушкі замест завушніц, усміхаецца і выходзіць з саду.

Апошнія атрады войск прынца Вюртэмбергскага і Канаўніцына пераходзяць масты. Веставы казак кар'ерам пад'ехаў да паркана, за якім хаваліся жыхары. Ён абвясціў, што ўсе жадаючыя ехаць павінны спяшацца. Некалькі дзесяткаў людзей з вузламі і дзецьмі на руках пайшлі да Дняпра. Апошнія абозныя фуры перабраліся за імі. Сапёры развялі пантоны і падпалілі мост.

Мартын вышаў на галоўную вуліцу. Па дарозе сустрэліся некалькі чалавек, якія шукалі прытулку. Ля муніцыпалітэта Мартын спыніўся і паглядзеў на Днепр. У дыме пад праменнямі яшчэ неўзышоўшага сонца бліснуў раптам саборны крыж. Горад ляжаў у руінах і дыміўся. А мастак ішоў да Молахаўскіх варот. Ён быў спакойны і адчуваў як ніколі, што нянавісць яго па-ранейшаму заўсёдная і глыбокая.

## XVI

Пасля падзення Смаленска Александр перажываў трывожныя дні. Барадзіно ўзмацніла гэтую трывогу і многія думалі аб тым: быць ці не быць Расійскай імперыі?

Грамадская думка, інтрыгі, ў галоўным штабе прымусілі цара зрабіць рашучы крок і прызначыць галоўнакамандуючым нелюбімага ім старыка Кутузава. Сучаснікі не маглі ацаніць па вартасці куповодзін Барклая дэ-Толі, але затое іх разумеў і ўхваляў сам Кутузаў. Перад ад'ездам ён гаварыў блізкім, што не спадзяецца разбіць Напалеона, хіба толькі папрабуе яго ашукаць. Але рашаючую ролю ў справе паражэння французаў адыграў рускі народ. Іменна ў гэтую цяжкую гадзіну знайшліся ў яго і свае палкаводцы, і свае героі, з'явілася зброя і стратэгічныя навыкі; успыхнуў партызанскі рух. Нават не гледзячы на тое, што народ быў знясілены вайной, што ён быў голы і галодны, прыгнечаны і прыніжаны адвечным сваім ворагам—памешчыкам, усё-ж ён знайшоў у сабе сіл і паўстаў супроць драпежнікаў.

Усю дарогу ад Смаленска да Пагарэлага Мартын ехаў начамі, пазбягаючы людных месц. Часта, хаваючыся ў лесе, ён бачыў зводдалі непрыяцельскія раз'езды, часам натыкаўся на конскія трупы, паламаныя павозкі. Начамі на гарызонце ўзнікалі заравы, гарматная страляніна. Гэта былі водгукі і сляды вайны. Хлеб у яго яшчэ вёўся Дуняшын. Хутчэй-бы толькі знайсці Дзёмку, Карнея і Стася...

На пяты дзень ён пад'язджаў да Дурава. Было яшчэ завідна; да Пагарэлага заставалася ўжо недалёка і не было сэнсу зварочваць у лес. Гэтая бесклапотнасць ледзь не загубіла мастака.

Каля Авінаўшчыны з бярозавага зарасніку яго сустрэў залп. Мартын быў так ашаламонены, што разгубіўся на хвіліну, не ведаючы,—павярнуць назад ці імчацца ўперад. У гэты час на дарогу выскачыла чалавек пятнаццаць французаў і абкружылі яго. Мартыну загадалі сыйсці з каня і калі адзін з салдатаў хацеў прыстрэліць яго, ён, моцна вылаяўшыся, спытаўся па-французску, чаго

яны хочуць. Пачуўшы родную мову, марадзёры пакінулі яго ў жывых і толькі той, што навёў ружжо, ударыў яго два разы па шыі.

Здалёк мастак убачыў, што на каня яны паклалі аднаго забітага і накіраваліся да Дурава. Як высветлілася пазней, гэта была шайка марадзёраў, якія напалі на маёнтак у Пагарэлым. Дваровыя мужыкі іх прагналі, забіўшы аднаго і цяжка параніўшы другога. Па дарозе паранены, іх начальнік, памёр і яны парашылі ўзяць яго з сабой. Мартын ішоў пеша, папракаючы сябе за неасцярожнасць, траха не каштаваўшую яму жыцця.

Калі ён падышоў да Пагарэлага, вароты вясковай ваколіцы аказаліся закладзенымі бярвеннем і ламаччам. Паблізу нікога не было. Ён ужо хацеў пералезці цераз плот, але толькі паставіў нагу на першую жэрдку, як з-за кучы ламачча паказалася шырокая барада, а потым і стары ў падранай сярмязе. Стары ўскінуў да пляча стрэльбу з незвычайна даўжэзным ствалом, перавязаным вяровачкамі.

— Хто такі?—груба гукнуў той і моцна вылаяўся.—Гавары хто, а то зараз пальну.

— Што ты, дзед, ачумеў,—сваіх не пазнаеш?

Ад хлява беглі некалькі чалавек дваровых з віламі і тапарамі ў руках. Наперадзе іх Мартын пазнаў Якава Жданава. Убачыўшы Мартына, Жданаў разгубіўся, але ўсё-ж запрасіў яго ў дом, расказваючы па дарозе аб тым, як французы сунуліся грабіць маёнтак і як іх прагналі.

Ля ўваходу ў лазню ляжаў барадаты доўгавалосы чалавек. Ляжаў ён на баку, падкурчыўшы ногі ў ялавых ботах, быццам адпачываючы. Толькі на патыліцы запеклася кроў, ды аўчынная шапка, што ляжала побач, таксама была ў крыві. Мартын нагнуўся і яго здзівіў злосны выраз на твары чалавека.

— Французы...—паясніў Жданаў.—Быў за галоўнага ў мужыкоў. Яны ўсёй вёскай у лесе, а ён па хлеб прышоў.

— Дваровы?

— Не, не наш. Дыякан, а звацъ Егорам.

— Дыякан?!

— З Новага Двара, пад Смаленскам.

Яны прайшлі далей, але Мартын вярнуўся і некалькі імгненняў глядзеў у твар нябожчыка. „Дык вось ён які—муж Дуні. Значыцца, яна цяпер вольная. А мужык здаровы“,—падумаў ён, пазіраючы на падвернуты кулак Егора.

Ён нагнаў Жданава.

— Ну, а ты чаму-ж, вываленъ, не п‘яны і не з мужыкамі—ахоўваеш дабро барскае?

— Сцерагу,—паціху адказаў Жданаў.

— Дурань!

— Што-ж, лайся, а я ахоўваю не толькі барскае, але і сваё.— Жданаў паказаў рукой на царкву-помнік, міма якой яны праходзілі.—Гэта і мой помнік. На ўсё маё жыццё...

— Усё гэта я ўжо чуў,—нецярпліва перабіў яго Мартын.—Але вось дзіўна, Жданаў. Ты да ўсяго гэтага яшчэ і ліса перамётная.

— Я?!

— Ты! Абодва мы мужыкі, абодва прыгонныя, але тых, хто нарадзіў цябе, чым болем і ты хварэць павінен, ты прадаў, як Іуда.

— Ніколі таго не было!

— Не было?

— Не, Мартын.

— Эх, ты дрэнь, браце,—двойчы халуй.—Мартын парыўка нагнуўся і выцягнуў з-за халявы анучку. Разгарнуўшы яе, кінуў пісьмо. Убачыўшы пісьмо, Жданаў збялеў. Яны стаялі на шырокім ганку царквы-ратонды. Калоны, чырвоныя ад праменняў заходзячага сонца, імкнуліся ўгару, а будаўнік іх маўчаў і тупа глядзеў на пацёрты ліст паперы, што ўпаў да долу.

— Ну, бі, твая ўлада!—глуха сказаў Жданаў і ніжэй апусціў галаву.

Мартын грэбліва адвярнуўся і шпарка пайшоў да барскага дому.

Увечары, устрывожаныя доўгай адсутнасцю дыякана Егора, з лесу прыйшлі мужыкі. Сярод іх былі і Карней са Стасем. Мартын у гэты час сядзеў у кабінеце Барышнікава. Ад'язджаючы, памешчык знарок пакінуў грамату на дваранства адкрытай на стале. Навошта ён гэта зрабіў,—цяжка было сказаць; магчыма думаў, што калі маёнтак захопіць непрыяцель, грамата з'явіцца дакументам на недатыкальнасць. А можа ім кіравалі і іншыя меркаванні?

Мартын спярша не звярнуў увагі на грамату. Ён знайшоў на стале пісьмо Нікіты Падкапаева, са спеху пакінутае барынам. Купец пісаў:

„Высокашаноўны пан мой і дабрадзей Іван Іванавіч!

Ваш загад па сіле магчымасці і разуменню майму мізэрнаму выконваю дакладна і няўхільна. А ці пасляхова, то аб гэтым самі мяркуйце".

Далей ішлі звесткі аб закупках і розных гандлёвых справах і ў самым канцы прыпіска:

„Да раней пасланага вам з нарачным чалавекам спісу пражываючых тут уцёкшых халопаў вашых далучаю вядомага добра вам жывапісца Калінкіна. У асобе онага жывапісца я дасведчаны дастаткова, дзякуючы арандатару тутэйшай фабрыкі Маджарскаму і ўпраўляючаму пану Твардоўскаму, якім у пашану і дадзены мною падарункі. Калі-б не час трывожны, даставіў-бы я гэтага супчыка ў ножных брэнзалетах, аб чым куды след мною і заяўлена,—у паліцыю. З божай дапамогай думаю днямі з онай справай управіцца і адбыць ва-сваясі—са спадзяваннем заслужыць вашу ўвагу—дабрадзея майго і заступніка. За сім маю гонар быць, міласцівы гасудар мой, ваш слуга і былы прыгонны—купец 3 гільдзіі Нікіта Падкапаеў".

Калінкін усміхнуўся і знайшоўшы на стале агрызак алоўка, размашыста напісаў на пісьме:

„Удалося цяляці ваўка спаймаці".

На грамаце з царскім подпісам ён зрабіў прыпіску:

„Не за прырост казённага інтарэсу, а за зладзейства і хабары выдана сія грамата. А калі ўладальнік онай сустрэнецца мне, я гатовы давесці, калі павешу яго на перакладзіне. Сапраўднасць гэтага засведчыў сваім подпісам уцёкшы жывапісец Калінкін, а за адсутнасцю пячаткі—плюнуў і на грамату і на яе ўладальніка".

У калідоры пачуліся галасы. Засланяючы свечку далонню, Мартын расчыніў дзверы і ўбачыў мужыкоў. Карней першым увайшоў у кабінет і гучна зарагатаў:

— Здарава жывеш, гаспадар! Прымай гасцей...

— Будзьце гасцьмі, даўно вас чакаю!

Ззаду паказалася шырокая барада старога са стрэльбай.

— А мы, Мартын Іванавіч, адразу нарачнага паслалі, як ты прыйшоў.

— А-а, барада, і ты тут. А чаму-ж ты хацеў падстрэліць мяне?

Стары сумеўся.

— Ды, бач, аблічча тваё мне незнаёма, кармілец, а тут французы лезлі. Ну, і вядомая справа...

Мартын паказаў на канапу і крэслы.

— Сядайце, браткі, на барскае.

Стары засмяяўся, паставіўшы побач дапатопную сваю стрэльбу.

— Куды з дабром, як на падушцы!—захапляўся ён, прабуючы заскарузлымі пальцамі аксамітную абіўку.

Стась Галка, загарэлы і абросшы першым пушком, выдаваў узмужнелым. У вачах яго з'явіўся задорны бляск. Ён глядзеў на Мартына ласкавым позіркам і пaціху гаварыў:

— Ах, пане Мартын, як добра, што вы прыехалі. А мы ўжо біліся, я забіў аднаго француза і забраў гэтую шаблю.

З расказаў прышоўшых высветлілася, што тыдзень назад усе пагарэлаўскія мужыкі з бабамі і дзецьмі, забраўшы набытак і жывёлу, падаліся ў лес і аснаваліся там лагерам. Да іх далучыліся дзесяткі са два сем'яў з Авіноўшчыны і Крукава. Некалькі разоў ім прышлося адбіваць напады марадзёрскіх банд. Самі яны пакуль нападаць не адважваліся, ды і стрымліваў іх дыякан Егор, які даводзіў, што без зброі іх паб'юць. Нехта прапанаваў шукаць зброі ў памешчыцкіх маёнтках, але Егор забараніў катэгарычна чапаць маёнткі. Цяпер Егора забілі і яны не ведаюць, як быць?

Гэтай-жа начы Мартын з мужыкамі накіраваўся ў лагер. Мясцовасць яму не спадабалася. Лагер знаходзіўся ў балоце і быў нязручным для абароны. Раніцай ён адправіў палову баб у вёску, а сам, узяўшы дзесяткі два мужыкоў, пайшоў па хлеб.

У Крукаве, куды прышлі яны, упраўляючы-немец сабраў дваровых і засеў ля дзвярэй свірна з паляўнічым штуцэрам.

— Не падыходзь, я кожын буду страляйт!

Мужыкі пераглянуліся, на тварах у некаторых мільганула трывога. Мартын рашуча падышоў да ўпраўляючага.

— Я буду страляйт!—крыкнуў той і ўскінуў штуцэр.—Я маю загад.

— Чый загад?..—раззлаваўся мастак.

— Загад ад французскага камандавання.

— А ну, пакажы паперу!—загаварылі мужыкі.

Не выпускаючы штуцэра, упраўляючы выцягнуў з кішэні паперу. Мастак ступіў крок і, працягнуўшы руку, нечакана тузануў за штуцэр. Упраўляючы збянтэжыўся, але, апамятаўшыся, кінуўся на Мартына. Ззаду на плечы яму, як кошка, ускочыў Галка і або-

два ўпалі. Іх хутка разнялі. Адсопваючыся, немец раз'юшана лыпаў вачыма.

— Я іду скардзіцца, разбой!

— Ах, ты! Скардзіцца, скаціна! Ты будзеш скардзіцца?—паціху сказаў Калінкін і падышоў упоравень.

— Я меў загад імператар Напфалеон.

— Хлопцы, гэта свіння народ крыўдзіла?—звярнуўся ён да дваровых. Тыя разгублена пераглянуліся, адзін няўпэўненым галасам азваўся:

— Дваровых крыўдзіў не вельмі, ну, а мужыкоў—вядома. Прыдуркаваты немец. І да баб ахвочы...

— Ну, калі так, хай ідзе скардзіцца лысаму чорту. Спусціць яму штаны і крапівай, крапівай, каб не распуснічаў больш.

Са смехам і агаканнем ўпраўляючага пацяглі на задворкі ў крапіўны зараснік. Хутка адтуль пачуўся візг і гучны рогат. Не звяртаючы ўвагі, Мартын чытаў паперы. Гэта быў загад Напалеона ад 5 ліпеня насельніцтву занятых ім абласцей. Яго асабліва зацікавіла адно месца, дзе гаварылася:

„Усе сяляне і земляробы абавязаны слухацца сваіх памешчыкаў, уласнікаў і арандатараў маёнткаў або асоб, што іх заступаюць, абавязаны нічым не парушаць панскай уласнасці, адбываць работу і павіннасці".

Мартын схаваў паперу і рашыў абавязкова прачытаць яе мужыкам у лагеры.

У Крукаве яны ўзялі ўсю, што была, муку і верхавых коней; у Пагарэлым—таксама.

Мартын аддаў бабам загад пячы хлеб на ўвесь лагер. Коней ён размеркаваў паміж маладымі мужыкамі і хлапцамі і склаў конную поўсотню.

Праз дзве гадзіны лагер зняўся і, пераправіўшыся цераз Днепр, стаў паміж вёскамі Асташкавым і Гарадзішчам, на беразе рэчкі Вязьмы. Гэта быў густы сасновы бор і пасбішча для жывёлы. Пешыя, што асталіся ахоўваць лагер, пачалі капаць зямлянкі, а конныя на чале з Мартынам рушылі да Алексіна.

У гэтыя дні руская армія ўступіла ў Мажайскі павет, Маскоўскай губерні; да яе далучыліся маскоўскае і смаленскае апалчэнні. А роўна праз чатыры дні—26-га жніўня—прагучэў гром Барадзіна. Французы, добра ўзброеныя, не паспытаўшыя паражэнняў, упэўніліся пры Барадзіне, што супраціўнік іх таксама дужы.

Напалеон пайшоў на Маскву, робячы другую памылку. Ён так і не зразумеў, што ваюе ўжо не з бяздарным Александрам, а з усім рускім народам, якога ні фізічна, ні маральна ніколі не зламаць. У Маскве ён загадаў расшукаць архіўныя звесткі аб паўстанні Пугачова, доўга вагаўся і не ведаў—ці то даць волю прыгонным, ці то ўзняць паўстанне казанскіх татар або паўстанне на Украіне. А ўжо паўставала новая хваля і гул яе разрастаўся з кожным днём. Гэтая хваля была партызанскім рухам.

Вестка аб Барадзіне дайшла да Мартына адначасова з весткай аб узяцці Масквы. Быў пачатак верасня, зранку пайшоў дождж і ішоў увесь дзень. Мартын са сваім атрадам, які налічваў цяпер

75 чалавек, спыніўся нанач у Няелаве. Увесь гэты час ён кружыў па Дарагабужскім павеце. Часам ім сустракаліся групы марадзёраў, якія, змеціўшы конных, хутка хаваліся. Разы два былі нязначныя сутычкі.

Шэрая заслона дажджу скрозь завесіла гарызонт, атрад уехаў у нейкую забытую вёску. Было ў ёй не больш дзесятка двароў— настолькі згалелых і бедных, што, здаецца, горай і прыдумаць нельга. Але штосьці роднае і забытае нагадала Мартыну гэтая вёска. Злева—нізіна, па якой увесну і ўвосень мусіць ні прайсці, ні праехаць. Сям-там на ёй кусты алешніку і асака. Перасякаючы нізіну, бяжыць вузкая звілістая рэчка. Хаты, як на падбор, падпёрты каламі, а саламяныя стрэхі абдзёрты. Але што-ж, што нагадалі яму гэтыя паламаныя вароты, ваколіцы, мычэнне цяляці, якое, відаць, забыліся загнаць, падслепаватыя аконцы і гэтая хісткая грэбля? З якой забытай казкі ці песні гэтае нізкае шэрае неба, воблачка, рэчка з асакой і гарэністы пах дыму? Вёска... Радзіма...

У акне аднае хаты мільгануў устрывожаны бабскі твар. Жанчына карміла грудзьмі дзіця. Мартын пастукаў рукаяткай нагайкі па касяку.

— Цётка, гэй, абзавіся! Што за вёска?

Ніхто яму не адказаў. Нават тужліва мычэўшае цяля і тое замаўчала.

Мартын паехаў далей.

„Ах, ды ці не ўсёадно?—усе гэтыя Бабылёўкі, Глінкі, Забалаткі, Макрушы, Кароўнікі—на адзін капыл. Кароўнікі... Вось-вось, нарэшце, ён успомніў. Гэта безназоўная вёска цот-у-цот падобна на Кароўнікі. Зараз мінуць яны яе і лес стане яшчэ бліжэй, направа будзе ўзгорак, вузкія пясчаныя палоскі, межы, зарослыя травой і дарога ў Лугі. А налева, праз лес і тая сцяжынка, па якой у раннім маленстве ён ішоў з маткай у маёнтак сямёнаўскай барыні. Радзіма! Якое радаснае і магутнае слова! Яно поўна значнасці, як першыя словы, якія вучыліся мы паўтараць у маленстве. Радзіма... Гэтае слова шаптаў ён калісьці ў шумным Парыжы і ў спякотлівай Італіі, зныва ючы ў тузе па гэтых родных кутках!

Атрад завярнуў да гумнаў, каб перачакаць дождж. Коней, спутаўшы, пусцілі на вытаптаны авёс. Мартын прылёг ля варот на бярэмя жытняй саломы. Стась і два маладых хлапцы, не зважаючы на дождж, пайшлі на агароды. Хутка адзін з іх вярнуўся і прынёс жоўтых крывых агуркоў. З гучным хрумстам ён жаваў іх і абвясціў, што на агародах ёсць і рэпа, але паміж град невылазная гразь і рваць нязручна. Некалькі чалавек усё-ж усталі і пайшлі здабываць рэпу.

Мартын не чуў і не заўважаў нічога, гледзячы праз расчыненыя вароты на кроплі дажджу, якія скакалі на таку. Ён быў далёка са сваімі думкамі і нават не бачыў, як хлапец, рупліва абцёршы два агуркі, паклаў іх перад ім на салому. Ён нешта сказаў; Мартын павярнуўся з усмешкай і раптам нахмурыўся. Двое дваровых, што некалькі дзён назад прысталі да атрада, курылі ў кутку.

— Гэй, хлопцы, хіба харошы гаспадар паліць у гумне цыгаркі?

Абазваліся глухія мужыцкія галасы:

— Ды мы-ж, Мартын Іванавіч, ім казалі, абармотам, што ў гумне салома. Агонь, ён не жартуе, а гумно мужыку...

Нейчы злы і высокі голас пакрыў астатнія.

— Каму кажу, сучы сын, кінь цыгарку?!

Курцы, сумеўшыся, затапталі папяросы.

Мартын адвярнуўся і хацеў задрамаць. Але нечакана пачуўся выстрал і крыкі з вёскі. Стась, размахваючы рукамі і вязнучы ў рыхлай агародняй зямлі, нацянькі бег да гумна. Засопшыся, ён вымавіў толькі два словы:

— Французы, пане!

Мартын не паспеў аддаць загаду, а мужыкі, як адзін ужо імчаліся да вёскі.

Мінуўшы агароды і пераскочыўшы нейкі плот, Мартын разам з усімі выбег на вуліцу. Ля разламаных варот ваколіцы трое канаводаў трымалі коней. Мартын схапіў за плячо Дзёмку, які бег наперадзе і павярнуў у той бок. Той адразу зразумеў і кінуўся да коней, за ім пабеглі некалькі мужыкоў.

Два французы ў сініх мундзірах валаклі цяля, а на задворках кудахталі куры і чуўся бабскі плач. Насустрач французам па вуліцы басанож і без шапкі бёг стары. Ён віскатліва, па-дзіцячаму крычаў, паказваючы назад—жудасць і злосць былі напісаны на хударлявым яго твары. Ля ганку, раскінуўшы сівыя валасы, валялася адсечаная галава.

Прабегшы далей, Калінкін убачыў, як высокі, вусаты сержант валок да хлява жанчыну. Мартын нагайкай ударыў яго па галаве і выхапіў палаш. Закрычаўшы яшчэ пранозлівей, баба ўпала ў гразь. Прыглушаны ўдарам, француз усё-ж утрымаўся на нагах і ў тую-ж хвіліну выхапіў шаблю. Мастак не быў прывыкшым да халоднай зброі, але ярасць прыдала сілу яго руцэ і праз хвіліну француз, прыціснуты да агарожы, упаў з рассечаным тварам.

Азірнуўшыся, Мартын убачыў, што жанчына, падняўшыся на ўзлакоткі, глядзіць на забітага шалёнымі вачыма.

— Што—слабая на расправу, маладзіца, напалохалася?—пажартаваў ён, дапамагаючы ёй падняцца. Але баба не магла гаварыць і ўся трымцела. Сарочка на ёй была падрана. Прыкрываючы рукой грудзі, яна кінулася да хаты.

Лічачы канаводаў, забітых было 30 чалавек. Як пазней высветлілася, гэта быў воінскі канвой, дадзены спецыяльнаму кур'еру. Галодныя салдаты ўцяклі ад яго і пачалі рабаваць.

Успамінаючы аб сутычцы ў вечары ў Няелаве, Мартын здзіўляўся, як павесялелі мужыкі пасля бою. Усе яны набіліся ў хату, дзе спыніўся Мартын і выхваляліся адзін перад другім здабытай у непрыяцеля зброяй. У печы, якая займала чвэрць хаты, баба варыла арцельную поліўку. Чарнабароды, малады мужык—яе муж—шчапаў тупым нажом лучыну, а дзяўчынка гадоў пяці, выпучыўшы жывот, цягнула матцы скавародку. За акном, фыркаючы, тапталіся коні. На печы, звесіўшы ў стаптаных і залатаных валенках ногі, сядзеў сляпы дзед.

— Міцька!—паклікаў ён працягла.—Здымі-тка!

Мужык пакінуў лучыну і, узяўшы на рукі старога, як малое дзіця, зняў яго з печы.

Стары абмацаў лаву і сеў, абцягнуўшы зрэбную да кален кашулю.

— Міцька, дзе-ж ты, унучак?

— Вось я,—узяўшы яго за руку, абазваўся мужык.

— Дзе-ж той ваіцель—пакажы мне?

— Іванавіч, дзед Сафрон хоча гутарку мець!—звярнуўся мужык да Мартына. Той падышоў.

— Што табе, дзед?

— Сядзь, браце, сядзь. Дай пагляджу на цябе. Сядзь...—стары абхапіў яго за пояс і стаў садзіць. Рукі яго, дробна перабіраючы, пабеглі ўгору, затрымаліся на плячах, дакрануліся шыі, а потым прайшлі па твары.

— Ну, так. Сядзь, галубок. Дык гэта ты і ёсць Мартын—сын Домны?

— Але, гэта я, дзед.

— Ведаў матухну, ведаў,—царства ёй нябеснае, вечны спакой.— Стары перахрысціўся і сеў зручней.

Мартын раптам адчуў сябе маленькім і нібы вінаватым. Мужыкі, сцішыўшыся, глядзелі на старога, а ён павярнуўся да печы і загадаў:

— Міця, скажы бабе, каб яечню госцю смажыла. Ды світку, світку высушы на печы. Бач, увесь мокры,—крануў ён рукаў Мартына,—здымі-тка, застудзішся.

Мартын паслухмяна распрануўся.

— Ну, так. Што-ж, ты за матулю злосць маеш, ці сам па сабе?

— За ўсіх злосць маю, дзед—і за матулю, і за сябе, за ўсіх—разумееш?

— Ага, ага. Бач, я да чаго—тут усякае супроць цябе плятуць.

— Сабака брэша, вецер носіць...

— Во! так я разумею: сам ты мужык і мужыка павінен ведаць. Жыву я, голубе, дзевяноста аж сёмы год і трыццаць з гакам не бачыў свету белага; біты я і не злічыць колькі, і гарэў і тапіўся і мёрз... І вось кажу я табе: за тое, што мужыка ты заступнік, на тым свеце ўважаць працу тваю. Ну, так. Што, бач, я хацеў, ах, памяць курыная... Ага! Не ў час пачаў ты, Мартынушка. Бяды прымеш, ох, шмат бяды, ясачка. Тут, бач, загвоздка ў чым: узлавалі цар ды царскі брат Канстанцін мужыка сярдзітага, ды, бач, ты і прывялі ў Маскву—матухну. Гэта як разумець, а? Раскінь мазгамі. Вось-та. Ну, скажам, бунтавалі мы ў семдзесят чацвертым годзе, пасылалі хадакоў і да Орлова і да князя Паўла Пятровіча, падпісалі просьбу нашу тады тры папы, тры дзякі, панамар і земскі пісар—а не дапамагло. Праўду кажуць, да бога высока, да цара далёка. Але затое, як прыехаў з камандай маёр Зарын для суцішэння, а мы не будзь дурнямі—ды як рынулі грамадой, дык толькі порткі яго мільганулі. Ну, вядома, пасля гэ-

тага не пашкадавалі і нас—колькі саслалі ў Сібір, ды бізунамі засеклі—і не памятаю ўжо. Мяне, вось разы тры, здаецца, сцёбалі, а напаследак і вочы выбілі. Астаўся я ўпоцемках, таму і не саслалі. Ну, так. Пра што-ж гэта я? Вось і разумей, кажу,—мужыка ўсе душаць—і барын і француз, а заступіцца няма каму. Ну, заваююць нас, што-ж ты думаеш,—палёгка будзе? Дзе там! Пан ды памешчык як жылі так і жыць будуць, а мужык, што аўца, яго і барын-сабака і француз-нехрысць стрыгчы будуць,—вось і лезь у пятлю.

Мартын успомніў пра загад французаў аб паслушэнстве памешчыкам, што даў яму крукоўскі ўпраўляючы, і адчуў у словах старога праўду.

А Сафрон, не змаўкаючы гудзеў, хапаючы яго за плячо.

— Ты, Мартынка, хоць і ў гадох, але розумам не дайшоў таго, што ведаю я. Ты паслухай мяне, чорта старога, ды на вус наматай. Перш-на-перш мужыкоў збяры пабольш, ды парадкі навядзі, каб па струне хадзілі і каб сваявольства—ані. Так. І з божай дапамогай бі нехрыстаў. Мы іх не звалі, самі прышлі. А як скончыцца смута, вось тады ўжо, голубе, не зявай. Тых мужыкоў, якія кемлівей, бяры на прыметку. Бяры, кажу, ды пасля вайны і пачынай.

На стале шыпела ўжо яечня, уселіся мужыкі, а Сафрон усё гаварыў. Мартын слухаў яго і адчуваў, што стары гаворыць праўду.

Скончыўшы, Сафрон пачаў штурхаць яго да стала.

— Загаварыў я цябе, сядай, падмацуйся. На сыты жывот і думаць весялей.

— Эх, дзед, не да яды мне.

— А ты сядай, сядай, прыняволься. Справа вялікая твая, не лёгкая справа.

Есці Мартын не мог. Ён задумліва глядзеў на скураную сумку, што ляжала побач. Сумка была знята з забітага ім сержанта, а ў ёй—пакеты галоўнага штаба на імя Беррага-д-Ільера*). Хутка прагледзеўшы іх, ён зразумеў, што звесткі надзвычай важныя. Справа датычылася нарыхтоўкі правіянта і стратэгічнага перамяшчэння войск на участку Смаленск—Масква. Мартын разумеў, што пакеты неабходна зараз-жа адправіць каму-небудзь з начальнікаў ваенных часцей. Але каму? Дзе зараз рускія—ён не ведаў. Учора данеслі, што ля сяла Токарава з'явіўся змешаны атрад салдат і мужыкоў пад камандай афіцэра Давыдава, але дзе ён зараз—невядома. Былі таксама звесткі, што паміж Дарагабужам і Вязьмай дзейнічаюць і іншыя партызанскія групы, але сустракацца з імі пакуль яму не даводзілася.

Мужыкі вячэралі, паціху гутарылі, а Мартын перачытваў паперы. І тое, што бачыў ён, што зазнаў і перажыў за гэтыя апошнія месяцы, набывала цяпер больш рэальны сэнс. Так, праўду кажа стары—з гэтага часу лёс яго звязан з гэтымі людзьмі. Не ў адзіночку, а толькі з імі, з народам, ён зможа перамагчы. Не-

*) Камандаваў французскай дывізіяй, якая засталася ў Смаленску, ваенны губернатар Смаленскай губерні.

здарма, сёння малюнак забытай вёскі так усхваляваў яго. Нездарма павесялелі мужыкі пасля ўдалага бою. О, не, ён, Калінкін, як і гэтыя людзі,—перш за ўсё рускі, хаця і раб. Але было-ж, нават у старажытным Рыме, калі рабы прымушалі трапятаць паноў. А пакуль...

Вырваўшы лісцік з запісной кніжкі, ён хутка напісаў:

„*Камандзіру атрада партызан Давыдаву.*

Ваша благароддзе!

Групай сялян розных вёсак памешчыка Барышнікава сёння знішчан французскі конны атрад да трыццаці чалавек. На адным з забітых мною знята сумка з паперамі. Не ведаючы месцазнаходжання нашых войск, я пасылаю з нарачным спамянутыя паперы, Вам, ваша благароддзе, для ўручэння па прызначэнню, бо па разуменню майму оныя паперы могуць уяўляць ваенны інтарэс. Павінен дадаць, што атрад мой колькасцю да пяцідзесяці чалавек конных мае намерам і бліжэйшай сваёй задачай атакаваць Болдзінскі манастыр, дзе па чутках непрыяцель трымае шмат рускіх палонных. Калі ваша благароддзе падтрымае нас якой ні на ёсць дапамогай у сей наступальнай экзертыцыі,—буду вельмі ўдзячны, бо лічу ў ваеннай справе сябе недасведчаным і за навуку змагу аддзякаваць.

Былы жывапісец *Мартын Калінкін*".

Ён паклаў запіску ў сумку і тае-ж ночы Карней з двума мужыкамі выехалі, каб перадаць паперы па прызначэнню.

*Адам Русак*

# ЗАСТОЛЬНЫЯ ПЕСНІ

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ!

Добры дзень усім вам,
Шаноўныя госці!
Дзякуем, што к нам вы
Прыбылі у госці!

Дазвольце-ж вы нам вас
Ды павіншаваці,
Добраю часінай
Вяселле пачаці!

Каб бор разлягаўся,
Каб гэтак гулялі,
Каб мы ні на кога
Не маракавалі.

Рады-ж мы нямала
Ды нашаму святу,
Што мы назбіралі
Гасцей поўну хату.

Рады-ж мы, што ёсць чым
Вас пачаставаці,
Будзем мы шчаслівы
Вяселле гуляці.

Ды ня мала чэсці
Ад таго нам будзе,
Што ў нашым банкеце
Ды знатныя людзі.

Маладым-жа нашым
Жадаем найболей
Ад шчырага сэрца
Шчасця, добрай долі.

Каб жылі у згодзе,
Дзетак гадавалі,
У сваёй сямейцы
Бацькоў шанавалі.

А яшчэ жадаем
Да працы ахвоты,
Пруткасці у жылах,
Сілы да работы.

Каб бяды не зналі
Каб жылі ў дастатку,
Каб усё ў жыцці ў вас
Ішло па парадку.

Каб людзей вы добрых
На свеце любілі
І каб вас, таксама,
Людзі не забылі.

Вашага вяселля
Доўга мы чакалі,
Цэлымі гадамі
Каравай збіралі.

Ткалі мы абрусы,
Гатавалі скорам,
Бо каб не было нам
На вяселлі сорам.

Ледзьве на вазы мы
Яго паўскладалі,
Коней па дзве пары
Везці запрагалі.

Па гладкай дарозе
Ламалі калёсы,
Прыставалі коні,
Рваліся атосы.

Везці саматугам
Не здужалі самі,—
Каравай прывезлі
Мы вам трактарамі.

Дык прыміце-ж наш вы
Дарагі здабытак,
Дары-падарункі
Сабе на спажытак!

Дык заграйце-ж вы нам,
Нашыя музыкі!
Ды пачнем вяселле,
Наш мы баль вялікі.

Падымайце чаркі,
Шаноўныя госці,
Будзем рады ўсе мы
Нашай весялосці!

Што нас не забылі,
Дзякуем за гэта,
Маладым-жа нашым
Жыць многія лета!

## А Ў МАЛАДЫХ НАШЫХ ДЫ СВАЯКОЎ ШМАТ

А ў маладых нашых
Ды сваякоў шмат,
З кожнага калгаса
Ды па дзесяць хат.

Сталі-ж маладыя
Нашы аб'язджаць,
К сабе на вяселле
Гасцей запрашаць.

Ездзілі,ззывалі
Ды на ўвесь раён,
Страцілі ў дарозе
Яны дзесяць дзён.

З'ехаліся-ж госці
Ды ў цэлы абоз,—
З кожнага калгаса
Ды па дзесяць воз.

Сустрэлі пачэсна,
Як патрэбна, іх—
З музыкаю, з песняй—
Гасцей дарагіх.

Расселіся-ж госці
На дзесяць сталоў.
А наш сват пачэсна
Ды парадак вёў.

Стаялі гарамі
На кожным стале
Дзесяць караваяў,
Пірагі і хлеб.

Гулялі-ж веселле
Госці дзесяць дзён.
Не сціхаў у хаце
Песень перазвон.

Было што і выпіць
Было і закусіць.
Нам ваша вяселле
Навек не забыць.

Няхай-жа красуе,
Бы ўвесну сады,
У радасці, шчасці
Жыццё маладых!

*Р. Мурашка*

# ПАД ТРЫМА ШКУРАМІ

(Апавяданне)

Маёвага яснага дня з неглыбокай Свіслачы ў Менску дасталі цела незнаёмае тапельніцы ў балетках. З твару і з галавы знятая нейкай вострай рэччу скура агаляла чэрап. Усё сведчыла аб жудасным гвалце над чалавекам. Каб не падраная ўся жаночая сукенка, дык адразу нельга-б і пазнаць, што то была жанчына.

Яна ляжала паміж аскубанага альховага куста і старое высокае вярбы. Вярба напалову сасхла пад летняю спёкаю, гарачымі лютаўскімі маразамі ды чорствымі ўсходнімі вятрамі. І толькі пучок зялёнага лісця на самым вяршку ўпарта выказваў прагу да жыцця. У тым зялёным пучку прытуліўся баязлівы шэры верабей. Ён адчуваў сябе там мабыць у гэтакай дабрыні пад высокім блакітным небам, што заціліўкаў бесклапотную песню пра сваё радаснае і вясёлае птушынае жыццё. Яго не кранала чалавечае гора пад вярбою. Ды як праўда, там і гора ніякага не было. Там была смерць, да якое не мелі дачынення ўсе гэтыя людзі, што прышлі паказаць сваю мізэрную цікавасць. Там ніхто не прыказваў, не плакаў над згвалтованым целам няшчаснае незнаёмае жанчыны ў белых балетках, і смерць яе была толькі пралётнай сенсацыяй для задаволення мізэрнае людское цікавасці. І аднак свет быў шырокі, і шэры верабей ціліўкаў аб сваім бесклапотным птушыным жыцці, утуліўшыся ў зялёным пучку лісця ўпарта жывучае старое вярбы. І сонца палівала трапяткім цяплом набрынялую зямлю і выклікала магутную радасць жыцця.

Людзі змянялі адзін аднаго, як на пачэснай жалобнай варце, пакуль не прыспеў інспектар крымвышуку, на якога ўсклалі абавязак упарадачыць справу з тапельніцай.

---

Начальнік крымвышуку слухаў безуважна, што дакладваў яму інспектар па справе забітае. Яго думкі былі і тут з ім і адначасна недзе далёка. Нарэшце ён прымусіў сябе прыслухацца да голасу інспектара і акрэсліць напрамак яго думак.

— Добра, вы кажаце, што ўсе даныя ў справе за падрыхтаванае жорсткае забойства. Мэта? Кожнае, Іван Іванавіч, забойства ўчыняецца з нейкаю мэтаю. Вось-жа памятаеце злачынства ў артапедычнай майстэрні на Совецкай вуліцы. Усё чын-чынам, у па-

радку: майстэрня на замку, прыбратая, на кладовай сургучовыя пятачкі, а вартаўніка няма, знік вартаўнік. І ўсё-б добра, каб не прыбратая майстэрня, яна якраз не павінна была быць прыбратай. А вы-ж памятаеце, высветлілася, што вартаўнік забіты, пасечаны сякерай на кавалкі і запхаты ў печку, і тады злачынцу спатрэбілася прыбраць майстэрню, замыць кроў. Што-ж высветлілася далей? У кладовай не ставала багата дарагога шкуранога тавару. Пакрасці так, каб не закрануць сургучовых пячатак на дзвярах, мог толькі спецыяліст свае справы. Высветлілася, што пячаткі здымаліся тонкім нажом і потым падагрэтыя зноў наклеены на тое самае месца. Спачатку, як бачыце, была загадкавая справа: прыбрата, падмыта майстэрня, калі яе ніхто не загадваў прыбіраць, знік начны вартаўнік з замкнёнае майстэрні, майстэрня на замку і пячаткі на дзвярах кладовае,—усё як след. А высветлілася, што вартаўнік забіты і мэта забойства—знікненне дарагога тавару. Своеасаблівыя прыёмы работы навялі на след выпушчанага задзень перад тым з турмы вядомага спецыяліста па такіх справах. Зусім не складаная справа, Іван Іванавіч. Гэтак і тут. Важна высветліць мэту забойства. Як вы думаеце?

— Гэта бліскучы аналіз, начальнік, я схіляю галаву перад вамі. Гэта ўзор крымінальна-следчае логікі. Але... тут...—Іван Іванавіч спатыкнуўся раптам і плынная рака яго думак на момант прыпынілася.—Калі разважаць... груба, тут, у нашым выпадку, можна думаць толькі пра звычайную сямейную драму.

— Відавочна, вы маеце рацыю,—вяла заўважыў начальнік, абыякава сустрэўшы захапленне Івана Іванавіча яго аналізам забойства ў майстэрні.—А скажыце,—пажвавеўшы раптам загаманіў ён зноў,—скажыце, Іван Іванавіч, якая розніца паміж індзейскімі прэрыямі Паўночнае Амерыкі мінулага стагоддзя і Менскам сёнешняга дня?

Інспектар аталапеў. А ці ўсё ў яго ў парадку, у гэтага начальніка. Але, баючыся паказацца недалікатным, сказаў:

— Ваша запытанне нагэтулькі афарыстычна, што я баюся...

— Ну, глупства, вядома,—весела перапыніў начальнік, зірнуўшы ў твар Івану Іванавічу,—я задаў недарэчнае запытанне. А ўсё-ж такі жорсткасць, з якою адабрана жыццё ў гэтае няшчаснае жанчыны, міжвольна навейвае смутак.

Самотныя цені забегалі па твары начальніка і ў голасе прагучэлі лірычныя ноткі.

Інспектару здалося, што начальнік нездаволены нечым, бо такія раптоўныя перамены ў настроі, як сёння, сведчылі, як заўважыў Іван Іванавіч, заўсёды, што ён нездаволены. Хціўым позіркам мацнуў ён па твары начальніка і цягутка праказаў:

— Перажыткі старога свету, таварыш начальнік, яшчэ нярэдка вельмі жывучыя ў свядомасці і паводзінах людзей, і ўчынкі часам не маюць межаў па сваёй звярынай жорсткасці.

— Злачынныя ўчынкі, Іван Іванавіч,—мякка сказаў начальнік,—злачынныя ўчынкі. Аднак я вас больш не затрымліваю. Ваша версія, бадай, заслугоўвае ўвагі. Працуйце ў тым-жа напрамку.

Інспектару здалося гэтулькі кпіны ў голасе начальніка, што ён

не мог наважыцца зірнуць таму ў вочы. Але працягнуў для развітання руку. І, паціскаючы яе, Іван Іванавіч адчуў, што яму зрабілася лягчэй на сэрцы. Іронія, здавалася яму,—апошніх слоў начальніка развеялася. Праз адчыненае акно кабінета ўвайшлі з вуліцы шум і гоман сумятлівага жыцця. Прагрымеў неакуратна браскатлівы трамвай, і пявучыя гукі аўтамабільнае сірэны мякка напоўнілі пакой.

— Працуйце ў тым-жа напрамку,—праказаў услед Івану Іванавічу другі раз начальнік.

Калі толькі за Іванам Іванавічам зачыніліся дзверы, начальнік выклікаў маладога агента, нядаўна прынятага на работу.

— Таварыш Сіневіч... Калі вы згодны выканаць адно даручэнне, дык вам будзе забяспечана шырокае поле дзейнасці і ініцыятывы. Гэтая скальпаваная жанчына не выходзіць у мяне з галавы. Выкрыць злачынцаў—справа нашага гонару. Некалькі хвілін таму назад я спадзяваўся пачуць аб гэтым жудасным здарэнні штонебудзь новае, што асвятліла-б з новага боку ўсю справу. Іван Іванавіч Шкуцько—стары і вопытны работнік крымвушуку і я не хачу яго крыўдзіць. Вы—комуніст, як і ён, і павінны разумець: інтарэсы работы павінны быць вышэй дробных асобных інтарэсаў і настрояў. Карацей, я вам даручаю вядзенне гэтае справы зусім аўтаномна, незалежна ад Івана Іванавіча. Усё, што вам спатрэбіцца, вы атрымаеце ў мяне і ўсе здабытыя матэрыялы аддаеце толькі мне. Што вы хацелі-б сказаць?

— Таварыш начальнік, мне астаецца толькі падзякаваць вам за давер‘е, з якім вы паставіліся да мяне.

— Не дзякуйце, вы павінны заслужыць яго. Вазьміце вось гэтую папку з матэрыяламі, прагледзьце ўважліва.

І на гэтым гутарка маладога агента з начальнікам скончылася.

---

У тым, што начальнік даручыў справу пра скальпаваную тапельніцу, калі гэтым займаўся вопытны крымінальшчык і паважаны Іван Іванавіч Шкуцько, маладому і малавопытнаму агенту Сіневічу, не заключалася ніякага схаванага сэнсу. Зрабіў ён гэта не проста ў піку Івану Іванычу за тое, што не прынёс ён ніякіх новых вестак за апошнія дні, не, ён выходзіў зусім з інакшых меркаванняў і інтарэсаў. Ён паважаў Шкуцько, як старога работніка крымвышуку, які даўно зжыўся са ўсімі і якога гэтак даўно лічылі ўсе за аўтарытэтнага члена свае службовае сям‘і, што нівошта здавалася больш непатрэбным для характарыстыкі Івана Іванавіча Шкуцько, старога крымінальшчыка і комуніста. За апошнія гады ў крымінальны вышук прышлі новыя кадры маладых работнікаў. У тым не хавалася нічога абразлівага для старых работнікаў, як Шкуцько. Жыццё ўпарта ідзе наперад і абнаўляецца—маладыя кадры, што прыходзяць паступова на змену старэйшым, самі састарэюць і іх зменяць новыя. Дык вось, калі-б Шкуцько нават і ведаў пра апошняе распараджэнне начальніка, яму не было-б падставы крыўдаваць. Тым не менш, начальнік не палічыў патрэбным пра даручэнне, якое даў маладому агенту і комуністу з рабочых Сіневічу, сказаць Івану Іванавічу. Ен ухіліўся нават, каб даць зра-

зумець таму, што ад яго патрабуецца большая актыўнасць, інакш... Не, Сіневіч не з'яўляўся ніякай каверзай для вопытнага Івана Іванавіча, як нічога каверзнага не было і ў запытанні начальніка пра амерыканскія прэрыі мінулага стагоддзя і Менск сёнешняга дня.

Начальнік напэўна хацеў падкрэсліць важнасць справы, і лірычныя ноткі ў яго голасе прагучэлі зусім не фальшыва. Трэба было разумець, што твар, аблічча забітае жанчыны адыгрывала велізарную ролю ў невядомай, загадкавай гульні нейкіх элементаў. У аблічча жанчыны заключалася адгадка. І, пэўна таму злачынца забраў з сабою гэты сакрэт.

---

Малады агент пачаў з невялікага. Ён вырашыў устанавіць, хто гэтая гвалтоўна пазбаўленая радасці жыцця тапельніца. Не ўважаючы на досыць нязграбную постаць, ён выказаў у сваіх рухах незвычайны спрыт. Першым крокам было наведванне гарадское міліцыі. Там адказалі, што ў межах гораду не загінула ні адна з гарадскіх грамадзянак, і што такі факт ім быў-бы вядомы праз два-тры дні. Не асабліва пакладаючыся на адказ, Сіневіч паказаў яшчэ большую дасціпнасць, і сам пайшоў па аддзяленнях міліцыі. Там ён меў магчымасць сустракацца і гутарыць нават з квартальнымі. І, однак, дзень у яго прапаў дарма—аддзяленні не паведамілі нічога новага. Усе грамадзянкі горада Менска былі на сваім месцы—за прыкрамкамі магазінаў, на фабрыках і заводах, на рыштаваннях будаўніцтваў, у сталовых, пральнях, у інстытутах, больніцах, кіравалі дзяржаўнымі ўстановамі, вадзілі па вуліцах трамваі, на прыгожым шоўку парашутаў спускаліся з серабрыстых воблакаў на квяцістую вясновую зямлю, і пільна стаялі на варце аховы хатняга парадку. Менскія грамадзянкі былі акуратнымі жыхарамі свайго горада і не гінулі без следу і без ведама. Яны будавалі краіну, нараджалі і выхоўвалі новых будаўнікоў, яны стаялі на варце свае бацькаўшчыны.

Што за адна гэтая няшчасная жанчына без аблічча ў пашкумачаным адзенні і белых балетках? Без поспеху не раз задаваў сабе запытанне малады агент. Падранае плацце і белыя балеткі... Хіба гэта магло навесці на які кольвечы след у такой заблытанай справе? Хіба белыя балеткі такая рэдкая з'ява ў жаночым побыту?..

Наступны дзень не даў таксама нічога новага. Міліцыя, як і раней, адказвала, што загінуўшых без весткі жанчын у іхных аддзяленнях і кварталах няма. Адна надзея знікла...

Ён рэгулярна прачытваў аддзел здарэнняў у газетах. Ён звяртаўся да начальніка, ці не паступала чаго з штодзённай поштай з іншых гарадоў. Не, не паступала. Ну, але-ж не з Марса ўпала ў Свіслач гэтая кабеціна. У якім-небудзь горадзе або ў сяле зніклаж аднойчы, якраз у гэтыя часы, жанчына. І аднак спрабаваць шукаць загінуўшую па ўсіх насельных пунктах сярод ста сямідзесяці мільёнаў Саюза было-б такой самай спробай, як знайсці іголку ў копе сена. Задача не вельмі ўдзячная стаяла перад Сіневічам.

Але малады агент быў не з такога матэрыялу, каб здацца. Першыя няўдачы толькі распалілі жаданне дазнацца канца, што схована пад таямнічасцю забойства. Справа зацікавіла яго самога. Ён кінуўся ў трамвай. Ён дапытваўся ў кандуктараў і вагонаважатых. Ён паказваў фотаздымкі вопраткі жанчыны. Трамваі сустрэлі таксама няўдачаю...

Зморany вяртаўся ён дахаты, зморany і абыякавы. Але ўспамінаў даверлівасць, з якой паставіўся да яго начальнік, і змора адлятала прэч.

Пад вечар таго дня Сіневіч вышаў з трамвая на астаноўцы каля чыгуначнага маста. Пасля цэлага дня дарэмных пошукаў яму захацелася паспацыраваць павольна па вуліцы, дыхнуць вясновым паветрам, скінуць цесныя кайданы стомленасці.

Вялікае чырвонае сонца з захаду асыпала вуліцу шчодрымі халаднеючымі пацалункамі. А вуліца ляжала голая, скінуўшы сваё апошняе адзенне. Паўз тратуары выстраіліся сцірты брусчаткі, новае шчыгульнае вопраткі для галоўнае гарадское магістралі. З празрыстым гудзеннем прайшоў з поўдня напоўнач над самым Домам Урада хуткі самалёт. У заходніх вокнах шостага паверху ясным агнём гарэлі шыбы. Туды і назад па вуліцы рухава бегалі трамваі. Серабрыстыя званкі ўздоўж зялёных маладых прысадаў рассыпаліся дробным звонам. Разыходзіліся з Універсітэцкага гарадка вясёлыя групы студэнтаў і студэнтак з партфелямі. Высока ў неба імкнулася стромая вежа Тэатра юнага гледача. Вясна жыла ў вясёлым гомане студэнтаў, у какетлівай усмешцы стройніцы—дзяўчыны, у рытмічным гудзенні самалёта. Звонка рыкалі машыны, зварочваючы на стойку ў Землякробчы завулак.

Сіневіч прыпыніўся на рагу завулка, чакаючы пакуль працягнецца доўгі ланцуг машын. Тады яго вуха пачула тонкі дзіцячы плач. На радасным вясновым фоне гэты плач здаўся яму жалобным напамінкам чагосьці далёкага, даўно забытага. Але ўсё-такі якое-ж гора наведала жывую істоту тады, калі наўкола гэтак поўна светлых фарбаў, цяпла і шчасця. Сіневіч павярнуўся, каб даведацца, што прымусіла такім самотным дысанансам уварвацца ў прыгожую сімфонію жыцця гэты тонкі жаласлівы плач дзіцяці.

Пад дзвярыма аптэкі стаяла босая ў адной кашулі дзяўчынка шасці—сямі год. Ускамлычаныя ільняныя валасы звісалі на лоб. Маленькім кулачком яна размазвала па дробным запыленым тварыку горныя слёзы.

Каля дзіцяці прыпынілася жанчына, дапытваючыся, чаго яно плача. Да іх падышла другая, але дзяўчынка на роспыты толькі ўсхліпвала сударгава і нічога не адказвала. Па сухарлявым дробным тварыку дзяўчынкі, па запэцканых руках і бруднай кашулі Сіневіч адразу зразумеў становішча дзіцяці.

— Дазвольце,—папрасіў ён жанчын і сказаў дзяўчынцы:—Пойдзем са мною, дзетка?—і ўзяў за мокры ад слёз кулачок.

Дзяўчынка пайшла паслухмяна.

Праз дваццаць хвілін трамвайнай язды яны сышлі на Ляхаўцы, дзе ў адным са стандартных дамоў рабочага пасёлка па той бок чы-

гункі, Сіневіча даўно чакала жонка з дачкою. Яшчэ здалёк ён убачыў іх на ганку і памахаў рукою.

У кароткіх словах Сіневіч расказаў, дзе і як ён знайшоў дзяўчынку. Жонка павяла маленькую госцю да таза з вадою. А, памыўшы, адзела ў адну з даччыных сукенак. І толькі папалуднаваўшы запытаўся Сіневіч у свае маленькае госці, як яе зваць.

Дзяўчынка, не ўздымаючы ад долу погляду, ціха адказала:

— Гапка.

Больш у яе не пыталіся нічога, не надакучалі роспытамі. Потым ёй паказвалі цацкі. Дробны тварык з журботнымі вачыма патроху святлеў і святлеў і пад канец ужо зіхацеў захапленнем. Тады яе паклалі спаць на мяккай пасцелі, і сон цьмяным пакрывалам ночы атуліў яе, і добрыя гэтыя людзі хутка ўтрацілі абрысы твараў, расплыліся і зніклі ў змроку яе свядомасці. Ёй зрабілася адразу гэтак лёгка-лёгка і паплыла яна, як па мяккай шаўкавістай вадзе, туды, дзе прыгожа і весела.

У доме стараліся не гаманіць моцна, не грукацець. Маленькая госця спала спакойным сном стомленага дзіцяці.

На другі дзень Гапка прачнулася рана. Сон на мяккай пасцелі пасля смачнага полудня падмацаваў яе мізэрныя сілы. Яе памылі і сядзела за сталом яна ўжо смялей як учора.

Паснедаўшы, ў яе пачалі распытваць.

— А дзе твая мама, Гапка?

— Нэ мае.

— А хто цябе клаў спаць, даваў есці, шыў кашулі?

— Цётка Одарко.

— А дзе дом цёткі Адаркі?

— Нэ знаю.

— Твая цётка, мабыць, плача па табе?

— Ні,—энергічна скаланула галавою дзяўчынка.

Па вымаўленні Сіневіч здагадваўся, што дзяўчынка прывезена з Украіны, прывезена не гэтак даўно, і распытваў далей. Дзяўчынка ахвотна расказвала, што яе ўзяла ад цёткі Адаркі другая цётка—незнаёмая ёй Аксана, і яны доўга ехалі ў машыне, пакуль не прыехалі сюды. Чаго яны прыехалі? Другая цётка казала, што яны ехалі да дзядзькі.

— Што-ж табе дзядзька падарыў, як вы прыехалі?

— Мы його нэ бачылы.

Сіневіч захваляваўся і ад хвалявання аж засвістаў.

— Дык ты не бачыла свайго дзядзькі?

— Ні.

— Дзе-ж ты была з цёткаю Аксанаю?

— Та нідзе.

Яны пераначавалі ў нейкіх людзей, а рана пайшлі некуды. Цётка сказала, што зойдзе папытаць дзядзькі і каб яна пачакала на вуліцы.

— І ты, Гапка, больш не бачыла ўжо свае цёткі Аксаны?—жвава перапыніў яе Сіневіч.

— Ні.

— Ну, вядома, Гапка,—праказаў ён ціха,—ты і не магла яе больш убачыць.

Далейшыя роспыты не далі нічога да пачутага Сіневічам. Аднак і пачутае дазваляла рабіць пэўныя вывады. „Цётка Оксано"... Вось каго яму трэба шукаць, усхваляваны вырашаў ён па дарозе на работу. І не заходзячы ва ўстанову, ён у трамваі адразу накіраваўся на вакзал.

У бюро даведак яму сказалі, што трэба звярнуцца да дзяжурнага па станцыі, і што ў кампетэнцыю бюро наогул не ўваходзіць, хто на якіх і куды паяздах ездзіць.

— А дзе знайсці дзяжурнага?—з кплівым здавальненнем кінуў ён суха афіцыйнай даведніцы. „А ўсё-ж такі патурбую я цябе яшчэ раз".

— Там дзе-небудзь пашукайце,—яшчэ больш чорства адказала тая, даючы зразумець, што ім больш няма пра што гутарыць. Яна перамагла—сухая як у службовых так і фізічных адносінах—асоба. Хто яе ведае, можа яе жыццёвыя радасці, менавіта, і складаліся з гэтакіх перамог.

З поўгадзіны Сіневіч паляваў на дзяжурнага па станцыі, пакуль з усяго разгону не наскочыў на форменага чалавека з вялікаю колькасцю кантаў на вопратцы і беласнежную афіцыянтку з вакзальнага рэстарана. І формены чалавек і афіцыянтка займаліся лёгкім фліртам.

— Таварыш, дзе я магу ўбачыць дзяжурнага?—ветліва запытаўся Сіневіч.

Таварыш нават і ў вуха не ўзяў. Напэўна, быў нездаволены, што яму гэтак няўважліва перашкодзілі ў выкананні сур'ёзных абавязкаў. Флірт, відаць, сама разгараўся.

— Грамадзяне!—раўнуў Сіневіч і балюча адчуў, як з пакутаю скрывіўся твар у форменага чалавека і неўразуменне напісалася на прыгожым твары яго беласнежнае размоўніцы, быццам хацела яна сказаць: „Адкуль ён такі ўзяўся".

— Я—дзяжурны!—адрэзаў формены чалавек.

„Нарэшце", падумаў Сіневіч.

Але формены чалавек ужо намагаў усіх сваіх здольнасцей, каб сагнаць з круглавідага твару свае пяціпудовае прыгажуні застыглае неўразуменне. Аднак, фліртавы настрой, спуджаны гэтым няпрошаным равуном, успырхнуў ружовымі крылцамі і адляцеў далёка.

— Таварыш дзяжурны!—памкнуўся трэці раз Сіневіч.

— У чым справа? Адну хвіліну...—І, забыўшы пра равуна, і афіцыйны абыякавы голас змяніўшы на гуллівы, формены чалавек паслаў апошні акорд услед спалоханаму пупсіку з ружовымі крылцамі.—У пяць... Да рэчы, не забудзьце, што Іван Іванавіч праз тры дні юбіляр. А ваша прысутнасць гэтак заўсёды натхняе старога сэрцаеда. Дык у пяць гадзін... Ці вытрымае маё няшчаснае сэрца да таго часу... Ну, вядома, у пяць гадзін, малютка!

— Сараматнік!—Дужка брывы какетліва кранулася раскошных кучароў, і ў той-жа час на чалавека ў форме зірнуў вузка таямнічы прарэз у поклічы прыплюшчанага вока. Яна прыкрылася ражком

чысценькага накрухмаленага фартушка.—Які сараматнік!—моднага плацця кволы шоўк ледзь чутна зашамацеў і знік.

— Ну, у чым справа?—халодна пытаўся дзяжурны, і Сіневічу нават не пазнаць было, злуе той на яго ці не. Такі халодна абыякавы ў дзяжурнага быў голас.

Сіневіч расказаў.

У гэты момант на іх нахапілася страшэнная навальніца з бліскавіцамі і громам у выглядзе невялічкага гладзенькага і кругленькага дужа ўзнерваванага грамадзяніна. Даведаўшыся, што перад ім дзяжурны, ён патрабаваў толькі аднаго: кнігу скаргаў—ён затыхаўся.

— Але ў чым справа, грамадзянін?—абыякава вылівае вядро халоднага спакою на галаву ўзбуранага чалавека дзяжурны.

— Кнігу... скаргаў!—затыхаецца той.

— У чым-жа справа,—ні то пытаецца, ні-то здаецца дзяжурны на просьбу чалавечка.

— Білет... да Слуцка... мяккі білет. Яна сказала (зноў глыток паветра,—яго магла хапіць апаплексія) няма... білетаў... І пасля мяне... яна прадае яшчэ адзін... білет... астатні білет!

— Дык што-ж вам кніга паможа?—другое вядро ледзянога спакою на чалавечка, ад якога пара ідзе, у якім кіпіць і бурліць, як у катле.

— Як?!. Вы сказалі...—неўразуменне перамагае над бліскавіцамі гневу і раз'юшанасці мяккага пасажыра. Ён збіты з тропу такім паваротам справы і не можа знайсці адпаведнае ацэнкі і адпору гэтаму чалавеку ў форме, які гэтак спакойна здзекуецца з яго.

— Але, я сказаў,—пераказвае дзяжурны,—я сказаў, што яна вам паможа?

— Добра,—варожа выціскае з сябе пасажыр і глытае паветра—рыба вынятая з вады.—Я знайду на вас управу.

— Калі ласка,—роўным і спакойным тонам здзекуецца да канца чалавек у форме.—Кнігу возьмеце ў касіршы—не шкада. Але...

Чалавек не слухае, ён заварочваецца і раз'юшаны бяжыць далей шукаць кнігу скаргаў. Сіневіч апасаецца, што той не дабяжыць і разарвецца, як перагрэты кацёл, і яму міжвольна давядзецца быць сведкам няшчаснага здарэння.

— Але,—кідае ўдагон яму дзяжурны,—дарэмна псуеце нервы, ўсёадно нічога не будзе. Дзівак!

Пры гэтым ён спыніў нейкага чыгуначніка і ўсчаў з тым нудную доўгую гутарку. Сіневіча ўводзілі ў злосць паводзіны гэтага форменага чалавека.

— Грамадзянін дзяжурны!—рэзка сказаў ён. —Я вам не мяккі пасажыр, мне не патрэбен ні білет, ні кніга скаргоў. Чым вы дапаможаце мне?

Дзяжурны зірнуў на назольнага даведвальніка так, быццам той існаваў для яго толькі ў праекце.

— Чым я вам памагу? —быццам раздумваючы, павольна сказаў дзяжурны.—Нічым. Гэта не ўваходзіць у маю кампетэнцыю.

— А што-ж тады ўваходзіць у вашу кампетэнцыю?

— Гэта вас не датычыць. Звярніцеся да начальніка станцыі і больш не дурыце мне галавы.

— Які бюракрат,—больш сам сабе, чым дзяжурнаму праказаў Сіневіч.—Напэўна не савецкае вытворчасці.

У адказ дзяжурны моўчкі адвярнуўся і павёў перапыненую з чыгуначнікам гутарку.

На вакзальным гадзінніку паказвала палову дванаццатае. Сіневіч прыехаў а дзесятай. Паўтары гадзіны з'еў у яго гэты нягодны чалавек у форме. Сіневіч сціснуў зубы. Паспрабуй знайсці вось, што трэба, калі-б залежала яно ад падобнае істоты.

Начальніка станцыі Сіневіч знайшоў вельмі хутка. Праз поўгадзіны яму далі магчымасць пагутарыць з чатырма чалавекамі з паяздных брыгад. Менск—Днепрапетроўск ашукаў яго надзею, але старэнькі дабрадушны кандуктар з поезда Менск—Харкаў пачаў прыпамінаць.

— Дарагі дружа мой, помню я нешта такое, ей-богу, помню. Жанчына з дзяўчынкаю... шасці-сямі год... ей-богу, помню. Не скажу вам добра, ці яны, але помню. Яна ўсё выпытвала ў мяне, колькі я зарабляю, ці вялікая сям'я, дзе жыву... Помню. Выпытвала пра заводы і фабрыкі ў Менску, пра ваенныя заводы пыталася,—казала, што працавала нібыта на ваенным заводзе ў Харкаве... А як-жа, добра помню. І дзяўчынка з ёю такая сухенькая, бялявая была, я ёй чаю прыносіў. Помню.

Сіневіч угаварыў кандуктара паехаць з ім дахаты. Гаваркі стары ахвотна згадзіўся. Трамвай праз поўгадзіны даімчаў іх на Ляхаўку. А яшчэ праз дзесяць хвілін яны сядзелі ў Сіневіча.

Як толькі стары чыгуначнік убачыў Гапку, дык адразу сказаў:

— Эг-г-эй, дзевачка, ці пазнала ты старога дзеда, што паіў цябе ў машыне чаем?

— Пазнала,—адказала Гапка.

— Можа зноў паедзем на машыне?

Дзяўчынка адмоўна кіўнула галавою. Яна не выказвала радасці пры гэтым успаміне. Напэўна, тут ёй было лепш.

— Вядома, то былі яны,—казаў стары.—Напэўна яны... Пачакайце, я нават скажу вам, калі гэта было.

Праз хвіліну ён сказаў:

— Гэта было восем дзён таму...

Таго-ж дня Сіневіч паехаў да начальніка з дакладам.

---

„Едзем хутка... Едзем хутка... Едзем хутка“... радуюцца пад вагонам колы. А рэйкі гудуць сваю працяжную без слоў калыханку, утаймаваць хочуць, супакоіць рухавых свавольнікаў, каб прыціхлі яны, каб трохі адпачылі:

„Гу-у-у-у-гу-у-у-у-гу-у-у-у“.

І гэтак бясконца, беручы чалавека сваёю павольнасцю і роўнаю працяжнасцю ў палон, хілячы да сну.

Але рухавыя свавольнікі не хочуць угаманіцца, яны бягуць, бягуць усё далей, усё хутчэй і, здаецца, наўрад ці будзе канец дзе іхняму бегу. І калі ўсякая, здаецца, страчана надзея, спераду раз-

рэзвае паветра, заглушаючы на момант чыгунную калыханку рэек, прарэзлівы голас чорнае вялізнае істоты, якая прагна глытае кілометр за кілометрам і ўсё ёй мала і ўсё яна імкнецца ўперад, усё ўперад. Тады чутно, як пачынаюць стомлена ўціхаць маленькія свавольнікі пад нудныя настойлівыя гукі калыханкі і павольна заміраюць у ціхамірным сне. Але вось спераду рэзкі голас аглушае зноў, зноў прачынаюцца ад свайго нядоўгага сну маленькія рухавыя свавольнікі, і зноў пачынаецца ўсё з самага пачатку.

Прытуліўшыся да акна, Сіневіч стомлена ўзіраецца ў сумятлівую бягу квола-зялёных лазнякоў, алешніку, бярозак, у аднастайныя ўзлёты: угору—уніз, угору—уніз тэлеграфных дратоў і мільганне за акном пашарэлых слупоў з двума радамі белых і зялёных ізалятараў. Ён думае спакойна пад нудную калыханку рэек, павольна прыпамінае ўвесь учарашні дзень, калі была вырашана яго паездка. Уласна кажучы, пытанне нават не ставілася ў роўніцы вырашэння, справа проста павярнулася так, што начальнік спытаўся:

— Калі вы паедзеце?

— Сёння я не паспею,—адказвае Сіневіч.—Прыдзецца заўтра.

— Заўтра—вось і добра. Ну, чаго-ж вам пажадаць?

Рыпаюць дзверы. Заходзіць Іван Іванавіч Шкуцько. Пад густымі бруднаватымі брывамі такія добрыя і стомленыя ў яго вочы, і тоўсты нос гэтак самотна схіліўся над абвіслымі смешнымі вусамі. Разгортваецца самакрытыка. Іван Іванавіч б'е сябе ў грудзі кулаком.

Грудзі аж гудуць пад ударамі, але і гэтага мала і, здаецца, вось-вось гэтым самым валасатым кулаком ён гатоў заехаць сабе ў морду. Гэта ад таго, што, як ён кажа, не выконваецца план, праўдзівей кажучы, не перавыконваецца. Стары вопытны верабей, як сам ён сябе называе, выкрываў справы дасюль ну, проста, нюхам, літаральна ў лічаныя дні, а тут... Ён раскідае шырока рукі, быццам збіраецца абняць каго і моцна прыціснуць да сэрца. Ну, як тут не самакрытыкавацца? Астаецца надзея на выпадак. І ён верыць у выпадак. Чудны Іван Іванавіч!..

„Паверце, начальнік, у маю версію". Ён звычайна называў начальніка не як усе, а проста „начальнік"; усе лічылі гэта за выключную прывілегію аднаго Івана Іванавіча. „Самы невялічанькі выпадак дасць нам магчымасць угібаць у рукі гэту пачварыну, што так жахліва зругалася з няшчаснае кабеціны. Але пакуль што вінаваты я—карай мяне—вінаваты і слова не скажу".

Начальнік усміхаецца. Небарака Іван Іванавіч...

„Я веру вам, Іван Іванавіч, не ўсё-ж вам выкрываць у лічаныя дні, акалічнасці справы склаліся так. Працуйце ў тым-жа напрамку".

Імгненны недаверлівы позірк Івана Іванавіча ловіць Сіневіч. Потым ён зноў такі і зморany, і дабрадушны, і самотны, што начальнік не сутрымліваецца, каб не ўзбадзёрыць яго поціскам рукі.

І гэтак клянучыся і б'ючы сябе ў грудзі кулаком, пакідае кабінет начальніка Іван Іванавіч. І тады начальнік, звяртаючыся да ранейшае гутаркі, даказвае:

— Ну чаго-ж вам пажадаць? Пажадаю вам з поспехам здаць

гэты экзамен, важны экзамен, таварыш Сіневіч, не буду ўтойваць ад вас. Потым вы ўявіце сабе ўсё значэнне вашай паездкі. Ну, дык будзьце здаровы!

Начальнік устае з-за стала і праводзіць да дзвярэй Сіневіча...

Прыпамінае Сіневіч сустрэчы ўчарашняга дня, але галава адмаўляецца займацца справаю, дзеля якое едзе ён упершыню ў такую важную паездку. Аднастайнае угуканне рэек пад коламі вагона аслабляе ўсе спробы астаўбавацца на ёй думкам. Мільгацяць знаёмыя беларускія пейзажы. На дварэ пахмурна, але вясне радуюцца палеткі і лясы, паплавы і рэкі, і з імі разам радуецца душа чалавека. Можа затым не хочацца і думаць ні пра вошта Сіневічу. І аднастайная чыгунная песня закалыхвае яго.

Прачынаецца ён пад дробны дождж. Поезд стаіць на станцыі Сноўск. Шэсць гадоў таму назад, едучы ў Крым, ён убачыў тут безліч харчоў у кашолках жанчын, асабліва здзівіла яго прысутнасць мясных прадуктаў. Ён не сустракаў гэтага больш нідзе на ўсёй лініі ад Менску і да Севастопаля. І таму ў памяці сонечным блікам вылучаецца з доўгага раду заходніх і паўднёвых станцый невялікі ціхі Сноўск. Цяпер на станцыі ларковы гандаль, у якім пасажыр знойдзе сабе для падмацавання расслабленых сном і доўгай яздой сіл не толькі выбуховыя матэрыі Дзяржспірту, а і розныя дэлікатэсы Галоўкансерва. Не ўважаючы на дробны дождж, здаецца Сіневічу, яснае паўднёвае сонца залівае ўсю гэтую невялічкую станцыю. І робіцца яму цёпла і прытульна. І невялічкі эпізод з тысяча дзевяцьсот трыццатага года згасае ў далёкім кутку памяці.

Дождж перасціх. Поезд кранаецца. За вакном сцелецца неабсяжная маляўнічая Украіна. Пасля беларускіх хатак бела пабеленыя мазанкі з расквечанымі акяніцамі напаўняюць святлом ярка зялёныя прасторы садоў і гародаў. Прагна п'е прыгожае пітво з яркіх вясновых фарбаў Сіневіч, не адрываючыся ад акна. Бачыць ён, як з боем адступаюцца на поўнач шырачэзныя балоты, як гушчэразныя рослыя лясы хаваюцца ў далёкай сінізне кругавіду на поўначы і погляд сустракае прасторныя абшары палеткаў з рэдкімі купкамі зеляніны, прыгаршчамі белых мазанак, невялікімі паплавамі. Аднак, гэта яшчэ не сапраўдная Украіна,—у багацці прастораў, у кволасці паўднёва блакітнага неба, у вольнасці стэпавых вятроў, у рытмічным дыханні магутнага фабрычнага арганізма яна адчуваецца крыху пазней, крыху далей пакажа ўсю сябе неабсяжная прыгожая краіна.

У вагоне цесна, душна, накурана. З суседняга купэ чуецца гамана і рогат вясёлае кампаніі моладзі. Там жартавалі па-дарожнаму і на жарты раз-по-разу выбухаў агульны дзявочы рогат. У купэ з Сіневічам ехаў малады чалавек у шырачэзных штанах, пастрыжаны пад бокс. Ён таксама належаў да кампаніі і праз кожнае поўгадзіны прыбягаў у купэ, каб зняць з верхняе паліцы свой мініятурны чамаданчык, з якім звычайна ходзяць спартсмены і пачынаючыя акторкі. Спартсмэн вымаў з чамаданчыка адэкалон і мачыў упацелы лоб і рэдкі чуб. Потым закурваў тоўстую папяросу і далучаўся зноў да кампаніі.

Прыехаў Сінevіч у Харкаў раніцою. Вакзал сустрэў шумам і гоманам вялікае паўднёвае станцыі. Па платформах бегалі насільшчыкі, з скрынкамі для смецця за плячыма споўдалі маладыя дзяўчаты-прыбіральшчыцы ў пошуках выпадковага недакурка, мітусіліся пасажыры, і ўвесь гоман і гудзенне перамагалася час-ад-часу магутным голасам велізарных паравозаў і лёскатам буфераў.

Першым чынам Сіневіч накіраваўся ў рэстаран, дзе знаходзіўся газетны кіёск. Перш чым пачынаць справу, яму хацелася паглядзець газеты. Каля кіёска, які толькі прадаваў украінскія газеты, Сіневіча паклікаў знаёмы голас і да яго падышоў старэнькі кандуктар з поезда Менск—Харкаў.

— Глядзіце, дзе мы ўбачыліся. Нядарма ў мяне рука свярбела, давялося прывітацца.

І даведаўшыся, што Сіневіч прыехаў сёнешнім поездам, з дакорам паківаў галавою.

— Як-жа гэта абмінулі мой вагон... Ай-яй... А ведаеце што,— з патаемным выглядам кінуўшы позіркам на бакі, прыцішыў ён голас.—Я толькі што бачыў яе.

— Каго яе?—уражаны неспадзеўным паводзеннем кандуктара і яго словамі, спытаўся Сіневіч.

— Ну, гэту самую,—не пакідаючы свае патаемнасці, прашаптаў кандуктар,—пра якую вы гэтак цікавіліся.

Сіневіч яшчэ не мог атрапнуцца ад уплыву першае нечаканасці.

— Не можа быць! Дзе вы яе бачылі? Дзе яна?

Не адказваючы, кандуктар узяў яго двума пальцамі за рукаў і пацяг да выхаду з рэстарана.

— Хадзем барджэй... Яна нават усміхнулася мне. Але з твару заклапочаная такая і гэтак спяшалася. Я гэта думаю, дай-жа папытаю: як гэта можна пакідаць дзіця, прывёзшы ў чужы горад, адно. А тут яна павярнула ў залу для пасажыраў, дзе білетныя касы. Тут мне дарогу загарадзілі перад самымі дзвярыма два насільшчыкі з вялізнымі чамаданамі ды цэлая сям'я з рознымі пакункамі. Мая кабета, бачу, павярнула налева да сходкаў ды бежкам на другі паверх. І калі я прайшоў за сям'ёю ў залу, дык мае кабеты і духу не асталося, і след хвосцікам замяла. Ну, бегчы за ёю я не пабег. Ды хадзем барджэй,—казаў стары кандуктар, хаця ледзь сам паспяшаў за Сіневічам, які толькі недаверліва думаў і праказваў: „Не можа быць... Не можа гэтага быць“.

— Не кажыце, усё можа быць. Ого, я яе ўжо так прыкмеціў, што аблупленую пазнаў-бы. Гэтак чыста і хораша апранутая, а на шчацэ падчэрненая барадавачка. Цяпер яна адзета лепш як тады, ого, як якая чужаземка.

Стары кандуктар спяшаўся хутчэй выказаць усё пра незнаёмую кабеціну, якая, відаць, зацікавіла і яго. Ён размахваў рукамі і, стараючыся збоку зазірнуць у вочы Сіневічу, праказваў часам: „Хадзем барджэй“, хоць адставаў якраз не Сіневіч.

Яны агледзелі залу—з білетнымі касамі, поўную народу з чамада-

намі, партфелямі, пакункамі. Людзі стаялі ў чарзе, мітусіліся ў дзвярах, а каторыя ішлі наверх, у адпачывальню.

Не, іхнае кабеты і духу не асталося. Яны ўсхапіліся на другі паверх. Усе лаўкі з высокімі спінкамі былі заняты заклапочаным гаманлівым, рухавым народам. Паветра набыло спецыфіку вакзала. Куды ні пайдзі, за што ні вазьміся,—тут усюды сустрэне цябе гэты асаблівы вакзальны пах. Ім напоўнена ўсё наўкола, ім праспіртаваліся ўсе рэчы: настольнікі на сталах у буфеце, вазоны ў чакальні, фартукі і бляхі насільшчыкаў, і білетныя касы і нават дрэва сталоў і лавак. Паветра набыло асаблівасць незвычайнае гусцечы і ісці тут—гэта не проста перасоўваць ногі, а браць пераШкоду, як на спаборніцтвах. Сіневіч з кандуктарам добрасумленна агледзелі буфет, усе лаўкі і закуткі. Кандуктар нават запытаўся у правершчыка білетаў, які па-геройску бараніў ад вельмі нецярплівых пасажыраў адзіны выхад на чыгуначныя платформы. Кабета як замяла за сабою сляды... Яны збеглі на ніз, у другую залу для пасажыраў. Вынік той самы. Вярнуліся ў рэстаран, з рэстарана ўзышлі на другі паверх, сышлі на двор на прывакзальны пляц. Жанчына як наскрозь зямлі прайшла.

— Мудрэй за іголку,—прамармытаў Сіневіч, ён пачынаў сумнявацца.

— А ці добра вы ўпэўнены, што гэта была яна?

— От каб я так дыхаў,—выбухнула ў кандуктара раптам.—Штошто, а гэта дык прысягнуць магу.

Стары рукавом абацёр упараны лоб.

— Праўда,—трохі няўпэўнена ўжо азваўся ён зноў,—чорненькае барадаўкі тады не было на шчацэ. Саквояжык цяпер несла такі жоўценькі скураны, а тады з чамаданам ехала... Не, яна, забіце—яна! Нават усміхнулася—пазнала.

У галаве ў Сіневіча вэрхал думак, а на душы бэдлам патурбаванага настрою. Усё было гэтак добра, аставалася толькі зрабіць апошні крок да высвятлення асобы агідна забітае кабеціны, як раптам гэты кандуктар. І ўваскросла жанчына. Ён зноў паблытаў Сіневічу ўсе ніткі разблытанага клубка.

— А што калі ёй зноў захацелася памерці?—саркастычна супыніўшыся поглядам на велізарным будынку тэлеграфа, гадзіннік якога адмерыў поўдня, спытаўся Сіневіч у старога. Але заўважыў яго выгляд і вінаватага і ўпэўненага ў сваім чалавека і пашкадаваў, што сказаў.—А чорт з ёю, з кабетаю. Хадзем піць піва.

Кандуктары ад гэтага зазвычай ніколі не адмаўляюцца. І жанчына была забыта. Паводле маўклівай дамоўленасці абодва знайшлі іншакшыя тэмы для гутаркі.

Паснедаўшы, Сіневіч накіраваўся ў кіраўніцтва Харкаўскае гарадское міліцыі. Лёгкія абрысы жаночага вобраза, які авалодаў быў яго думкамі, расталі ў блакітным украінскім небе.

Яго план быў зусім просты: даведацца, хто з грамадзянак Харкава выехаў сем-дзевяць дзён таму часова ці на зусім у сталіцу Беларусі, і іхныя адрасы.

Але ў міліцыі яго ўжо цікавала неспадзяванка. Работнік, да якога Сіневіч звярнуўся, прамармытаў нешта невыразнае, дапісваючы

паперу, потым паглядзеў на наведвальніка і вочы на момант зрабіліся круглыя і вялікія. Ён абыякава і, як здалося Сіневічу, нават з крыхою нецярплівасці выслухаў просьбу апошняга. Аднак, нічога не адказаўшы, паспешна вышаў у другі пакой. Праз хвіліну дзверы прачыніліся і з шчыліны паказалася з прылізанаю прычоскаю галава, быццам яе карова шорсткім языком залізала. Пара насцярожаных воч з цікавасцю абмацала Сіневіча і знікла.

Сіневічу цюкнула ў галаву, што яго асобаю тут чамусьці надзвычайна зацікавіліся, але не паказаў знаку, што яму пра тое вядома. Праз хвіліну вярнуўся першы работнік у пары з прылізанаю прычоскаю.

Залізаны, не даходзячы да Сіневіча, тыцнуў у напрамку яго пальцам і запытаўся:

— Гэта вы?

Сіневіч усміхнуўся і чорцік жартаўлівасці падштурхнуў яго.

— Не, не я.

Залізаны здзіўлена і сурова паглядзеў на жартаўніка, і ўжо недаверліва спытаўся, і голас у яго быў сурова афіцыйны і нездаволены.

— Вы з Менску?

Сіневіч кіўнуў галавою.

— Дазвольце вашы дакументы.

Яны напэўна нешта задумалі благое. Але Сіневіч у душы пасмейваўся з іхняе патаемнасці—сказалі-б адкрыта, чаго яны хочуць ад яго. Не спяшаючыся, ён выняў з кішэні жменю ўсялякіх кніжачак і вывудзіў адтуль складзеную ўчацвёра паперку. Таксама не спяшаючыся разгарнуў і падаў.

Дакумент чыталі доўга, страшэнна доўга, быццам разбіраючы па складах. Сіневіч думаў, што за гэты час ён прачытаў-бы ўжо разоў пяць. Залізаны адарваўся нарэшце ад бяскрыўднага кавалачка паперы і ўчыніў Сіневічу форменны допыт: калі і дзе ён атрымаў дакумант, хто яго падпісаў, чаму няма подпісу начканца, штампа і нумара. Сіневіч усміхнуўся, але пад халодным поглядам адказаў ужо сур'ёзна, што інтарэсы справы вымусілі яго ўзяць пасведчанне без подпісу начканца, без штампа і... нумара. Тут ён схамянуўся: якое глупства, нумар-жа ён мог паставіць сам які-б захацеў. Не аддаючы пасведчання, яго папрасілі ісці за сабою. Гэтак прайшлі яны адным пакоем, выйшлі на калідор і адчынілі дзверы ў цьмянае памяшканне.

— Калі ласка,—сказаў залізаны.

Толькі гэта, не падазраючы нічога, Сіневіч пераступіў парог, як дзверы хляпнулі, у замку пстрыкнуў ключ, і крокі аддаліліся і пацíхлі ў канцы калідора.

Тады Сіневіч зразумеў, што нейкі недарэчны сплыў акалічнасцей выбраў яго аб'ектам гэтага здзеку. Настроены пакуль што гумарыстычна, ён прысеў на рыпучае крэсла пры такім самым рыпучым старым канцылярскім стале і абвёў вачыма пакой.

Але чакаць давялося нямала. Прайшло дзесяць хвілін, прайшло і дваццаць пакуль на калідоры не азваліся крокі і не спыніліся пад

дзвярыма. Дзверы адчыніліся насцеж, і ў пакой шырокім крокам увайшоў высокі чалавек у міліцэйскай форме.

— Таварыш Сіневіч!... Прабачце, дарагі, за гэтую дурацкую гісторыю! Вінаватыя адпраўлены пад арышт і таму не могуць самі папрасіць у вас прабачэння.

Прышэлец гаварыў цёпла і шчыра і нотка шкадавання яўна пачулася Сіневічу ў яго голасе. І тады адразу адлягло ад сэрца.

— Бачыце, мяне непакоіла толькі адно: патрачаны дарэмна час. Я разлічваў заўтра выехаць. Аднак цярплівасці ў мяне хапіла.

— Яшчэ раз прабачце, таварыш Сіневіч. Гэтым чыноўнікам здалося, што да іх у рукі сам прышоў выдатны і небяспечны прадстаўнік злачыннае фауны. Вы гэтак падобны да яго і ростам і з твару. Добра аднак яшчэ, што яны звязаліся з Менскам.

— І хто адказваў з Менска?—устрывожыўся раптам Сіневіч.

— А я вам дарогаю раскажу,—мякка адказаў яго размоўца і ўзяў пад руку.

— З некаторых меркаванняў, мяне гэтае пытанне грунтоўна непакоіць,—сказаў Сіневіч.—Я паведамляў ужо і вашым супрацоўнікам, што інтарэсы справы вымусілі мяне паехаць у некаторых адносінах прыватным парадкам. Інакш кажучы, ніхто з работнікаў нашай установы апроч самога начальніка не ведае, дзе я і чаго паехаў.

— Уявіце сабе—можаце супакоіцца,—адказваў сам начальнік. Ён не толькі пасведчыў вашу камандыроўку, а і папрасіў дапамагаць як мага.

— Мяне гэта надзвычайна радуе,—павесялеў Сіневіч і з падзякаю пацігнуў моцна руку свайму размоўцу.

— Ну, дзякаваць вам, уласна кажучы, няма за што,—з лёгкай ironіяй азваўся той і паглядзеў збоку на Сіневіча.—Усё, што вам трэба, мы гатовы прадаставіць у ваша распараджэнне, і хоць тым загладзіць сваю віну перад вамі.

— Дзякую. Апроч таго, што я прасіў у вашых супрацоўнікаў, мне больш нічога не патрэбна.

— Тады ведаеце, што я вам параю? Ідзіце адпачываць. У гасцініцы вам заказан пакой, а каля пад'езда чакае машына. Калі ласка... Усе справы мы зробім заўтра,—нібы аддаючы загад, коратка праказаў высокі ветлівы чалавек.

Сіневічу аставалася толькі згадзіцца.

---

У адным з зялёных прадмесцяў, якія раскінуліся шырока на ўсіх подступах да Харкава, стаяў прыгожы зялёны аднапавярховы домік з белымі акяніцамі. У ім не было нічога, што б вылучала яго сярод іншых прыгарадных домікаў-дач. Частыя шчакеты абгарадзілі яго і невялічкі палісаднічак з краскамі. І шчакеты таксама пафарбаваны ў зялёную фарбу, як і ашалёўка дома, як і бляшаны дах. Высокія таполі, векавыя ліпы і каштаны разаслалі па зямлі ўтульную засень.

Выходзячы за рад домікаў прысады разрасталіся ў нягусты гай—прытулак шчабяткому птаству.

На другі дзень пасля свайго прыезду Сіневіч з прыкамандыра-

ваным да яго работнікам Харкаўскае міліцыі пастукаў у дзверы прыгожага зялёнага доміка. Ім адчыніла невысокая, у белым маёвым адзенні, з вясёлымі вачыма і пышнымі грудзьмі чорнавалосая кабеціна. У запытанне Сіневіча, ці тут жыве Аксана Касценіч, кабеціна ўнесла папраўку:

— Вы хочаце сказаць жыла... Так, яна жыла тут. Але зайдзіце, калі ласка, у пакоі, няёмка гутарыць у парозе.

Кабеціна гулліва вільнула пышнымі прынадамі і павяла людзей у хату.

У пакоях панавала такая самая ўтульнасць і чыстата, якая была відна і знадворку.

Усе акалічнасці спрыялі яму, думаў Сіневіч, сядаючы на мяккую плісавую падушку крэсла. Аксана жыла тут, у гэтым прытульным зялёным доміку, у якім напэўна схаваны адказы па справе таямніча забітае ў Менску жанчыны, і адказы тыя пасобяць Сіневічу асвятліць логікаю вываду ўсе пацемкі, што абкружаюць яшчэ няшчасную скальпаваную.

Сіневіч папытаў дазволу закурыць. Маёвая кабеціна папярэдліва падсунула ракушачную попельніцу, і пышна белую руку пакінула ляжаць на чорным аксамітавым настольніку, які ўрачыстымі цяжкімі складкамі вышытага берагу нізка падаў з круглага лакіраванага стала. Але заўважыла з захапленнем кінуты Сіневічам погляд і, адказаўшы хітрым жаночым зіркам, саромліва прыняла і скрыжавала рукі пад высокімі пышнымі грудзьмі, ад чаго тыя зрабіліся яшчэ пышнейшыя. І як усякая маладая жанчына, не хаваючы, што яна хоча быць прывабнай і хоча падабацца, таксама хітра па-жаночаму запыталася:

— Чым-жа яна зачаравала так вас мая Оксано?

І абодва заўважылі, што голас у жанчыны такі пяшчотны, грудны з кволымі пералівамі, але ў кволыя пералівы ўплялася ледзь прыкметная нотка раўнівай зайздрасці. Яна спыталася і, утапіўшы спелыя вішні воч сваіх у чорным бяздонні аксамітавага возера на стале, цішэй ужо і сцвярджаюча і задуменна казала:

— Праўда, яна маладая Оксано...

Жанчына лёгка ўздыхнула. Маўклівы абыякавы міліцыянер асцярожна завалодаў ляжаўшым на стале тоўстым старарэжымным альбомам.

— Праўда, што яна прыгожая Оксано?—сказала яна зноў, не чакаючы адказу, і горда павяла брывою, і гэта трэ' было, каб не абразіць жанчыны, разумець так: „А хіба-ж я ўжо старая? А хіба я не прыгожая?“

„Канчаткова з ёю немагчыма гаварыць пра справу“, падумаў Сіневіч.

— Скажыце, а была яна ў вас учора?—папытаў ён, усё яшчэ не мяняючы тону.

— Ні, учора нэ було,—задумаўшыся раптам адказала яна.—Тая вам зараз пакажу дамову кніжку. Там і адзначана, калі вона выбыла. А ад таго—ні, ад таго ii тут нэ було.

Выхваляючыся ўсімі сваімі пышнотамі ў зграбным і моцным руху, вышла яна ў суседні пакой і вярнулася з дамавою кніжкаю,

з якое відаць было, што сапраўды Аксана Касценіч выехала з Харкава ў Менск дзесяць дзён таму і зноў сюды не вярталася.

Сіневіч адсунуў ад сябе кніжку і погляд яго ўпаў на разгорнуты альбом, над якім сядзеў міліцыянер. Міліцыянер разглядваў маляўнічую групу маладых дзяўчат у касніках і каралях з кветкамі ў валасах і дужых хлопцаў з чубамі і ў шырокіх нагавіцах.

— Якая прыгожасць,—жаласна праказаў Сіневіч, стараючыся схаваць раптоўную цікавасць, выкліканую фотакарткаю.

Цікавіла Сіневіча не так моладзь, як некаторыя акалічнасці. Сярод групы стаялі з ганарыстым выглядам два вайскоўцы, напэўна афіцэры, вельмі камічныя ў сваёй экзатычнай афіцэрскай форме. У аднаго на афіцэрскія боты звісалі ад калена шырачэзныя нагавіцы і шэры жупан збіраўся ў стане шырокім сярэбраным поясам. Баранковая шапка запарожца са звіслым на бок верхам трымалася на патыліцы на адным слове гонару. Партупея цераз плячо падтрымлівала ўпрыгожаную серабром крывую каўказскую шаблю. На вузкіх, але нязграбных плячах карабаціліся афіцэрскія пагоны. У другога высокага падгалістага вайсковыя штаны ўвабраны у нізенькія халяўкі ботаў. Фігуру аблягае вайсковы фрэнч, падпяразаны салдацкім паясом. Да паяса прымайстраваны афіцэрскі корцік. На шырокіх плячах таксама афіцэрскія пагоны. Падрэзаныя кругам густыя валасы прыкрыла ні-то шапка чорнагорца, ні-то беларуская магерка. На адтапыранай кішэні фрэнча белая з цёмнаю палоскаю пасярэдзіне нашыта істужка. У афіцэра шырокі сыты і дабрадушны твар з густымі вусамі і камлатымі брывамі, але вочы глядзяць з-пад строгіх брывоў фанатычна-лятуценна, як і ў першага, толькі ў таго больш самаўпэўненасці, зухаватасці.

— Во цэ які ваякі!—зарагатаў у захапленні міліцыянер.

— Якая прыгажосць!—не вытрываў зноў Сіневіч і, звяртаючыся да гаспадыні, запытаўся: — А што павінна абазначаць гэтая фігура?— ён паказаў на фігуру конніка, распластаную ў несутрымным лёце на фоне прасторных палеткаў, вёсак і лясоў, намаляваных на занавесе.

— Нэ знаю,—сказала гаспадыня. Сакаўныя вішні воч яе пасмутнелі, і ўся яна зрабілася мізарнейшаю, працейшаю.—Колісь я була шчэ нэвэлычка, тодзі ваявалы ўсі... Колісь...—яна запнулася і пачырванела.—Адзін з іх,—паказала яна на афіцэраў,—называў мяне сваёю каханкаю і казаў, што хутка, як адваюе са сваім войскам родную зямлю, тады забярэ мяне з сабою ў вольную Беларусь. Але гэта було даўно, я була тодзі шчэ нэвэлычка, дурная дзяўчынка. А після... він і нэ паввартаўся. А другі быў мужам мае сястры.

Сіневічу здаваўся дужа знаёмым гэты афіцэр у магерцы: і шырокі адкрыты твар, і камлатыя бровы, і шырокія грудзі, у якія, каб грукнуў, дык загулі-б, як барабан. Але погляд, поўны лятуценнасці, ды рука, пакінутая на тронку корціка—тэатральнасць позы— затушоўвалі гэты вобраз.

— Як-жа яго звалі? Мне ён вельмі знаёмы, але не прыпамятаю,—пытаў Сіневіч.

— Клікалі яго Янка Шчука... А другі-то Шчупак,—гарэзлівыя

іскрачкі бліснулі ў вачах, і жанчына пырснула са смеху.—Одын быў Шчука, другі—Шчупак. Тодзі ўсе шуткувалы з іх: „Яка гарна рыбна пара“...

Янка... Шчука... Сугучча нагадала Сіневічу другое імя і другое прозвішча. Выплывалі камлатыя бровы, густыя вусы і шырокія гулкія грудзі. Іван Іванавіч Шкуцько—якое падабенства. Янка Шчука—Іван Шкуцько,—якое супаданне.

— Не, ні Янкі Шчукі, ні Івана Шчупака я не знаю. Падарыце мне гэтую картачку,—папрасіў ён раптам.

— Та його нэ Іван звалы, цього біса. А навошта вам гэтыя пужакі?—жанчына зноў жартавала. Не асталося ні ценю раптоўнага смутку ў вачах, яна хацела быць вясёлаю і падабацца, гэта заўважыў Сіневіч.—Мне яны не патрэбны, але тут знята і сястра, дык я-б не хацела пазбавіцца апошняе яе памяці. Вмэрла мая сяструня... Аднак я не хочу, каб у вас застаўся дрэнны ўспамін аб гасціннасці гаспадыні такога ўтульнага доміка...—праўда, утульны?—і я гатова слугаваць вам чым хочаце. Я загадаю пеоразняць картачку і пераслаць вам куды скажаце.

Да жадання падабацца, да свае пышнае жаноцкасці ласкавая гаспадыня паслала на дапамогу яшчэ шчырую душэўную дабрату.

— Не, не варта турбавацца. Калі дазволіце, мы самі зробім гэта. Арыгінал будзе ў вас не пазней заўтрашняга дня,—сказаў Сіневіч.

— Вы адхіляеце ўсе мае паслугі,—прызналася жанчына ў сваім жаданні дагадзіць гэтаму чалавеку. Яе жаноцкіх хітрыкаў не хацелі бачыць і не бралі на іх увагі. Яна выняла з альбома картачку і аддала Сіневічу.—Калі ласка,—спахмурнела тварам жанчына.—Аднак, я-ж не паверу, што вы прышлі толькі таму, каб забраць у мяне гэтую картачку, праўда? Скажыце, навошта вы пыталіся пра Оксану?

У вачах у жанчыны, здаецца, бестурботны спакой, але калі прыгледзецца, дык уся яна насцярожаная, і халодны погляд яе, напружана ўпяты ў Сіневіча.

— А вас гэта надта цікавіць?—адказвае Сіневіч.—Добра... Гэтымі днямі Оксано Касценіч знойдзена забітая. Паводле ўсіх дадзеных забойства ўчынена з мэтай абрабавання афяры. Мяркуючы па дарагой вопратцы, забітая мела пры сабе не менш каштоўныя рэчы, якія, безумоўна, і забраны рабаўнікамі.

— Не можа быць,—збянтэжаная праказала ціха жанчына.—Які жах... Оксано!.. Не можа гэтага быць... Чакайце, вы кажаце, што яна была ў дарагой вопратцы, тады гэта пэўна хто іншы. Не, напэўна гэта не яна, я добра памятаю, што Оксано паехала ў маркізетавай сукенцы і белых балетках. Ну, але, калі вы гэта лічыце за дарагую вопратку,—іранічна праказала гаспадыня,—тады гэта можа і гаротная Оксано.

„Вось табе і маркізетавая сукенка і белыя балеткі, чорт-бы іх забраў“, падумаў Сіневіч. „А колькі вазяніны было. А як хутка мяняецца настрой у гэтае маладзіцы. Яна магла-б быць добрай акторкай“.

— Няўжо так небагата жыла ваша кватарантка, што нават у

дарогу, для паездкі ў другі горад, не магла абуцца ў што-небудзь лепшае за сінія балеткі?

— Белыя... Перш за ўсё нічога дрэннага я не бачу ў тым, што жанчына едзе ў другі горад у балетках, тым больш у белых. Самы абутак на вясну. Да таго-ж Оксано хоць і служачай працавала на ваенным заводзе, але пенсію атрымлівала невялікую.

— Ну, бессямейнаму не шмат трэба.

— Вядома што... За кватэру заплаці, на адзенне трэба, а харчаванне, а праезд праз увесь горад і дадому штодня... На ўсё трэба.

— Ці не можаце вы мне сказаць, хто ёй будзе дзяўчынка Гапка— дачка ці так... сваячка?

— Гапка? Якая Гапка? Я нічога не ведаю.

Гэтага разу гаспадыня здзівілася сапраўды, як здалося Сіневічу. Дарэчы, ён запытаўся гэта проста от так сабе, бо ў дамавой кніжцы, якую ён перагарнуў уважліва, ніякае дзяўчынкі Гапкі не было.

— А чаго яна паехала ў Менск?—запытаўся Сіневіч.—Хто жыве ў яе з блізкіх у Менску—муж, брат?

— Муж?—здзіўлена ўзняла бровы гаспадыня.—Я ні разу не чула ад яе пра мужа. Не, мужа ў яе не было. Я нават добра не памятаю, як яна казала, хто там жыве ў яе—стрэчная сястра ці таварышка. Ну, але-ж гэта няпраўда,—упрашальна праказала жанчына, бачачы, што Сіневіч устае, збіраючыся відавочна ісці.— Скажыце мне, што гэта няпраўда. Вы збіраецеся ісці?

— Так, прабачце, калі надакучылі вам.

— Ды не, што вы. Я зараз прынясу чаю.

— Дзякую, але чаю мы не прадбачылі. Не, чай не ўваходзіць у наш сёнешні расклад.

— Ну, вось вы і адмаўляецеся,—расчараваная сказала жанчына.— Як шкада, што няма мамы, яна дык напэўна ўпрасіла-б пасядзець з ёю за шклянкаю чаю. А я не ўмею прасіць. Матка з тыдзень як паехала ў госці ў Кіеў і павінна вярнуцца толькі праз некалькі дзён. Мне будзе гэтак боязна адной. Скажыце, што гэта няпраўда, што вы сказалі пра Оксану. Я начую адна ў доме,—зноў упрашальным голасам прамовіла жанчына,—а вы наказалі мне такога страхоцця. Скажыце, што вы пажартавалі!

Ад яе слоў патыхнула такою самотаю, што Сіневіч міжвольна ўважліва зірнуў ёй у вочы. Твар яе выказваў тую самую самоту і быццам выразна гаварыў: „Вам прапануюць такую аздобіну, а вы, гэтакі дурань, палена няшчаснае, знаходзіце ў сабе рашучасці адмовіцца“.

Сіневічу зрабілася ніякавата.

— Не верце таму, што я казаў. Ну, вядома, што я проста хацеў напалохаць вас, а таму вы не ўважайце. Глупства... Прабачце і бывайце!

— Ну, вось вы і пайшлі ўжо,—жаласлівым голасам услед ім праенчыла кабета, але адказу не пачула.

„Кабеціна нішто сабе“, думаў Сіневіч, „але з чаем і мамаю

перабрала меру. Дарэчы, што ёй патрэбна ад мяне? А што яна нечага дамагалася—гэта факт“.

Таго-ж дня ў хуткім поездзе ён імчаў дадому і з нецярплівасцю чакаў заўтрашняга дня.

---

Поезд прыходзіў надзвычайна акуратна, і Сіневіч ад таго быў яшчэ ў лепшым настроі. Усё вакол здавалася яму ў такіх светлых фарбах, усё было такім радасным, дарагім. Сэрца раскрывалася, як велізарная кволая краска, для невыказных кволых пачуццяў. І ледзь толькі суняўся перад вакзалам бег нестомных колаў, як ён з радасці, быццам цэлыя гады разлучалі яго з родным краем, кінуўся ў натоўп пасажыраў да выйсця. Аднак з дарогі да трамвая ён звярнуў на вакзал і сазваніўся з начальнікам па тэлефону. Начальнік чакаў яго.

Размахваючы партфелем, Сіневіч выскачыў на ганак. Чарговы вагон трамвая агінаў прывакзальны пляц. Сіневіч з разгону ўскочыў на падножку перапоўненага вагона і ўплішчыўся у душную мешаніну чалавечых цел, што імкнуліся сціснуць яго, як абцугамі. Пакуль ён узяў праездны білет, час быў выходзіць.

Ля пад‘езда ён сустрэў начальніка, які весела ляпнуўшы яго па плячы, засмяяўся:

— Паглядзіце вы на яго, які спрытны. А я збіраўся пад‘ехаць па вас...

І быццам да людзей, якія сноўдалі па вуліцы, праказаў ён, азіраліся тыя і аглядвалі абодвух з цікавасцю.

Ён махнуў рукою, і машына, што стаяла воддаль, мякка пад‘ехала пад іх. Начальнік з ласкавым „сядайце“ ўвапхнуў Сіневіча на задняе сядзенне, і следам за тым улез сам і зачыніў за сабою дзверцы.

— Дахаты,—сказаў ён шоферу, і той выправіў машыну і накіраваў яе ў плынны струмень вулічнага руху.

Праз некалькі хвілін яны выйшлі перад чыстым пад‘ездам на ціхай вуліцы з прысадамі. Чыстыя сходцы прывялі іх на другі паверх у невялічкі прытульны пакой з рабочым сталом, кніжнай этажэркай, канапай і парай крэслаў.

— Адну хвіліну,—сказаў начальнік,—і падсунуў да Сіневіча мяккае крэсла,—я зараз вярнуся. Будзьце як дома.

Ён сапраўды вярнуўся праз хвіліну, а неўзабаве потым у пакоі з‘явілася сякая-такая закуска.

Сіневіч расказаў пра свае харкаўскія прыгоды.

— Прызнаюся вам, я трохі трывожыўся,—пачуў Сіневіч роўны ўжо спакойны голас,—хоць і быў упэўнены, бо інакш я вас, вядома, не пусціў-бы. А кандуктар ваш—маладзец.

На двары пераклікаліся перад сном вераб‘і. Своеасаблівы спакой вялікага шумлівага горада глядзеўся ў акно прыгожым аквамарынам глыбокага чыстага неба. Мірнай радасцю павявала здалёк, адтуль, дзе неба з сіняга рабілася ўжо фіялетавым, і было добра тут, у ціхім поўзмроку пакоя.

— А я вам, аднак, не пра ўсё сказаў яшчэ,—азваўся Сіневіч,

будзячы бестурботны спакой кабінета. Ён пакорпаўся ў партфелі і падаў начальніку фотаздымак.

— Цікавая экзотыка. Яна надавала своеасаблівы каларыт таму часу. Трэба сказаць,—пабарабаніў начальнік пальцамі па картцы,— што гэтае рэчы я не прадбачыў.

— Ці не здаецца вам знаёмым адзін з гэтых рыцараў, таварыш начальнік?

— Напэўна знаёмы,—краечкам вока зірнуў на Сіневіча начальнік.— А вам ён таксама знаёмы?—раздзяляючы словы, быццам працэджваючы іх, у сваю чаргу запытваў начальнік.

— А вам ён таксама знаёмы?..

Рука лягла на плячо Сіневічу і той блізка ад сябе ўбачыў вочы начальніка. Зіхацелі яны захапленнем нейкай, схаванай, яму аднаму толькі вядомай, ідэяй.

— Мне думаецца... Яго прозвішча было тады Шчука... Іван Шчука...

— Дарагі мой,—ласкава праказаў начальнік, падсоўваючы сваё крэсла бліжэй да Сіневіча,—цяпер я вымушаны расказаць вам другую гісторыю, якою, відавочна, прыдзецца нам заняцца бездакладна. Пасля вашага ад'езду, таго-ж самага дня, нам паведамілі, што некалькі дзён таму назад выехала ў Ленінград да сваіх блізкіх і туды не прыехала адна жанчына. Мы звязаліся з Ленінградскім крымвышукам, з міліцыяй. Нам адказалі, што такая жанчына ў Ленінград не прыязджала. Што вы на гэта скажаце? Ці выехала яна адсюль, гэтая жанчына?

— Прабачце, не будзе з майго боку бестактоўным запытацца, каму даручана новая справа?—запытаўся Сіневіч.

— Не, гэта не сакрэт. Я чакаў вас.

— Вы мне гэтак давяраеце. Я вам удзячны.

— Давяраю,—перапытаў начальнік,—можа быць гэта мая слабасць. Аднак вам патрэбен адрас загінуўшай жанчыны.

Ён сказаў нумар дома і назву аднае прысвіслацкае вуліцы і ўзяў тэлефонную трубку,

— Але вы замарыліся, відавочна. Я выклічу машыну, едзьце адпачываць.

— Не, не, дзякую,—хапіў яго за руку Сіневіч,—машыны не трэба. Я хачу прайсці.

Начальнік паціснуў плячыма і паклаў трубку.

— Ну, што-ж, не смею больш затрымліваць. Да пабачэння!

Сіневіч повен невыказнага велізарнага пачуцця. Ён бегма збягае на ніз і хутка пакідае за сабою гасцінны дом. На поўныя грудзі дыхаецца сакаўным паветрам у прыгожы маёвы вечар. Паветра мая поўніць грудзі незвычайнай моцай, а ногі імкнуцца ўсё ўперад, усё далей у бясконцую безутомную дарогу. Яму хацелася-б адчуваць спёку, сонца, поўна сонца на шырокім шляху паміж высокімі бярозамі, і каб моцнымі парывамі адстуджваў гарачы твар і расхрыстаную грудзіну магутны вецер здалёк, каб гулі пад ветрам бярозы і стагнаў сухі пылісты шлях. Шолах аўтамабільных шын на вуліцы здаваўся вясновым шэптам бярозавых галінак на шляху, шум

і грукат трамвая жаданымі парывамі свежага ветру. Ён прагавіта дыхаў пахаладнелым паветрам вечаровага горада.

У безлічы сваіх легіёнаў змрок упарта наступаў на высокія камяніцы і нізенькія домікі, урачыста палонячы вуліцы, імкнучыся ўгору, туды, дзе на сінім, ужо цёмна-сінім, небе пачыналі міргаць першыя зоркі. І, пераклікаючыся быццам з імі, на вуліцах горада загараліся адна за адной, потым цэлым натоўпам, потым даўжэразнымі ніткамі караляў яснюткія кроплі, выхапляючы з цемры кавалкі шэрых сцен, цэлыя дамы, заліваючы святлом бліскучыя, быццам з мяккага белага шоўку разасланыя прыгожыя каснікі вуліц з святочнымі вітрынамі. Скаланаўся змрок, кісялёваю масаю заліваў глухія завулкі, спакойныя двары і суціхаў. Над горадам палымнее зарава, у безлічных малюпасенькіх ясных кроплях гараць дамы, гараць вуліцы, гарыць увесь горад, як велізарная прыгожая ілюмінацыя.

Пачуццё радасці ахапляе Сіневіча пры поглядзе на гэтае суладнае жыццё вакол і гордасць за свой горад, свой родны горад. Тут усё сваё, усё блізкае яму: гэтыя вуліцы і тратуары, па якіх ён падшыванцам бегаў у школу, а пасля на работу на завод; гэтыя святочныя вітрыны магазінаў, поўныя прынадна-загадкавых нечаканасцей, перад якімі ён любіў прастойваць доўга, любуючыся прывабнымі рэчамі, якія часта і паслухмяна рабіліся яго палоннікамі; такія блізкія былі яму жвавыя людзі — маладыя з фізкультурным здароўем хлопцы і прывабныя дзяўчаты ў эластычным шоўку, што такім звонкім смехам радаваліся жыццю,—ён з імі хадзіў на працу, ён з імі сядзеў напрацаваўшыся ў тэатры, у кіно, ён адчуваў датыкненне іхняга локця на вуліцы—яны былі сваімі, роднымі. Раўчукі людское гутаркі зліваліся ў бурлівы іскрасты паток. Гама колераў і фасонаў гучыць гімнам вясне, маладосці, працы, жыццю. Ён распускаецца ў гэтым патоку, ён гучыць у гэтай гаме, ён усюды бачыць частку сябе; захапленне аваладвае ім, ён ідзе ў бясконцую безутомную дарогу.

Раптам яго клічуць, нейчая рука ляпае па плячы. Гэта паважаны Іван Іванавіч са сваім сябрам, якога тут-жа безадкладна рэкамендуе:

— Дарагі дружа, гэта вельмі славуты чалавек, імя яго Сцяпан і пра яго кажуць, што ён здольны выпіць усю гарэлку ў кампаніі сваіх сяброў. Я мушу сказаць, што гэта няпраўда. Дарэчы, ён сёння адзін, а я толькі замяняю аднаго чалавека і таму нас—два, ты будзеш трэці. Дарагі таварыш Сіневіч, харошы мой дружа, ты перад сабою бачыш імянінніка, і таму запрашаю, прашу да мяне. Эг-ге, такі гарэлку яшчэ не ўсю папілі нашы Васілі, яшчэ трохі і нам асталося!

Іван Іванавіч ухапіў тым-часам Сіневіча за руку і цягнуў ужо па свайму маршруту. Сярод паводкі слоў, якою той разліўся, Сіневіч і Сцяпан прывіталіся. Іван Іванавіч быў усё-такі самы гаваркі, жвавы, вясёлы, быццам саштурхнуў Сіневіча з яго дарогі, заваладаў яго настроем і пайшоў туды, куды імкнулася яго душа. Сіневічу адразу зрабілася непрыемна, ён паспрабаваў нават адмэўляцца, але адмовіцца ад запрашэння Шкуцько, старога, усімі паважанага

члена іхняга службовага калектыва, было не гэтак лёгка, таму ўся тройца пад акампанімент шкуцьковае паводкі рынула ў адну з бакавых вуліц у напрамку да кватэры юбіляра.

Змрок патроху смялеў і выходзіў з цёмных закуткаў на вуліцы. Рэдкія лямпачкі пудліва хаваліся пад нумарныя бляхі дамоў. Вокны святлелі прытульным аддаленым бляскам.

Неўзабаве яны прышлі. Па назве вуліцы і нумару дома Сіневіч пазнаў сказаны яму нядаўна начальнікам адрас.

„Які дзіўны сплыў акалічнасцей", падумаў Сіневіч, і яны ўступілі ў пад'езд, узышлі на другі паверх і доўга вобмацкам ішлі цёмным калідорам. Потым Іван Іванавіч адчыніў нейкія дзверы і яны былі канчаткова ў кватэры Шкуцько.

Пражывае Шкуцько ў двух пакоях, адзін з якіх перагароджаны старасвецкаю шырмаю—у чорную лакіраваную раму, як вязень за краты, заключаны адмысловы ўсходняга матыву ўзор. З-за шырмы вытыркае спінка ложка, а з-пад ложка чамаданы. Паблізу ад кафлянае печкі да сцяны прытулілася шырокая шашлем паточаная шафа. Па двух кутах буйналістыя запыленыя фікусы. У фікусах недакуркі. Перад акном засланы лістом паперы і ўстаноўлены дробнымі рэчамі туалетнага ўжытку столік. На акне талерка. У кутку прымус. Пад падлогаю ваююць мышы. З спінкі крэсла звісаюць заношаныя ліхія шкарпэткі. На шафе пагнутая грамафонная труба, хоць прысутнасці самога грамафона погляд Сіневіча не мог адшукаць. Здавалася, у пакоі луналі ўспаміны старых добрых часоў і сівы налёт пылу на ўсім выклікаў з памяці даўно забытыя малюнкі.

— Як вам падабаецца ў мяне?—зноў дае ходу сваім пачуццям шаноўны юбіляр, адбіраючы ў Сіневіча партфель і шапкі ў абодвух гасцей і вешаючы тут-жа на поўметравыя гвазды, паўбіватыя ў сцяну наабапал дзвярэй.—„Печать, мягко выражаясь, мирного запустения на всем", так бессаромна выказвае сваё ўражанне адзін мой знаёмы паэт. Але абурэнне яго знікае з першым поўлітрам, які з'яўляецца на стале. „Вось гэта,—кажа ён,—тое, чаго не ставала для канчатковае ўтульнасці вашаму пакою, паважаны Іван Іванавіч". Гм-х, такі брахун, такі брахун. „Мирное запустение?.. Так, мы мірныя людзі"...—з таямнічым выразам на твары, падміргнуўшы, праказаў ён прапіхаючы гасцей у другі пакой. „Мы мирные люди, но наш бронепоезд стоит на запасном пути", заспяваў Іван Іванавіч і з лёгкасцю, незвычайнай для яго год, пырхнуў да сцяны і прыўзняў з падлогі газеціну.

— Ах, грахаводнік стары!—пяшчотным басам азваўся Сцяпан.— Не растраўляй балючых ран дачасна.

Газеціна зноў прыхавала склад грунтоўных знарадаў Белдзяржспірту, якім наканавана было на працягу некалькіх дзесяткаў хвілін са страшэннай сілай разбурыць зацвілы спакой кватэры старога халасцяка.

Сіневічу зрабілася яшчэ горш ніякавата, ён з вялікім здавальненнем уцёк-бы адгэтуль зараз-жа, вось гэтае-ж хвіліны—абрыўкі нядаўнага настрою яшчэ луналі над ім,—але той-жа час пачуліся грукат, галасы, лірычны жаночы смех, і Іван Іванавіч—надзвычай

рухавы—паказаў хлопцам на канапу, выбег і прывёў новых гасцей. Не без здзіўлення пазнаў сярод іх Сіневіч. форменага чалавека з вакзала і беласнежную яго малютку. З імі былі тры дзяўчыны,— сумятлівыя, рагаткія.

— Гэта юбіляру ад жаночае грамадскасці,—сказалі яны і з разгорнутае паперы паказаўся ўрачысты пук прыгожых красак.

Юбіляр расчуліўся, падзякваў, безапеляцыйна палез з пацалункамі, але дзяўчаты са спалоханым выглядам замахалі рукамі:

— Што вы, Іван Іванавіч! Гэта павінна быць трохі пазней паводле праграмы.

— Ну-ну,—паспакайнеў Іван Іванавіч.—Выбачайце, дарагія дзетачкі,—занепакоіўся ён і пазнаёміў з Сіневічам. Астатнія былі знаёмы.

Формены чалавек вітаўся з Сіневічам з такім выглядам, быццам той упершыню сустракаецца з ім, хаця Сіневіч пазнаў яго адразу.

Дзяўчаты прынеслі гітары з бантавымі шыпакамі шаўковых каснікоў. Усе знарок убіраліся на вечар, але тым не менш разлучыліся са сваімі святочнымі, як і самі, гітарамі і выпырхнулі за дзверы падхарошвацца.

Быццам шукаючы ратунку сабе, агледзеўся Сіневіч, але ў пакоі, не гледзячы на паліцы з кнігамі, на канапу, на мяккія крэслы і мастацкія рэпрадукцыі на сценах, панавала ўсё тая-ж абыякавая пустэча, запыленая шэрая туга паглядвала з усіх куткоў.

Іван Іванавіч, гасцінна прапанаваўшы адчуваць сябе ў пакоі, як дома, пабег па гаспадарчых справах. Госці, не знаходзячы тэмы для гутаркі, паглыбіліся ў разглядванне рэпрадукцый на сценах, карашкоў кніг на паліцах,—і задымілі папяросамі.

Сіневіч адвярнуўся да кніжных паліц, дзе яго зацікавіла кніжка, вокладка якое была ўпрыгожана арнаментальным фантастычна-казачным узорам. Тоўсты том, выданы ў Празе ў 1926 годзе, быў зборнікам твораў украінскага паэта Грыцько Чупрынкі, творчасці якога і жыцця ніяк не мог ведаць Сіневіч, які ўпершыню ўбачыў і яго імя на вокладцы. Яго зацікавіла іншае. На тытульнай старонцы ў кутку прытуліўся надпіс: „Мойому Янкові. Як він будемо. Оксано. 1927 р.“. Сіневіч, як не падскочыў ад нечаканасці: зноў гэтая Аксана. Яна ўжо трэці раз пераходзіць яму дарогу пры самых разнастайных акалічнасцях. Апошняга спаткання тут на кніжных паліцах ён ніяк не чакаў. А што ва ўсіх трох выпадках гэта была адна і тая самая асоба, Сіневіч не сумняваўся. Пачуўся голас гаспадара, і Сіневіч паспешна паставіў кніжку на месца.

Івана Іванавіча эскартавалі гітарысткі і выступаў ён як важны метрдотэль на ўрачыстым палудні выбраннікаў. На руках у іх грамадзіліся талеркі з закускамі і хлебам, відэльцы, нажы, кансервы, шклянкі і ўсё гэта ўстанавілася на памястоўным канторскім стале Івана Іванавіча. З'яўленне гэтага харчовага поезда вітаў пахмурны паэт, пляскаючы ў далоні.

Стол паставілі па сярэдзіне пакою бокам да канапы. На стале

апынуліся паважныя памерам бутэлькі. Госці паселі ў застолле, прычым жанчыны ўперамежку з мужчынамі—так распарадзіўся метрдотэль.

І пачалося...

Сіневічу гэтак і не ўдалося ні вырвацца і ўцячы, ні нават, што самае крыўднае, адмовіцца ад удзелу ў гэтай оргіі. Засталося ў яго каламутнае ўражанне, быццам па мордзе яго змазалі і ён астаўся здаволены тым. Якое паскудства! Пілі і закусвалі, пілі і разлівалі, потым ігралі на гітарах і спявалі п'янымі галасамі, скакалі і падалі, цалаваліся адно з адным... Праўда, у гэтым ён не браў удзелу. Ён выпіў чарку і больш адмовіўся.

У Сіневіча такое ўражанне, быццам наплявалі яму ў душу і не вытруціць гэтага пляўка яму ніколі, ні за вошта.

Упершыню яго жонка, таварыш і верная сяброўка назаўтра пазірала насцярожана і вочы ў яе былі такія дзіўныя і незнаёмыя Сіневічу.

Пры аглядзе і ўпарадкаванні партфеля высветлілася, што ў яго партфелі нехта корпаўся. Не выспаўшыся, не ўзяўшы ні расінкі вады ў рот, незвычайна маўклівы, ён пайшоў у горад.

Прышоўшы, Сіневіч адразу пастукаў да начальніка. Яшчэ з парогу твар начальніка здаўся яму незразумела-чужым і вочы такімі, як дома ў жонкі. Апошняе трохі пахіснула на момант цвёрдасць прынятага ім рашэння. Але ён перамог няўпэўненасць. І, калі начальнік спачувальна запытаўся, гледзячы ў вочы, што з ім, ці не хворы ён, Сіневіч расказаў усё.

Начальнік здзіўлена слухаў, і твар яго выказваў строгасць і замкнутасць. Ні слова ганьбы не вырвалася з вуснаў, ні спачування, быццам раіўся ён сам-на-сам, які прысуд вынесці гэтаму злачынцу. Сіневіч скончыў, а ён маўчаў і толькі праз нейкую часіну загаманіў.

— Вы дазволілі сабе благі ўчынак.

У голасе начальніка Сіневіч пачуў нотку чорствасці і сэрца ад таго ўпала ў глыбокую чорную бездань, і шчымлівы боль тугі разрэзаў свядомасць.

„Не, я зрабіў правільна, прышоўшы сюды, каб расказаць безадкладна пра ўсё".

А ўголас сказаў:

— Паверце, таварыш начальнік, мне вельмі шкада, што я не апраўдаў вашага давер'я.

— Майго давер'я?—перапытаў начальнік.—Вы не апраўдалі вашага ўласнага давер'я, давер'я і павагі. Паважаючы людзей, трэба паважаць і самога сябе, сваю годнасць чалавека, члена грамады.

Цяплом патыхнула ад тых слоў на Сіневіча, цяпер сэрца калацілася роўна і спакойна, цяпер яму быў сорам, вялікі сорам перад самім сабою. Ён адчуваў, як знікаюць чорныя безнадзейныя фарбы яго настрою, а чырвонае полымя сораму гарыць на твары. Яму цяжка было глядзець у вочы чалавеку.

— Але гэта паправіма,—пачуўся голас начальніка.—Сваёй работай і паводзінамі вы павінны загладзіць свой учынак і пакаранне павінны прыняць як заслужаную плату.

Сіневіч наскрозь зямлі гатоў быў прайсці, хоць начальнік, сказаўшы апошнія словы, быццам забыў пра іх. Ён глядзеў у акно, а на твары ні ценю строгасці, здавалася Сіневічу, а вочы блішчаць звычайнай дабратой.

„Яго нешта зацікавіла“, падумалася Сіневічу.

На выступе сцяны пры акне шэры верабей з асаблівым тэмпераментам выцііліўкваў сваю радасную птушыную песню.

Начальнік заўважыў Сіневічаў погляд і ясная ўсмешка кранулася вуснаў.

— Добра...—сказаў ён, быццам адказваючы некаму на нешта.— Добра, таварыш Сіневіч, давай да справы.

— Таварыш начальнік, дазвольце вам паведаміць,—надаючы афіцыйнасці словам, сказаў Сіневіч.

Ён упамянуў пра надпіс на кнізе Чупрынкі. Але, відавочна, начальнік слухаў яго толькі з далікатнасці, так здавалася Сіневічу, бо зараз-жа і без усякае цікавасці ён запытаўся:

— Усё? Добра... Калі вам не цяжка, таварыш Сіневіч, паглядзіце, ці прышоў Іван Іванавіч і пакліча яго сюды. Ды і самі прыходзьце.

Сіневіч вышаў і неўзабаве вярнуўся з Іванам Іванавічам.

На твары ў юбіляра не аставалася ніякага знаку ад мінулай афінскай ночы. Толькі яшчэ большай паважнасці надавалі ледзь прыкметныя падушачкі прыпухласці пад вачыма ды цяжэй як звычайна рухаліся павекі, быццам сон забыў адляцець ад іх у далячынь з рэшткай ночы і хаваўся ад відна пад натапыранымі брывамі.

— Вы мяне клікалі, начальнік? Я вас слухаю,—ліслівa замітусіўся Іван Іванавіч.

— Клікаў, але ўважаю за лепшае паслухаць вас. Скажыце, калі ласка, як справа ў вас з гэтай сямейнай трагедыяй, паводле вашай кваліфікацыі.

І тут зрабіліся ў момант рухавейшымі цяжкія павекі ў Івана Іванавіча, дзе дзеўся валавяны цяжар ад бяссонае п'янае ночы. Ён ураз распачаў дэманстрацыю свае, яму аднаму вядомае, сістэмы рухаў і поз. Іван Іванавіч вялікі майстра быў на гэта. Строгі кабінет раптам устрыпянуўся, загаманіў, кожная рэч, здавалася, заруxалася і заскакала на задніх лапках пад музыку Івана Іванавіча.

— Я думаю і прыдумаць, начальнік, не магу, якую-б кару прапанаваць для ўнясення ў крымінальны кодэкс для раўніўцаў і раўнівіц.

Ён барашчэў бесперастанку, як малатарня ў гарачы восеньскі дзень, канца-краю не было гэтай паводцы слоў і рухаў.

Не ўважаючы на камплекцыю, скача і мітусіцца, як блазен, Іван Іванавіч, расказвае розныя крымінальныя гісторыі і быццам ніяк не кранае яго натхнення начальнікава маўклівасць. А ён гэтак стараецца. І, як ні стараецца,—ні слова, ні ўсмешкі. Гэта бярвенні, а ні людзі.

— Нічога не скажаш—чыста зроблена. Але па-мойму, начальнік, прыдзецца спыніць... Я прапаную вядзенне справы спыніць.

І раптам адчуў Іван Іванавіч подых надыходзячай буры.

— Так, чыста зроблена... спецыялістам свае справы,—ледзяным голасам праказаў начальнік і пальцы нечакана разгарнулі ў адзін момант папку з паперамі, што ляжала перад ім на грубым настольным шкле.

Ветраны віхор даткнуўся твару Івана Іванавіча. І фізічна востра адчуў ён, як імгненна ўстаюць валасы на галаве. Ледзяны подых буры ахапіў яго і холад бязлітасна скуў ногі.

— Палюбуйцеся на сваю работу. Чыста зроблена!

Гэты абыякавы начальнік, якім увесь час яго ведаў Іван Іванавіч, наганяў цяпер люты сівер, у яго словах насоўвалася дыханне студзёнай Арктыкі і дыханне тое замарожвала Івана Іванавіча.

Рэзкі рывок рукі начальніка ад папкі—і перад Іванам Іванавічам фатаграфіі незнаёмае забітае жанчыны.

— За што вы забілі гэтую жанчыну, якую чакалі ў Ленінградзе блізкія людзі? За што вы—Іван Іванавіч Шкуцько, вы—Іван Шчука, вы... са сваёй Аксанай, вы... гэта неўзабаве стане вядомым, хто хаваецца пад вашай трэцяй шкурай, за што вы яе забілі. Так вы—вялікі спецыяліст!

І знікла паводка, няма мітусні, наляцела і прайшла бура, астаўся, як пасля ледніковага нашэсця, сталёвы холад, з абдымкаў якога ён не мог вырвацца, каб апынуцца па-за гэтым пакоем, па-за гэтым будынкам, там, дзе—як ён меркаваў яшчэ зусім нядаўна—была ясная сонечная вясна.

— Таварыш Сіневіч, абшукайце яго!

---

Аднойчы позна ўвечары, ідучы дахаты, ён з асалодай дыхаў пасвяжэлым начным паветрам і душа раскрывалася для шырокіх сяброўскіх абдымкаў, для неабсяжнага кахання. Ён з болем успамінаў тую пакутную раніцу, калі ішоў з прызнаннем да начальніка, але боль не выклікаў тугі і чарнаты. Пахмурныя фарбы палінялі і зніклі. Усё навокал яго—гэта ён сам, ён і навокальны свет—адно цэлае. Гэты боль быў прыемным болем. Ногі пруткa няслі па шырокіх тратуарах сонных вуліц, ён не адчуваў ні зморы, ні патрэбы ў сне, яго бадзёрасць была магутнаю, нястомнаю.

Тае ночы Сіневіч бадай не спаў і раніцай толькі лёгкае прыемнае замарачэнне давала адчуваць сябе, але зморанасць не з'яўлялася па-ранейшаму. Праз усю ноч светлыя думкі і вобразы нараджаліся ў безлічы і акружалі яго і сон не ў змозе быў рады даць яму. Небывалае натхненне авалодала ім і безутомна ад учарашняга ў сярэдзіне трыпятала такое нязнанае і такое прыгожае пачуццё. Шырокая звонкая дарога пачувалася пад нагамі—дарога яго лёсу, рукі адчувалі абкружаючае, вочы замілоўваліся гэтак знаёмым яму ўсім, як прыгожым, ніколі нябачаным, ён не ўздыхаў—ён піў сакаўное начное паветра.

Моц спявала ў грудзях яго дзіўную песню, і блакітнае неба іграла ў вачах, выклікаючы цудоўную мелодыю колераў, калі Сіневіч ішоў раніцою ў горад. Ён не пазнаваў дарогі, кожны крок якое прымігаўся за гэтыя колькі год, не пазнаваў фасадаў дамоў,

заводаў, вуліц, людзей, сонца, дрэў. У паветры гучэла дзіўная песня, можа гэта яна і адгукалася ў яго сэрцы, нараджаючы магутную сілу імклівасці, а можа гэта ён сам голасна спяваў ідучы, і ў гучным паветры ранішняга горада ўздымалася і расло звонкае рэха.

Стрэлка гадзінніка яшчэ павольна паўзла да дзевяці, але таварышы Сіневіча былі ўжо на рабоце і з гоманам віталі яго і віншавалі. Ён не разумеў, у чым справа. Дзесьці ў глыбіні вынікла падазрэнне, што з яго хочуць злосна пажартаваць, але твары ў таварышоў пераканалі яго і ў іхняй шчырай прыязнасці і нават зайздрасці. Не ведаючы яшчэ ў чым справа, ён тым не менш, палічыў недалікатным не падзякаваць:

— Вельмі... вельмі ўдзячны. Але я не разумею, за што...

— Не разумее!.. Глядзіце!..—пасыпаліся галасы.

Яму падалі аркуш паперы і Сіневіч пазнаў начальнікава пісанне. Гэта быў загад па ўстанове, перадаены на машынку, і ў загадзе на пачэсным месцы стаяла яго імя, яму абвяшчалася падзяка і выдаваўся каштоўны падарунак за выдатна праведзеную работу па апошніх справах. Таварышы ціснулі руку, у мітусні ўрачыстасці наступалі на ногі і—патрабавалі піва. Сіневіч падзякаваў за выказ таварыскіх пачуццяў, і пайшоў да начальніка.

Калі на адказ „можна“ Сіневіч апынуўся ў кабінеце, начальнік вышаў яму насустрач з працягнутай рукой, і ў сваю чаргу павіншаваў з узнагародай. Сіневіч не адразу знайшоў, што адказаць, на вока выплыла аднекуль дурная сляза. Ён паміргаў, каб сагнаць яе, і толькі тады праказаў ціха:

— Вы мяне навучылі працаваць і жыць. Гэтага ўрока я ніколі не забуду, ён застанецца назаўсёды ў маёй памяці.

— Сядай, таварыш Сіневіч,—цёпла адказаў начальнік.—Дзякаваць мне трэба менш за ўсё. Багатае падзеямі жыццё наша табе дало ўрок і я вельмі рад, калі ён не прайшоў дарэмна.—І хітравата пазіраючы на ўсхваляванага Сіневіча, спытаў:—Аднак, можа вам цікава ведаць, што здарылася з некаторымі нашымі знаёмымі, напэўна? Слухайце... Іван Іванавіч Шкуцько—чырвонагвардзеец аднаго з большэвіцкіх атрадаў на захадзе ў баях з шматлікімі ворагамі рэволюцыі быў цяжка паранены і трапіў у іх рукі. Ворагі забралі дакументы, у тым ліку і партыйны білет і паскорылі смерць Шкуцько. Гэта і паслужыла падставай для з'яўлення ў жыцці пасляваеннага часу члена партыі з тысяча дзевяцьсот восемнаццатага года былога чырвонагвардзейца і надзейнага работніка з заслугамі, усімі паважанага Івана Іванавіча Шкуцько, у якога раілі другім вучыцца. Вы дапамаглі садраць авечую шкуру з гэтага хітрага і небяспечнага воўка. Вы, мабыць, не дагадваецеся пра Аксану? Памятаеце пра здарэнне з магутным самалётам у адным з буйнейшых нашых прамысловых гарадоў, два гады таму назад, калі загінула некалькі дзесяткаў чалавек—будаўнікоў гэтага-ж самалёта? Там не абышлося без яе ўдзелу. Тым-часам дзяўчынка, якую яна прывезла з сабою, была патрэбна ёй для адводу воч, каб паказаць сябе за прыстойную сямейную жанчыну. А ўзяла яна дзяўчынку ў аднае старое, якая ў сваю чаргу яшчэ даўней узяла беспрытульную

дзяўчынку сабе на выхаванне і за гэта атрымлівала грошы. Старая скнара мучыла дзяцей, іх у яе было аж трое і, вядома, што добра зарабіла на гэтай справе.

— Мы з жонкаю парашылі пакінуць Гапку і выхоўваць як сваю родную дачку. Цяпер у нас будзе дзве дачкі.

— Добра, таварыш Сіневіч. Але слухайце. Аксана—птушка вялікага палёту, нават большага за свайго партнёра. А той ад самых першых дзён рэволюцыі вядзе свой воўчы стаж. Шчука гэта яго другая шкура, якую скінуць у УГБ і ўбачаць трэцюю і дойдуць нарэшце да таго, кім пачынаў сваю кар'еру гэты вайсковы дыпламат беларускае рады ў гетманцаў і пятлюраўцаў, гэты драпежны забойца. Ведаеце? Аксана арыштавана на Далёкім Усходзе з дакументамі і пашпартам забітае жанчыны-тапельніцы. У яе руках сыходзіліся ніткі сувязі з замежнымі разведкамі. Іван Іванавіч—пакуль што будзем называць яго гэтак—яе стары прыяцель па нацыяналістычных колах. Гэтым усё сказана. Вось вам адзін кавалак жыцця. Жыццё навучае.

— Але скажыце, як вы даведаліся, што жанчына не толькі забіта, а і скальпавана?—у захапленні запытаўся Сіневіч.

— Скальпавана... вось іменна, дарагі, скальпавана, а не забіта, не забіта, бо задушана, рукамі за горла ўзята і задушана. Ім патрэбен быў пашпарт, каб замесці сляды Аксане. Таго дня збіралася ў Ленінград тая жанчына. І не выехала. Але каб не пазналі забітае, яе пазбавілі аблічча. Я адразу тады заключыў, што жанчына тут шмат каму вядома, і забойца яе блізка стаіць да следчых органаў, бо добра знаёмы з крымінальна-следчай справай. Злучанымі намаганнямі, галоўным чынам, вашых, і вашых доказаў, мы злавілі вялікіх ворагаў. Гэта—жыццё!

Звонкая песня гучэла ў паветры за акном.

На выступе сцяны шэры верабей цілікаў сваю бесклапотную птушыную песню.

Сіні шоўк неба над ломаным кругавідам камяніц, над горадам.

І блізка, і далёка...

І хочацца Сіневічу прыкрануцца да яго рукой і павольна пагладзіць кончыкамі пальцаў мяккую кволую гладзіню сіняга шоўку.

1936—37 гг.

---

*Тодар Курбацкі*

# ІДЗІ, МАЯ ПЕСНЯ

Ідзі, мая песня, ідзі і жыві
У думах, у сэрцах гарачай крыві,
Уздымайся высока, бы воблачны птах,
Вучыся хадзіць у армейскіх радах.
Стань мужным армейцам ў тугія калоны.
Там лепшыя тоны і рыфм переразвоны.
Я хочу, каб грозна на гадаў стаянкі
У часе паходаў вадзіла ты танкі.
Я хочу, каб песня праз дні і вякі
Па мірных дарогах вяла цягнікі,
Дзе нівы гамоняць, дзе спеюць ўраджаі,
Дзе песня калгасніц пад сонца ўзлятае!
За гэтае неба, сады і палі
Няма шчаслівейшай на свеце зямлі...
Тут светлаю хваляй Сож б'е ў берагі,
Высокімі травамі дышуць лугі.
Далёка за лесам спяваюць гудкі,
На поўдзень багаты грымяць цягнікі,
Бясконца спяшыць за вагонам вагон
У стэпы пшаніцы, на сонечны Дон...
У ёй многа жаданняў, свабоды, цяпла.
Шануй сваю маці, з якой ты ўзрасла.
За гэту радзіму плацілі крывёю
Найлепшыя людзі—народа героі.
За гэту радзіму з жыццём маладым—
Порах на варце трымаем сухім!

Хойнікі, 1938 г.

*М. Казлоў*

# У КАЛЬЦЫ

(Апавяданне)

Іх было трое.

Яны сядзелі пры астываўшым агні і, дрэмлючы, нецярпліва чакалі, калі пачне развідніваць.

Ноч была не такая ўжо халодная.

Усе маўчалі. Хіба толькі хто зірне на бакі, пазяхне, або павольна скруціць цыгарку, ды закурыць.

— Так!...—сказаў раптам Іван Сяргеевіч.

Двое азірнуліся і паглядзелі, як ён павольна ўзяў зіхатлівы вугальчык, прыкурыў і паглядзеў на сваіх таварышоў.

— Вы вось займаецеся баявой падрыхтоўкай,—пачаў Сяргей Іванавіч,—спакойна, абдумана... Вывучаеце тэхніку, якое—слава нашай радзіме—далі вам досыць, а вось мы... мы яе тады не мелі.

Сяргей Іванавіч уздыхнуў. Крыху памаўчаў. Дастаў зноў вугальчык, прыкурыў патухлую цыгарку.

— Цяжкія былі часы. Грамадзянская вайна навучыла нас шмат чаму.

— Гэта і відаць... За дзякуй такія рэчы на грудзі не даюць, Сяргей Іванавіч,—сказаў бязвусы, з пляскатым трохі носам і насунутай на самыя вочы шапкай Міша, і дадаў:—А вы ніколі не хочаце расказаць, за што яго атрымалі.

На чырвоным банце на грудзях у Івана Сяргеевіча быў прыколаты ордэн Чырвонага Сцягу.

Пацїху, нібы сам сабе, Сяргей Іванавіч сказаў:

— Доўгая гісторыя, хлопцы...

— Да відна яшчэ далёка, Іван Сяргеевіч,—прамовіў зноў Міша і, падсунуўшыся да Івана Сяргеевіча, па-дзіцячаму паглядзеў у яго блакітныя дабрадушныя вочы.

— Ну, добра.

Таварышы насцярожана павярнуліся да яго і затаілі дыханне.

— Гэта было даўно,—пачаў пацїху Іван Сяргеевіч.—Наш полк ішоў тады на банду Ібрагім-бека... Змораныя пагоняю, дзень-прыдні па гарах, мы выбіліся з сілы, а бандыты не пакідалі паказвацца то з аднаго, то з другога боку. Адагнаўшы іх у горы, мы па загаду камдыва асталяваліся ў кішлаку Гучэмба на адпачынак.

Але банды маглі нечакана зноў з'явіцца і таму полк, улічыўшы гэта, раздзяліўся на дзве часткі: адна выконвала каравул, а другая займалася баявой вучобай.

Іван Сяргеевіч памаўчаў. Павольна скруціў зноў цыгарку.

— Камандаваў тады я эскадронам.

Ён выпусціў дымок і паглядзеў, як той хутка зліўся з цемраю ночы.

— Распалажыўся я з эскадронам у адным з вялікіх двароў кішлака. У гэтым самым кішлаку стаяў і штаб палка. Я такім чынам быў самым блізкім камандзірам да штаба і мяне накіравалі прымаць папаўненне. Прыняць яго трэба было за шэсцьдзесят кілометраў ад нашага распалажэння. Была, як памятаю, раніца. Сонца іграла на вяршынах гор. Было гэтак хораша і прыемна, што я не мог не радавацца, гледзячы на гэтую прыгожасць. Трэба было праехаць некалькі лагчын, уз'ехаць на дзесяткі гор і з'ехаць з іх, а галоўнае, пераехаць рэчку, якая цякла гэтак шпарка, што збівала часам з ног коней.

Мой конь ступаў хутка. Праз дзесяць гадзін я быў ужо на месцы. Раніцою прыняў людзей і коней і адразу-ж рушыў у дарогу з тым, каб пад вечар, да змяркання быць у палку. Прынятыя людзі звыш майго спадзявання былі жвавыя, смелыя. Большая частка іх—украінцы—добра ведалі каня, хоць у баях яшчэ не былі і пораху, як кажуць, не нюхалі, але былі добра навучаныя. Ехалі спачатку не спяшаючыся. Я адчуваў у трыццаці ехаўшых за мною байцах сілу. Закалыханы аднастайнай яздой, я прыдрамнуў. Сонца смаліла неймаверна. Наперадзе і па баках—горы. Яны настолькі высокія, што здавалася, вярхі ўпіраліся ў блакітнае неба. Уз'ехалі мы на адну гару, на другую. З'ехалі ў лагчыну, і тут стала яшчэ гарачэй, быццам сонца знарок павісла над ёю і пякло.

Едзем далей. І толькі гэта пачалі мы ўз'язджаць на гару, як раптам з-за схілу процілеглае гары паказалася чорная кропка. Я не ўзяў гэтага на ўвагу, пацягнуў правы повад і паехаў па схілу. Азірнуўся. Кропка, пра якую не думаў, вырасла ў коннікаў. Гэта быў атрад басмачоў. Яны напэўна сачылі за намі даўно і цяпер хацелі перарэзаць нам дарогу і прыцісьнуць да цясніны. Вялікая маса коннікаў рухалася ў напрамку да нас, шпарка скарачаючы паміж намі адлегласць.

Сэрца маё скаланулася. Я баяўся, што нам не ўдасца вытрымаць напору. Басмачы абкружылі нас. Яны раздзяліліся на групы: крайняя з левага боку засталася на месцы, другая ішла трухам у абход і трэцяя заязджала нам насустрач. Мы прышпорылі коней. З'ехалі з гары, пачалі ўз'язджаць на другую, а за ёю—лагчына. Мне вельмі не хацелася, каб нас сустрэлі на гары. У лагчыне—больш разгону.

З'ехаўшы ў лагчыну, я вольна ўздыхнуў.

Недалёка, памахваючы ў паветры клінкамі, выскачыла група басмачоў.

„У кальцы“,—падумаў я.

Патрэбны былі самыя неадкладныя захады.

Я зірнуў назад: пазаду спакойна пагойдваліся на сёдлах байцы.

— Да бою!—скамандаваў я.

Басмачы тым часам націскалі, яны былі ўжо гэтак блізка, што яшчэ момант—і ўсё прапала.

Мы прышпорылі коней.

Басмачы, бачачы, што мы ўцякаем, рушылі смялей. Яны крычалі з усіх бакоў, і мне здавалася, што іх—незлічоная колькасць.

Ля рэчкі мы прыпыніліся.

Прынятыя намі коні былі пудлівыя і ў ваду ісці не хацелі. Рэчка бегла шпарка. Яна гнала ружовую ад сонца пену, раўла. Ззаду і з бакоў ляцелі дзікія галасы басмачоў, грымелі выстралы, блішчэлі і звінелі клінкі.

— Коні не хочуць ісці!—крыкнуў нехта.

Злазім і пхаем іх сілаю. З пяцёра сапхнулі, а за імі пайшлі і ўсе.

Імчым далей. Пазаду далёка засталіся крыкі. Басмачы пакінулі даганяць. Лягчэй зрабілася на сэрцы. Спакойна пераходзім на трух. Раптам, з-за гары, нам насустрач выскачыў новы атрад, быццам ён вырас з-пад зямлі. І чым шпарчэй рушылі мы, тым хутчэй скарачалася паміж нас адлегласць“.

— Іван Сяргеевіч, усе пераехалі, значыцца?—запытаўся адзін з слухаўшых.

Іван Сяргеевіч падняў галаву, паглядзеў на таварышоў, памаўчаў з момант і адказаў:

— Усе.

І, кашлянуўшы, казаў далей:

— Гэта былі басмачы, што выперадзілі нас гарамі. Што тут было рабіць? Павярнуць назад? Пазаду мы пакінулі ўжо адзін атрад басмачоў. Па баках—горы і басмачы таксама, дый там няма дзе дзецца і гэты крок быў-бы бяссэнсным. Трэба прымаць хуткае рашэнне. У мяне мільгацііць адна думка: рашэнне можа быць толькі адным—трэба прарвацца, скамячыць гэты атрад басмачоў, што стаў нам на дарозе і выйсці з кальца. Дарога можа быць толькі адна: упярод. Вырашаю дзейнічаць напралом. І тут-жа я падумаў, што толькі асабісты прыклад камандзіра можа выратаваць усіх.

— У атаку за мной, ура!..—крыкнуў я, не азіраючыся.

Але байцы не адсталі. Я чуў іх крыкі „ура“ за сабою ды звонкі лёскат конскіх падкоў.

Першы ўдар быў мой. І з таго часу я пакінуў адрозніваць пасобныя гукі. Усё змяшалася ў агульным шуме бою.

На адну хвіліну мне захацелася ахапіць поглядам карціну бою, убачыць сваіх маладых байцоў, падбадзёрыць іх галасам. Але нейкі басмач скарыстаўся гэтым і сакануў мяне, ды няўдала, па левым плячы. Я адказаў яму меткім ударам і ён упаў на грыву каню. На мяне наскочыў другі, трэці, мяне акружылі з усіх бакоў і адцяралі ад сваіх байцоў. „Добра“, думаю я. І даю шпоры каню. Конь віхурай вырываецца і выносіць мяне на бок. Басмачы кучаю з гікан-

нем—за мною. Мне гэтага толькі і трэба было. Басмачы аслабілі напор на чырвонаармейцаў. Я азірнуўся. Мае байцы імчалі мне на дапамогу, змятаючы з дарогі паасобных басмачоў. Тады я павярнуўся зноў. Зноў зазвінелі шаблі. Але раптам мяне аглушыла і ў вушах перасціх звон і шум.

Ці доўга цягнулася гэтак, не памятаю. Калі я расплюшчыў вочы, вакол было ціха і наўкруг мяне стаялі байцы. Яны нешта шапталі.

— Няма траіх, таварыш камандзір,—сказаў нехта.

... Іван Сяргеевіч паглядзеў на ўсход.

На ўсходзе пажарам загаралася зара. У баку, на балоце, знізілася чародка качак. Зашчабяталі вясёлыя птушкі.

— Вось і ўсё,—скончыў Іван Сяргеевіч.

Усе ўсталі, узялі зброю і павольна пайшлі на балота.

---

*Міхась Калычынскі*

## У АРМІЮ ІДУ

Ідзе лістапад урачыста
Па жоўтым багатым саду.
Ты чуеш, зайгралі гарністы—
Я ў армію хутка іду.

Над полем, над лесам высока
У вырай лятуць журавы...
Са мной ты выходзіш, сяброўка,
Праводзіш на пост вартавы.

Я стану праз дзень на заставе,
Развеяўшы ростані сум;
Ты будзеш са мной, як на яве,
Я ў сэрцы цябе панясу.

Час пройдзе.
Зара лістапада
Узнімецца зноў у саду,
Табой незабыты дахаты
Тады, дарагая, прыду.

Гавораць—не сходзяцца горы,
Бяскрылы не можа лятаць...
Няпраўду, няпраўду гавораць—
Любоў усё можа скараць;

І горы далёкія зводзіць...
Бяскрыламу крыллі дае...
Сяброўка, бывай! На усходзе
Зара урачыста ўстае.

*Міхась Калачынскі*

## СУСТРЭЧА

Прыходзіць вечар. На двары
Даўгія цені скрозь ляжаць.
Заціхлі цёплыя вятры...
Іду я дзеўчыну страчаць.

Яна, каханая, жыве
Па той заветны бок ракі.
Іду па пожнях. У траве
Гамоняць конікі, жукі,

Гамоняць качкі ў трасніках,
Крычыць трывожна селязень.
Люблю ісці я па лугах,
Калі спякотны меркне дзень!

Рака шырокая ў дыму;
Туман паслаўся на лугу.
Так сэрцу весела майму—
На бераг да яе бягу.

Не можа дзеўчына знайсці
Нідзе рыбацкага чаўна.
— Хіба у бродзе перайсці?
Пытае ласкава яна.

Не йдзі—глыбокая рака,
Памочыш русую касу!
Цябе ў руках, бы матылька,
На бераг свой перанясу.

г. Менск.

*Мікола Ткачоў*

# НА ГРАНІЦЫ

(Апавяданне)

## I

Густая цемра напоўніла хату. Наташа вобмацкам адшукала пячурку, узяла сернікі і запаліла лямпу. Малочным святлом абліўся пакой. У натуральны выгляд перафарбавалася ўсё, што было ў хаце.

Падышоўшы да люстэрка, што стаяла на стале, дзяўчына пачала прычэсвацца. Каштанавыя валасы ад руxaў грэбня, нібы ад ветру, спаўзалі на белы і роўны лоб, з-пад шырока адкрытых павекаў паблісквалі чорныя вочы; ад дзённай працы на холадзе твар палаў чырванню.

Аглядзеўшы сябе, Наташа ўзяла з этажэркі свежы нумар газеты і пачала чытаць. У хаце настала глыбокая цішыня. Толькі чутна было ціканне будзільніка ды нуднае скавытанне восеньскага ветру. Ён, як сейбіт, кідаў у вокны прыгаршчы халодных дажджавых кропель, бязлітасна біў па шыбах. Як хараша пасля працы на такім кепскім надвор'і быць у цеплыні і спакої!

— От, гады! Зноў парушэнне!—са злосцю сказала Наташа, узрушана захадзіўшы па пакоі.

Мусіць, яе голас дайшоў да пярэдняй палавіны, бо ўслед з гэтым парывіста адчыніліся дзверы і на парозе з'явіўся з аладкай у руцэ вёрткі хлопчык. Дапытлівым позіркам ён утаропіўся на сястру, а потым не стрымаў:

— Натка, чаго ты ўскіпела?

— Ды вось, Васілёк, „Звязда“ піша, што новая банда зноў наляцела на далёкаўсходнюю граніцу. У час перастрэлкі забіты два савецкіх пагранічнікі.

— От, гады!.. А памятаеш, Натка, як гэтым летам адзін дыверсант перайшоў граніцу. Калі наш пагранічнік пагнаўся за ім, дык той адкрыў страляніну. Тады...

— Годзе, Васілёк, я гэта ведаю,—спыніла яго Наташа.

Васілёк хоць і хацеў яшчэ штосьці сказаць, але змоўк, безнадзейна махнуўшы рукой. З'еўшы аладку і выцершы рукі, ён узяў з этажэркі кнігу „Народжаныя бурай“.

Хвілін праз дзесяць Наташа адвяла вочы ад газеты. Яна скончыла чытаць і глядзела на брата. Ён неяк з палёгкаю ўздыхнуў і не стрымаў сваіх уражанняў.

— От гэта ну-у-мар. А-а-ах! Здаецца, і сам быў-бы разам з імі.

— Дзе гэта так?—пацікавілася Наташа.

— Помніш момант, калі Андрэй Птаха даваў гудок і адбіваўся ад паліцэйскіх варам. Пасля да Андрэя прабраўся Васілёк і выратаваў брата. То я кажу, чытаеш пра гэта, а ў самога аж душа заміраe: так і пусціў-бы, здаецца, разам з Птахам струмень гарачай вады ў паліцэйскага.

Адчыніліся дзверы. У пакой увайшоў Павел Ластаўка. Ён прывітаўся з Наташай, затым падышоў да Васілька і працягнуў яму руку.

Наташа бачыла, як вочы Васілька радасна заблішчэлі. Хлапчук адвёў руку і—дзве далоні ўдарыліся адна аб другую.

— Мне здаецца, вы абмяркоўвалі штосьці.

Наташка пазнаёміла Паўла з размовай паміж ёй і Васільком.

— Ах, вось яно што. Бач, Вася,—звярнуўся Ластаўка, паклаўшы хлопчыку на плячо сваюваласатую руку.—Васілёк, як вядома, праявіў гераізм, выручыўшы Андрэя з такога цяжкога становішча. А вось ты, што можаш зрабіць, каб храбрасць сваю паказаць?

— Гм... Пажыву, мо' што-небудзь і зраблю,—адказаў Васілёк і задумаўся.

— Ну, а яшчэ што вычытаў, Вася?

— Вычытаў пра каханне Андрэя Птахі з Алесяю. Ну, а пра ваша каханне, Павел і Натка, пакуль што ў кнігах не напісана.

Хлопец і дзяўчына сарамліва глянулі адзін на другога. З пярэдняга пакою пачуўся голас маці. Васілёк з кнігаю ў руках выйшаў і больш не прыходзіў: здагадлівая маці, палічыўшы чамусьці што Васілёк там лішні, патурбавалася адазваць яго.

Яшчэ ўдзень Павел і Наташа ўмовіліся напісаць карэспандэнцыю ў раённую газету, цяпер яны ўзяліся за працу, якая адняла ў іх часу амаль каля гадзіны.

„Учора ў нашым калгасе адбываўся агульны сход, прысвечаны выкрыццю савецкімі органамі шпіёнаў і дыверсантаў. Калгаснікі шмат гаварылі аб рахункаводзе Разбоеве. Людзі прыводзілі багата фактаў, якія сведчаць, што ён—небяспечны чалавек.

Вясною, калі часова не было дажджоў, ён хадзіў па хатах і агітаваў, каб ніхто не выходзіў на працу, бо ўсёроўна пасевы загінуць і калгаснікі на працадзень нічога не атрымаюць.

Разбоеў сістэматычна ўтойвае працадні лепшых калгаснікаў-стаханаўцаў, прыпісвае іх сваім родным, сям'і старшыні, і тым, хто каля яго ходзіць, як лісівец, ды яшчэ з падмазкай"...

## II

Калгасны вартаўнік даволі хутка апынуўся каля дому Наташы. Ён бразгаў у акно моцна і настойліва. Ён бачыў як Наташа адхінула паркалёвую фіранку і дапытлівым позіркам утаропілася ў яго.

— Натка, адчыняй!..

Яна штосьці сказала, але ён нічога не разабраў, бо вецер заглушаў яе голас. Ён пайшоў да каліткі.

— Ох і надвор'е-ж сёння, каб яно запаветрала. Добры гаспадар сабаку пашкадуе выгнаць на такі дождж,—казаў ён, атрасаючы ў парозе шапку, змочаную наскрозь.

— Якая-ж няволя, дзядзька, панесла цябе да нас?—пачаў дапытвацца Павел.

— Прыехаў пагранічнік, экстраныя справы.

Доўга не прышлося размаўляць. Павел і Наташа апрануліся хутка. Яшчэ не спаўшы Васілёк здзіўлена спытаў:

— Куды вы?

— Старым будзеш, усё ведаючы,—спыніла яго маці, нібы для яе ўсё гэта не ўяўляла ніякіх таямніц.

— Ты-ж старая, таксама не ведаеш,—не стрымаў Васілёк.

— Ат, з табой не згаворышся.

А ў канцылярыі ўжо сядзеў пагранічнік. Разбоеў рашыў загаварыць:

— Хто вам патрэбен?

— Той зараз прыдзе,—ухіліўся ад канкрэтнага адказу пагранічнік.

— Вы што, па нейкай справе прыехалі?

— Без справы, здаецца, не ездзяць.

У гэты час адчыніліся дзверы і на парозе паказаліся Павел і Наташа.

— Добры вечар, таварыш Кобрын!—сказаў Павел.

— Добры вечар, таварышы,—у сваю чаргу адказаў баец, паціскаючы рукі ўвайшоўшым.

Для Паўла і Наташы без слоў было вядома, чаго прыехаў пагранічнік. Ведаў і Разбоеў, але прыкідваўся чалавекам, які не ў курсе справы. Ён тупа ўнурыўся ў бухгалтарскія кнігі, быццам спяшаўся скончыць нейкую работу.

— Разбоеў, табе трэба на некалькі хвілін пакінуць пакой.

— Мне?..—торкаючы пальцам сабе ў грудзі, запытаўся ён і абурана зірнуў у суровы твар Наташы.—Чаму пакінуць? Я-ж заняты...

— Давай не спрачацца.

— Мне-ж заўтра трэба здаваць справу новаму рахункаводу, таму няма часу разгульваць па двары.

— Мы чакаем.

— Можаце гаварыць. Я не маю ніякіх прычэпак і прэтэнзій да вашых сакрэтаў. У мяне свайго хапае. Во, дакументы адзін з адным не сходзяцца, дык хоць плач. Патануўшы ў гэтай кашы, ніколі не захочаш вашых сакрэтаў.

— Просяць, значыць, трэба.

— Эх, вы! Патрэбны мне вашы сакрэты, як дождж у сенакос,—агрызаўся ён, неахвотна выходзячы за дзверы.

— Відаць патрэбны, што трымаеш сябе так. Бач, распыхцеўся, як паравоз,—кінула яму ўслед Наташа, чакаючы, пакуль ён выйдзе.

— Як я бачу, гэта не наш чалавек,—выказваў Кобрын свае падазрэнні.

— Вы не памыліліся. Апошнія дні ён праводзіць тут.

— Добра, пяройдзем да справы. Толькі што перайшоў граніцу шпіён. Дзесьці не так далёка ён схаваўся. Наша пагоня за ім у

такую цёмную і дажджлівую ноч нічога не дала. Просім арганізаваць комсамольцаў, увесь калгасны актыў, а для чаго—самі ведаеце. Зорка сачыце, не дайце да дня пранікнуць ворагу ў глыб раёна.

— От што, Павел, я думаю так: ты ідзі цераз рэчку на пасёлак і, арганізаваўшы надзейных людзей, расстаў іх па той бок вёскі. Я-ж пайду цераз сад у той канец вёскі і таксама зраблю ўсё, што трэба.

— Добра.

Утрох яны выйшлі з канцылярыі. Кобрын сеў і паехаў, а Павел з Наташай разышліся ў розныя бакі.

Неба ледзь прасвятляла. Лёгкія хмары імчаліся ўперад, здаецца хацелі дагнаць чорныя дажджавыя грывы, каб потым на-хаду разграміць іх ушчэнт. Дождж сціх, вецер узмацніўся.

Тулячы твар да цёплага каўняра, Наташа рушыла нацянькі цераз малады сад. Убаку ад сябе яна заўважыла нейкую постаць, якая, што ўласная цень, кралася паралельна з ёю. Хаваючыся за дрэвы, Наташа рушыла на вырасшую перед ёй фігуру. Аднак, постаць хутка знікла. Парашыўшы, што ёй усё гэта проста здалося, Наташа ўзяла свой ранейшы кірунак да вясковых будынкаў. Але не паспела яна ступіць тры-чатыры крокі ўперад, як паблізу ад яе штосьці грукнула. Раптам яе ахапіла нейкая млявасць. Перад вачыма прабег чалавек. Начная цемра яшчэ больш згусцілася. Як страшыдла наступіла яна на Наташу. Вочы засланіся нейкім туманам. Наташа павольна апусцілася на мокрую зямлю. У яе патухаючай свядомасці яшчэ раз цьмяна праскачыла граніца, парушальнік, заданне...

Раптоўны стрэл разбіў смачны сон Палкана. Як шалёны, з брэхам кінуўся ён у сад. Метраў дваццаць адбег ад дому і, стаўшы пад ігрушынай, працяжна выў. Нечаканы стрэл і выццё сабакі не маглі не навесці калгаснага вартаўніка на розныя здагадкі і меркаванні. Узяўшы бярданку, ён жвава выскачыў на двор і свістам паклікаў да сябе сабаку. Той прыбег, стаў каля гаспадара і, віляючы хвастом, па-ранейшаму выў.

— Кусі, дружок,—гукнуў вартаўнік, жадаючы даведацца ў чым справа.

Сабака з яшчэ большай імклівасцю ірвануўся наперад. Услед за ім, асцярожна падаўся і вартаўнік. Зайшоў у сад на адлегласці якіх-небудзь двухсот крокаў. Спыніўся. Супакоіў Палкана і пачаў прыслухоўвацца. Праз гоман дрэў ён улавіў нейчыя цяжкія стогны. А як адшукаў ды пазнаў Наташу, дык адразу стала цесна ў грудзях. Пабег па людзей. А ўжо хвілін праз пятнаццаць некалькі чалавек на руках занеслі дзяўчыну дадому. Наташу паклалі на ложак. Паклікалі фельчара. Усе прыслухоўваліся к цяжкому яе стогну і дыханню. Кожны думаў адно: рука якога мярзотніка-забойцы магла зрабіць такую агіднасць?

За Наташай увесь час даглядаў Васілёк. Раніцою ён пайшоў у канцылярыю. Толькі падышоў да яе, аж бачыць: у садзе людскі натоўп, а сярод яго—Павел ды пагранічнік Кобрын, які сёння уранні зноў прыехаў з заставы. Васілёк туды падышоў і чуе, як Іван Шаўцоў, паказваючы пальцам на след, кажа:

— Ладзіў я надоечы боты Разбоеву, падбіваў яму абцасы, акурат такую бляшку прыбіў, як гэта от пячатка на сляду. Тут, сказаць вам па-праўдзе, і грызе мяне думка: ці не яго гэта работка.

— Ды ён майстар брудных спраў.—Усе яго паводзіны кажуць за гэта.

Урэшце парашылі пайсці узяць боты Разбоева і прымераць іх к следу. Разам з імі пайшоў і Васілёк. Дома Разбоева не было, жонка адказала, што паехаў у горад па нейкіх вельмі важных справах.

На прыпечку сохлі мокрыя боты. Іх узялі. А як прымералі, то ўсе аж дзіву даліся: боты з бляшкамі на абцасах цалкам прышліся да слядоў. Але што боты? Цяпер яны амаль не патрэбны. Патрэбен іхны гаспадар. Але дзе-ж ён? Куды ён мог дзецца?

Усе разыходзіліся па сваіх хатах. Дома Васілёк пра ўсё расказаў маці, потым пайшоў у школу. Стаіць яна на краю вёскі, у садзе, па якім уночы ішла Наташа. Васілёк назаўсёды рашыў, што ісці з дому ў школу самы кароткі шлях—па агародзе, паўз гумны. От і цяпер ён ідзе так. Параўняўся з гумном Разбоева, прыпыніўся, калі пачуў, як у ім хтосьці поўзае па саломе. Прытаіўшы дыханне, Васілёк прыглядзеўся ў шчыліну. К вялікаму свайму здзіўленню ён убачыў на саломе Разбоева і незнаёмага чалавека, якому Разбоеў даваў хлеб і сала, а той прагавіта еў.

Васілёк паціхеньку адышоў ад гумна і кінуўся ў вёску.

Неўзабаве агарод быў запоўнен людзьмі. Абкружылі гумно, асцярожна пачалі падыходзіць. Раптоўна раздаўся стрэл. За першым—другі, трэці... Стралялі ўдвух. Натоўп не сцярпеў. З рэвальверам у руцэ кінуўся ўперад Кобрын. За ім Павел і ўсе калгаснікі.

Кобрын і Павел першымі ўскочылі ў гумно. Кобрын падбег да Разбоева і адным штуршком збіў яго з ног. Павел кінуўся да незнаёмага. Трэцім убег у гумно Васілёк. Ён убачыў раскладзены на таку агонь. Пакручастае полымя прагна паядала кучу спісаных лістоў, перафарбоўвала паперу ў чорны колер. Васілёк падскочыў да агня, пачаў тушыць і падбіраць незгарэўшыя дакументы.

Разбоева і незнаёмага абяззброілі, вывелі з гумна. Пры святле калгаснікі разгледзелі парушальніка граніцы. Гэта быў цесць Разбоева, якога ў першыя гады калектывізацыі раскулачылі, сям'ю выслалі, а сам ён уцёк у Польшчу.

Павел паклікаў Васілька, які накіраваўся было ў школу.

— Вася, скончыў чытаць „Народжаныя бурай"?

— Скончыў! А што?—паглядзеў ён насцярожана на Паўла і калгаснікаў.

— Ты маладзец. Ты робіш, як Васілёк з кнігі Астроўскага. Ты паступіў, як герой!

— Падумаеш. У чым-жа тут геройства? Геройства мы яшчэ пакажам!.. Але мне пара ў школу.

— Яшчэ не спознішся. Бяжы, вучыся...

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 76, Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792**

## ЗМЕСТ

| | Стар. |
|---|---|
| **Другая Сесія Вярхоўнага Совета СССР** *(перадавы)* | 3 |
| **П. Броўка**—Кацярына, *паэма (канец)* | 9 |
| **В. Кудзімаў**—Мартын-жывапісец *(урыўкі з рамана)* | 29 |
| **А. Русак**—Застольныя песні | 89 |
| **Р. Мурашка**—Пад трыма шкурамі *(апавяданне)* | 91 |
| **Т. Курбацкі**—Ідзі, мая песня *(верш)* | 120 |
| **М. Казлоў**—У кальцы *(апавяданне)* | 121 |
| **М. Калачынскі**—У армію іду. Сустрэча *(вершы)* | 125 |
| **М. Ткачоў**—На граніцы *(апавяданне)* | 127 |

---





Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 15/VIII—38 г. Падпісана да друку 1/X—38 г. Аб'ём $8^1/_4$ друк. арк. Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $62\times94^1/_{16}$. Тыраж 3.600+250 экз. Зак. № 3796 Уп. Галоўліта БССР № 4533.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

